ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 52 (2513)
ПЯТНІЦА
25
верасня 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ.

Цана 8 кап.





## КАМСАМОЛУ БЕЛАРУСІ—50

Плакат В. ТАРАСАВА.

## Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР

### АБ УЗНАГАРОДЖАННІ ЛЕНІНСКАГА КАМУНІСТЫЧНАГА САЮЗА МОЛАДЗІ БЕЛАРУСІ ОРДЭНАМ ЛЕНІНА

**За актыўны ўдзел у сацыялістычным і камуністычным будаўніцтве, за вялікую работу па выхаванні моладзі ў духу адданасці запаветам У. І. Леніна і ў сувязі з 50-годдзем ЛКСМ Беларусі ўзнагародзіць ЛЕНІНСКІ КАМУНІСТЫЧНЫ САЮЗ МОЛАДЗІ БЕЛАРУСІ ордэнам ЛЕНІНА.**

Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР
М. ПАДГОРНЫ.

Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР
М. ГЕАРГАДЗЕ.

Масква, Крэмль, 23 верасня 1970 г.

# ЛЕНІНСКАМУ САЮЗУ МОЛАДЗІ

ЦЭНТРАЛЬНЫ Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі горача вітае і віншуе камсамольцаў, усіх юнакоў і дзяўчат рэспублікі са слаўным 50-годдзем Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі Беларусі. Паўвекавы юбілей ЛКСМБ — гэта вялікае і знамянальнае свята не толькі для моладзі, але і людзей старэйшых пакаленняў, якія атрымалі ў радах камсамола высокую ідэйную загартоўку, значны вопыт грамадскай дзейнасці.

Камсамол Беларусі, з'яўляючыся адным з баявых атрадаў ВЛКСМ, дастойна нясе эстафету працоўнай і ратнай славы, заўсёды і ва ўсім выступаючы верным памочнікам і надзейным рэзервам вялікай партыі Леніна. Яго выхаванцы прымалі самы актыўны ўдзел у станаўленні і ўмацаванні Савецкай улады, індустрыялізацыі рэспублікі і калектывізацыі сельскай гаспадаркі, у барацьбе за выкананне планаў першых пяцігодак, у ажыццяўленні культурнай рэвалюцыі.

Мужнасць і гераізм, праяўленыя камсамольцамі і моладдзю Беларусі ў радах Савецкай Арміі і партызанскіх атрадах у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, знайшлі ўсенароднае прызнанне — Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі Беларусі ўзнагароджан ордэнам Чырвонага Сцяга.

Подзвігу ратнаму роўны і працоўны подзвіг беларускай моладзі на шырокім фронце аднаўленчых работ. Па закліку партыі тысячы юнакоў і дзяўчат на выпаленай акупантамі зямлі актыўна ўдзельнічалі ва ўзвядзенні новых заводаў і фабрык, аднаўленні і новым будаўніцтве гарадоў і вёсак рэспублікі. У мірнай стваральнай працы камсамольцы і ўся моладзь у той цяжкі і складаны для народа час паказалі выключны энтузіязм і высокую арганізаванасць.

Камсамол Беларусі, працягваючы і развіваючы лепшыя традыцыі старэйшых пакаленняў, і сёння выступае актыўным арганізатарам моладзі ў барацьбе

## КАМСАМОЛУ БЕЛАРУСІ — 50

# У ІМКЛІВАСЦІ КОЖНАГА ДНЯ...

Генадзь АНЦІПАЎ,
сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі



ЛЕНІНСКІ камсамол Беларусі — юбіляр. Яму спаўняецца 50 гадоў. Час нараджэння — верасень 1920 года. Паходжанне — з рабочых, сялян і прагрэсіўнага студэнцтва. Мэта жыцця — будаўніцтва камунізма. Сённяшні сацыяльны партрэт — сярод амаль мільённага атрада камсамольцаў больш 325 тысяч рабочых і калгаснікаў, 38 тысяч інжынераў, тэхнікаў і спецыялістаў сельскай гаспадаркі, больш паловы членаў ВЛКСМ — маладыя людзі з вышэйшай і сярэдняй адукацыяй.

Паўстагоддзя назад тры тысячы барацьбітоў за ўладу Саветаў назвалі сябе такім словам — камсамольцы. Былі яны ў будзёнаўках, з карабінамі цераз плячо, кулямётнымі стужкамі крыж-накрыж.

Былі яны байцамі вайны грамадзянскай. Вайны за новы свет, за новае жыццё.

Той час нараджаў бессмяротных герояў. Пра іх складалі вершы, спявалі песні. Суровыя гады грамадзянскай вайны адгукнуліся ў чуйных сэрцах байцоў, што сталі потым пралетарскімі пісьменнікамі, мастакамі, кампазітарамі. Маладнякоўцы М. Чарот і А. Александровіч, А. Вольны і А. Дудар, Ц. Гартны і З. Бядуля ў сваіх кнігах апелі рамантыку вогненных гадоў грамадзянскай вайны.

У тыя цяжкія гады гартаваліся галоўныя рысы камсамольскага характару — беззапаветная адданасць справе рэвалюцыі, партыі бальшавікоў, Савецкай Радзіме. Вось ужо паўстагоддзя гэтыя рысы пераходзяць з пакалення ў пакаленне.

У першыя гады мірнага будаўніцтва адрасамі камсамольскай славы сталі БелДРЭС і Гомсельмаш, Асінторф і Аршанскі льнокамбінат, Магнітка і Камсамольск-на-Амуры, Крычаўскі цэментны завод і магістраль Масква — Мінск. Гэта былі гады, калі на змену баявой рамантыцы прыйшла рамантыка працоўных будняў, якая нараджала новых герояў, энтузіязм, маладую энергію, працоўны гераізм. Многа кніжак напісана пра той час, многа герояў прыйшло на іх старонкі з будоўляў першай пяцігодкі, рабфакаў і атрадаў «лёгкай кавалерыі». Яны жывуць і цяпер у творах песняроў беларускага народа Янкі Купалы і Якуба Коласа, народных пісьменнікаў Міхася Лынькова і Петруся Броўкі, выдатнага чалавеказнаўцы Кузьмы Чорнага і аднаго з сакратароў ЦК ЛКСМБ, пісьменніка Платона Галавача, у творах многіх іншых майстроў літаратуры.

Ударным фронтам моладзі была калектывізацыя сельскай гаспадаркі. Толькі ў 1929 годзе беларускія камсамольцы арганізавалі каля 200 калгасаў. У першыя два гады калектывізацыі ў камсамол уступіла больш 12 тысяч юнакоў і дзяўчат.

То быў час жорсткай барацьбы з кулакамі, барацьбы, якая каштавала жыцця не аднаму камсамольцу. Вось радкі з газет таго часу: «Каля вёскі Выселкі Пухавіцкага раёна забіты селькор-камсамолец Рыгор Жлобіч», «Пры арганізацыі калгаса забіты сакратар Тураўскага райкома камсамола тав. Завалкаў...»

Але ні забойствы, ні падпалы, ні пагрозы не зламалі волі маладых барацьбітоў за новае жыццё.

Тыя гады для камсамола Беларусі — гэта не толькі гады ўдарніцтва, новабудоўляў, тэхнічнай вучобы, барацьбы з кулакамі і бандамі. Гэта час духоўнага ўзлёту, паходу за авалоданне культурай, навукай. Камсамол Беларусі быў актыўным распаўсюджвальнікам мастацкай і палітычнай літаратуры. У 1928 годзе бюро ЦК ЛКСМБ абавязала камсамольскія ячэйкі мець на тэрыторыі кожнага сельскага Савета не менш двух камсамольцаў-кніганошаў. Сябры кнігі шырока выкарыстоўвалі масавыя формы прапаганды літаратуры: «вечары», «тыдні», «месячнікі». Беларускія пісьменнікі, мастакі і кампазітары былі пастаяннымі гасцямі заводскай і сельскай моладзі. У хатах-чытальнях, у вясковых клубах ставіліся спектаклі, працавалі гурткі мастацкай самадзейнасці.

У трыццатыя гады маладое племя захаплялася мужнасцю герояў-лётчыкаў, палярнікаў, тых, хто скараў прастору і час, здзіўляў свет сваімі поспехамі. Але маладосць краіны ні на хвіліну не забывала пра небяспеку, рыхтавалася да абароны Радзімы. Ужо тады пад кіраўніцтвам партыі камуністаў кавалася перамога ў будучай бітве з фашызмам, ужо тады загартаванае ў баях і працы юнацтва было гатова вытрымаць любыя выпрабаванні.

І калі чорным досвіткам перуном ударыла вайна, моладзь рэспублікі па закліку Айчыны-маці ўстала на смяротны бой. Больш 100 тысяч бясстрашных камсамольцаў пайшлі на фронт. Пад кіраўніцтвам партыйных арганізацый на тэрыторыі акупіраванай Беларусі дзейнічалі 10 падпольных абкомаў, 210 гаркомаў і райкомаў камсамола, якія аб'ядноўвалі 5700 пярвічных камсамольскіх арганізацый. Навекі ўвайшлі ў гісторыю баявыя справы камсамольцаў-падпольшчыкаў Мінска, Гомеля, Жлобіна, Оршы, Скідэля, Асінторфа, Ліды, Обалі і іншых гарадоў і вёсак рэспублікі.

Як заўжды на пярэднім краі барацьбы, сярод лепшых сыноў і дачок Радзімы былі нашы пісьменнікі, артысты, мастакі. Іх вершы, песні, апавяданні гучалі ля партызанскіх кастроў і на франтавых прывалах, чыталіся ў зямлянках і акопах, перадаваліся з рук у рукі.

Лясныя паляны, дзе сталі на кароткі прывал танкісты, былі сцэнай для артыстаў купалаўскага тэатра і тэатра імя Якуба Коласа. «Савецкая літаратура,— пісаў Леанід Собалеў,— стала байцом і настаўнікам адвагі, стойкасці, вернасці, яна сама, як воін, ішла наперадзе палкоў у бой, робячы тое чароўнае ўздзеянне на свядомасць людзей, якое называецца натхнёным парывам».

За смеласць і гераізм, адвагу і мужнасць, стойкасць і непахісную веру ў перамогу, праяўленыя ў барацьбе з фашызмам, беларускі камсамол быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. Героямі Савецкага Саюза сталі 73 камсамольцы-беларусы. Вечна будуць жыць у памяці народа імёны Аляксандра Ісачанкі і Міхася Сільніцкага, Фядоса Смалячкова і Мікалая Кядышкі, Ефрасінні Зяньковай, Барыса Царыкава, Зінаіды Тусналобавай і дзесяткаў іншых. Ордэнамі і медалямі адзначаны 37 тысяч маладых патрыётаў рэспублікі.

Адгрымела вайна, і загартаванае ў баях маладое племя рэспублікі самааддана ўзялося за аднаўленне разбуранай фашызмам гаспадаркі. Над руінамі гарадоў і папялішчамі вёсак, над разбуранымі, зраненымі асколкамі карпусамі заводаў і электрастанцый, школ і бальніц узняліся лозунгі: «Зробім нашы гарады і вёскі прыгажэйшымі, чым да вайны».

Сёння камсамольскае юнацтва гартуецца на ўдарных франтах камуністычнага будаўніцтва. Восем важнейшых новабудоўляў рэспублікі носяць гордае імя «Ударныя камсамольскія», 20 тысяч няўрымслівых хлопцаў і дзяўчат праходзяць тут сапраўдную школу працоўнай загартоўкі.

На палях рэспублікі працуюць больш 50 тысяч маладых механізатараў, ударнай камсамольскай аб'яўлена меліярацыя Палесся.

Такі ўжо звычай у камсамола — быць заўсёды там, дзе цяжка.

У імклівасці кожнага дня, у кожнай мінуце рабочага часу праяўляецца нястрымная энергія нашай моладзі. На сённяшні дзень больш 50 тысяч юнакоў і дзяўчат рапартавалі аб выкананні заданняў пяцігадовага плана. Да юбілею камсамола Беларусі каля 300 тысяч юнакоў і дзяўчат рэспублікі выканалі свае асабістыя абавязацельствы. Камсамольцы і моладзь за 50 ударных дзён перадюбілейнай вахты ў фонд эканоміі ўнеслі больш 2 мільёнаў рублёў.

Сёння, напярэдадні камсамольскага юбілею, мы можам з гонарам сказаць — цяперашняе пакаленне моладзі працягвае слаўныя традыцыі бацькоў, выдатна здае экзамен на рэвалюцыйную сталасць. Надзейным компасам юнакоў і дзяўчат з'яўляецца марксісцка-ленінская навука, якая ўзбройвае іх неабходнымі ведамі, прыдае ім упэўненасці ў барацьбе і рабоце.

У рашэннях XVI з'езда ВЛКСМ, XXIV з'езда ЛКСМБ вызначана, што авалоданне ленінізмам і надалей павінна быць галоўнай лініяй работы камсамольскіх арганізацый.

Сёння, напярэдадні 50-годдзя ЛКСМБ, мы з гонарам рапартуем партыі і народу: беларускі камсамол верны клятве сваіх бацькоў, жыве і будзе жыць па запаветах вялікага Леніна. Наш маналітны маладзёжны саюз самым высокім гонарам для сябе лічыць быць баявым памочнікам і надзейным рэзервам партыі Леніна.

Цяперашняе пакаленне камсамола вырасла пад мірным небам нашай Радзімы. Але неспакойнае неба над нашай планетай. За пасляваенныя гады не было такога дня, каб дзе-небудзь, у «палаючых кропках» планеты не рваліся бомбы і снарады, не палалі мірныя гарады і вёскі.

Імперыялізм точыць зубы на нас, на нашы агульныя заваёвы.

У абстаноўцы жорсткай ідэалагічнай барацьбы вялікае значэнне мае вастрыня класавага пачуцця, усведамленне высокай адказнасці перад народам. Нам нельга ні на мінуту забываць, што буржуазная прапаганда падымае на шчыт любыя нашы памылкі і недаробкі. Асабліва яна імкнецца віць сваю ганебную павуціну вакол маладой творчай інтэлігенцыі. У гэтай сувязі варта успомніць словы Уладзіміра Маякоўскага: «Да зробленага літаратурнага твора стаўлюся, як да зброі... Здача гэтай зброі ў белую прэсу павялічвае арсенал ворага. У сённяшнія дні гусцеючых хмар гэта роўна франтавой здрадзе».

Таму ідэйная стойкасць, партыйная прынцыповасць і ленінская перакананасць у нашай агульнай справе павінны быць самай неабходнай зброяй маладога творчага работніка. І нам сёння прыемна адзначыць, што наша літаратура, мастацтва ішлі і ідуць у нагу з жыццём, дапамагаюць моладзі асэнсоўваць пройдзены шлях, пераконвацца ў праваце нашай барацьбы. Нам сёння вельмі прыемна адзначыць, што сярод вялікай арміі работнікаў літаратуры і мастацтва ёсць лаўрэаты прэміі Ленінскага камсамола Беларусі — Аркадзь Куляшоў, Іван Навуменка, Май Данцыг, кампазітары Генадзь Цітовіч, Ігар Лучонок, драматург Канстанцін Губарэвіч, кінарэжысёр Леў Голуб і іншыя.

Сувязі камсамола Беларусі з творчай моладдзю ў апошнія гады праяўляюцца ўсё больш ярка. Умацаванню гэтага кантакту садзейнічаюць арганізацыі мастацкіх выставак, тэатральных фестываляў, фестываляў паэзіі, сучаснай музыкі, песні, конкурсы маладых выканаўцаў. Вось і цяпер, напярэдадні свята, паспяхова прайшлі конкурсы паэзіі і прозы, харавых калектываў, выканаўцаў савецкай песні, эстрадных аркестраў. Кожны год ЦК

Уладзімір МЯЖЭВІЧ

# У НЕЗАБЫЎНЫЯ ДВАЦЦАТЫЯ...

**Камсамольцам дваццатых гадоў, незабыўным дням, авеяным рамантыкай барацьбы за новае, шчаслівае жыццё, барацьбы, у першых радах якой крочыла моладзь, я прысвяціў кнігу «Яны былі першыя», якая выходзіць у выдавецтве «Народная асвета». Прапаную ўвазе чытача адзін з раздзелаў гэтай кніжкі.**

**АЎТАР.**

Сярод лета камсамольцаў узрушыла здарэнне з іх маладым сябрам Астапам Драздом.

Працаваў Астап на суконнай фабрыцы вучнем слесара. Жыў ён у былым панскім бараку, дзе для яго адгарадзілі маленькі куточак побач з агульнай кухняй. Барак стаяў на абрывістым беразе Лешчы. Праз маленькае акенца Астап бачыў пяціпавярховы корпус фабрыкі, блакітнае неба, рэчку, а за ёю—лог, высокую гару, з якой зімой дзеці з крыкам і смехам з'язджалі на санках.

Цяжкае дзяцінства было ў Астапа. Стараўся не ўспамінаць голад, холад, сінякі і абразы. Малым астаўся без бацькоў, беспрытульным аб'ездзіў краіну ў вагонах і пад вагонамі.

Выцягнуўся хлопец, але застаўся худы, нязграбны, вуглаваты. Негаваркі, заўсёды пануры, Астап трымаўся ў баку ад людзей, не заводзіў сяброў.

Аднойчы на адкрыты камсамольскі сход Астапэ прывяла Клаўдзя Шудлюк, маладая, вясёлая прадзільшчыца, дачка вядомай тады ткачыхі. Яна заглянула ў дзверы, на хвіліну знікла, а неўзабаве паказаўся Астап Дрозд. Клаўдзя падштурхоўвала яго.

— Заходзь смялей, Астап!

Сход яшчэ не пачынаўся. Дзяўчына кінула позірк на сяброў і нібы апраўдваючыся сказала:

— Сядзіць адзін, пазірае воўкам на людзей. Я падумала, што яму з намі будзе лепш.

З таго дня пачалося новае жыццё Астапа. Ён ахвотна прыходзіў на сходы. Калі чым-небудзь захапляўся, праўда гэта было рэдка, то рагатаў ад душы, пляскаў у далоні з усяе сілы. Слухаючы вясёлыя расказы Барыса Тылецкага пра яго вайсковыя прыгоды, Астап зайздросціў сакратару. «Вось гэта жыццё»,—казаў іншы раз. Камсамольцы радаваліся. Чалавек мяняўся на вачах.

Хутка Астапа прынялі ў камсамол.

З тых дзён не прайшло і паўгода, як аднойчы Клаўдзя Шудлюк запыніла на дарозе Янку Буцько і, пачала ўсхвалявана расказваць.

— Ну, хто б мог падумаць, што на такое здольны гэты ціхоня, Астап Дрозд!

— А што ён зрабіў?

— Табе нічога не казалі?

— З нядзелі не быў дома—касіў у Раманоўцы.

— У пасёлку толькі і гаворкі пра Астапа ды Альжбету Крупенькіну.

— Прычым тут Альжбета?

— Яна забрала да сябе Астапа.

— На кватэру?

— На якую кватэру?—абурылася Клаўдзя.—Ты нейкі дзівак, Янка. Нібы маленькі. Выйшла за яго замуж... Не, пачакай, не выйшла, а сама на ім ажанілася... Заблыталася зусім я. Адным словам, Альжбета зрабіла нашага Астапа сваім мужам...

— Альжбета ж удава, ёй пад трыццаць, а Астап жа... Ён не старэй за нас...

— Ён 1906 года, яму, значыць, семнаццаць.

— Можа так, плявузгаюць?

— Дзе там плявузгаюць! Калі ты яго апошні раз бачыў? У нядзелю на сходзе?

— Здаецца.

— Цяпер ты яго не пазнаеш. Ходзіць франтам у касцюме былога Альжбецінага мужа. Хоць гарнітур і старога купецкага крою, ляжыць, як уліты. Учора сустрэла іх у парку. Яна вяла Астапа пад руку. Смехата. Я бягу да Барыса, трэба сабраць бюро ячэйкі. Ты ж член бюро, хадзем разам!

— Мне трэба ў кузню. Лямеш аддаў наварыць.

— Табе важней лямеш, чым лёс камсамольца? — нядобра глянула Клаўдзя.—Потым сходзіш.

— А навошта збіраць бюро?

— Як гэта навошта? Сёння Астапа, а заўтра такія Крупенькіны падхопяць каго другога. Трэба ваяваць з мяшчанствам. Ты ж сам на сходзе казаў, што мяшчанства—гэта агіднае балота.

— Я гаварыў пра танцы і розныя буржуйскія штучкі.

— А я табе, Янка, так скажу: хутчэй можна пагадзіцца з танцамі, чым з тым, што зрабіў Астап. Калі не прыняць меры, кожны захоча ажаніцца ці выйсці замуж, а што тады будзе з нашай ячэйкай? Хто пойдзе на сход, на заняткі, калі будзе прывязаны да сям'і. А там у царкву зацягнуць ці яшчэ куды!

— Чаго ты, Клава, да мяне прычапілася? Нібы ажаніўся не Астап, а я?

— Я хачу ведаць,—перакінула цяжкую касу на спіну Клаўдзя,—як ты глядзіш на ўсё гэта: асуджаеш ці можа спачуваеш Астапу?

— Дзівачка, як я магу спачуваць?

— Тады хадзем да Тылецкага!

Клаўдзя схапіла Янку за руку і пацягнула да панскага палаца.

Тылецкага засталі дома. Барыс выйшаў на ганак, павітаўся, сеў на лаўку, паселі і Клаўдзя з Янкам.

— Што гэта вы, як жаніх і нявеста, разам ходзіце?

Абое сумеліся. Тылецкі глянуў на іх і сам неяк разгубіўся.

— Я пажартаваў... Чаго завіталі, таварышы?

— Клаўдзя вось... кажа трэба збіраць бюро.

— З якой прычыны?

— Крупеньчыха ажаніла на сабе Астапа, а мы маўчым,—бліснула вачыма Клаўдзя.—Трэба выклікаць яе на бюро!

— Яна ж не камсамолка!

— А майго дзядзьку Паўла, чалавека з сівай барадой, выклікалі, калі Аркадзь нажлукціўся самагонкі?

— Выклікалі. Але ж там зусім іншае... Наогул задаў задачу нам твой Астап.

— Выходзіць, я вінаватая?

— Цішэй, Клаўдзя, не гарачыся,—лагодна сказаў Барыс.—Нам сапраўды трэба сабрацца ды разам падумаць. Калі праўду казаць, дык і я думаў пра гэтую гісторыю. Толькі ці маем мы права ўмешвацца ў сямейныя справы?

— Думаю, што маем,—усхапілася Клаўдзя.

— А калі ён кахае тую Крупеньчыху, што тады? Мы ж не можам забараніць такое.

Янка адвярнуўся, каб Тылецкі не бачыў, як яму раптам стала смешна. «Ты сам,—думаў Буцько,—закахаўся ў дачку арандатара, а цяпер падводзіш базу. Не можам забараніць! Дзіўна. Клаўдзя праўду кажа, што калі раптам усе закахаюцца, дык хто тады будзе працаваць па ліквідацыі непісьменнасці, змагацца з самагоншчыкамі, выяўляць па вёсках батракоў, абараняць іх інтарэсы, дапамагаць сельсаветчыкам. Кожны, як гэты Астап, возьме пад ручку красуню і, павядзе яе ў парк. Не, гэта непарадак!»

— Нязгодна! — даводзіла Клаўдзя.—Каб Астап пакахаў камсамолку, тады, можа, мы яшчэ маглі б пагадзіцца. А так—не.

— Ці не раўнуеш ты, Клаўдзя?—спытаў Барыс з нейкай яхіднай усмешкай.

— Здурнеў, ці што?—крыкнула Клаўдзя.—Я нікога не кахаю і не збіраюся займацца такім мяшчанствам.

— Мець сям'ю—гэта не мяшчанства,—разважліва сказаў, падумаўшы, Тылецкі.—Як жа мы камунізм пабудуем? Таварыш Ленін на з'ездзе камсамола гаварыў,—мы ж вывучалі яго прамову—што людзі, якім зараз па 50 гадоў, не пабачаць камунізма, а іх дзеці, унукі будуць жыць у камуністычным грамадстве. Калі мы, камсамольцы, ператворымся ў манахаў, то разам з намі памрэ і наша мара пра камунізм. Я табе, Клаўдзя, дам кніжку пра Карла Маркса і яго сям'ю. Прачытаеш, як ён кахаў сваю Жэні, а яна яго, як яны разам любілі сваіх дачок.

*Исполниться надежде*
*Настал желанный срок,*
*Обрел я то, что прежде*
*В мечтах лишь видеть мог.*
*Все то, что мой разум*
*Не одолел трудом,*
*Открылось сердцу разом*
*Во взоре дорогом.*

Прадэкламаваўшы гэтыя радкі, Барыс паглядзеў на Клаўдзю і Янку.

— Як думаеце, хто напісаў гэтыя вершы? Фет, Надсан, Лермантаў, Пушкін? Не, даражэнькія, гэта напісаў сваёй нявесце Жэні, пасля заручын, Карл Маркс, аўтар «Капітала»!

— А хто была гэтая Жэні?—запраменіла вачыма Клаўдзя.

— Баранеса фон Вестфален...

— Баранеса? І з ёй ажаніўся Карл Маркс?!

— Як бачыш, ажаніўся. Пасля яе смерці Фрыдрых Энгельс, самы блізкі сябра, паплечнік Маркса, сказаў, што калі існавала на свеце жанчына, якая бачыла сваё шчасце ў тым, каб рабіць шчаслівымі іншых—то гэта была Жэні Маркс. Яна была адважным і нястомным таварышам у гіганцкай барацьбе Маркса і найвялікшым шчасцем яго жыцця.

Усе трое маўчалі хвіліну. Клаўдзя і Янка былі ўзрушаны тым, што пачулі. Барыс не спяшаўся, чакаў.

— Усё роўна я не згодна з Астапавымі паводзінамі,—парушыла цішыню Клаўдзя.

Барыс зірнуў на яе і сказаў:

— Хачу дадаць ад сябе, што без кахання няма жыцця. Не думайце, што камсамольцы адмаўляюць чалавечыя пачуцці. Яны імкнуцца ачысціць адносіны людзей, што кахаюць адно аднаго, ад усяго хлуслівага, уласніцкага, рабскага, зрабіць гэтыя адносіны чыстымі, светлымі, вартымі чалавека.

Клаўдзя і Янка разгублена пераглянуліся.

— Збярэмся заўтра і пагаворым,—узняўся з лаўкі Барыс.—Прыходзьце на бюро.

Клаўдзя і Янка вярталіся ад Тылецкага моўчкі. Прайшлі міма парку, пачалі спускацца да возера.

— Што здарылася з Тылецкім? Як падабаецца табе, што ён нагаварыў?—пачала Клаўдзя.

— Не ведаю, як ты, а я не веру, каб Карл Маркс пакахаў баранесу,—сказаў Янка.

Клаўдзя не азвалася. Яна стаяла і думала.

— Барыс казаў, што дасць табе кніжку пра каханне Маркса,—прыгадаў Янка.—Вярніся, вазьмі тую кніжку, а я цябе пачакаю за мастком.

— Сапраўды,—спахапілася Клаўдзя,—мы пайшлі, а пра кніжку я забылася. Чакай, я зараз.

Клаўдзя пабегла, а Янка прайшоў берагам возера. Дзверы ў кузню былі замкнёны. Буцько прысеў на раме, дзе ў сонечныя дні сушылі сукны. Прысеў і задумаўся. Яго непакоіла пачутае. «Няўжо так павінны камсамольцы ставіцца да жаніцьбы? Можа, праўду кажа Тылецкі, што камсамол не манастыр, а камсамольцы не манахі». Насцярожвала нейкая асаблівая, як здалося Янку, зацікаўленасць Барыса. Чаму да гэтага часу ніколі не было такой гаворкі. Мяшчанства, мяшчанства... А вось табе і нешта горшае за мяшчанства.

Да сённяшняга дня ўсе было ясна. Задачы акрэслены, абавязкі вядомы. Цяпер жа ў галаве каша. Паспрабуй разбярыся, знайдзі правільнае рашэнне. Як трымацца на заўтрашнім бюро? Згаджацца з Барысам, ці пярэчыць яму? Можна здагадацца, якую лінію зойме Тылецкі. А ён, Янка? Хоць сказаў Клаўдзі, што асуджае Астапа, але цяпер у яго няма такой упэўненасці.

Дрозд адзін, як кол. Няма ў яго нікога родных. Вядома, ячэйка—гэта сям'я. Але ў такой сям'і не памыюць кашулі, не згатуюць снедання, не праявяць іншага чалавечага клопату. Раптам прыгадалася, як ён аднойчы квактусе, якая толькі што вывела куранят, падкінуў маленькае качаня. Яно было такое кволае, няшчаснае, што жыцця яму заставалася, можа, гадзіна ці дзве. А квочка сваёй пяшчотай адагрэла качаня. Што калі Альжбета прынясе няшчаснаму Астапу тую самую пяшчоту, без якой цяжка жыць чалавеку?

Падоўжыліся цені. Сонца хавалася за паркам і возера цямнела.

— Вось ты дзе, а я шукаю каля мастка,—выйшла з-за кузні Клаўдзя.

— Даруй, што затрымалася. Зноў паспрачалася з Барысам, але кніжку ён даў. Аж дзве.

Яна перадала кніжкі Янку. Адна цяжкая, тоўстая, як біблія, што ляжыць пад абразамі ў цёткі Вікці. Янка прачытаў уголас: «Франц Мерынг. Карл Маркс. Гісторыя яго жыцця. Масква, 1920 год». Другая зусім тонкая — «Вільгельм Лібкнехт. З успамінаў пра Маркса».

Буцько трымаў кніжкі, не ведаў, што з імі рабіць.

— Вось тут ён зрабіў закладку, глядзі.

Янка разгарнуў кніжку і пачаў чытаць радкі, што былі падкрэслены чырвоным алоўкам:

«Марксу было 17 гадоў, калі ён заручыўся з баранесай Жэні фон Вестфален. Праз сем гадоў яны пажаніліся».

«Жэні на чатыры гады была старэйшая за Карла».

«Жэні акружаў натоўп паклоннікаў. Бачылі ў ёй не толькі рэдкую прыгажуню, але і дачку высокапастаўленага саноўніка».

«Жэні ахвяравала ўсім дзеля будучыні з Марксам. А будучыня несла ёй незлічоныя пакуты, страты, вандраванні па краінах свету, часам галечу, але і радасць барацьбы поплеч з любімым чалавекам».

Адну за другой чытаў Янка старонкі, а Клаўдзя не адводзіла ад яго вачэй.

Тым часам сцямнела, і Янка ледзь разабраў радкі тых самых вершаў, што сёння чытаў ім Тылецкі.

— Якая жанчына!—уздыхнула Клаўдзя.—Праўду казаў Барыс. Ёсць на свеце каханне.

— А ты сумнявалася?

— Канечне...

— Як жа мы будзем заўтра? На бюро.

— Трэба высветліць, ці кахаюць яны адно аднаго? Калі кахаюць, то няхай сабе жывуць. У Маркса і то жонка была на чатыры гады старэйшая за яго, а што пытаць з нашага Астапа. Мне заўтра ўставаць на досвітку. Можа б ты, Клава, забегла яшчэ да Барыса і сказала яму, што не варта выклікаць на бюро Альжбету.

— Не, я не згодна. Няхай выклікае. Альжбета павінна ведаць, што нясе адказнасць за свой учынак. Каб не зрабіла так, як Савінчыха. У той кожны месяц новы муж. Дарэчы, чаму вы не зловіце гэтую самагоншчыцу, што апойвае сваёй атрутай многіх рабочых?

— Сачылі, але дзе ты яе зловіш?

— Сорам! Бегаеце ліха ведае дзе, гарцуеце па лесе, а яна гоніць у вас пад носам.

— Дзе-е? — перасмыкнуўся Янка.

— Ведаеш роў, зарослы хмызняком, што дзеліць казловіцкія і крывушанскія землі?

— Ведаю.

— Там ля самай рэчкі ёсць пячоры. У адной з іх і шукайце апарат Савінчыхі...

— Добра, што сказала. Цяпер нідзе не дзенецца...

Янка па сонцы разлічыў, што паспее на бюро. Але спазніўся. Прыйшоў, як кажуць, на шапачны разбор. Тылецкі ведаў Буцько як хлапца акуратнага, дысцыплінаванага і здзівіўся.

— Што ж гэта ты падвёў нас? Ледзь не гадзіну чакалі! Нядобра так!

— Так выйшла,—вінавата прызнаўся Буцько і прысеў побач са сваім сябрам Акулавым.

Насупраць сядзелі маладыя—Альжбета і Астап. Твары іх былі вясёлыя. «Значыць усё вырашылася на іх карысць»—падумаў Янка. Астап сапраўды перамяніўся: ён быў у чыстай, добра адпрасаванай кашулі, у новых штанах. Валасы прычасаныя. Але не гэта ўразіла Янку. Астап трымаўся неяк інакш. Яго погляд, пастава сведчылі, што ён не толькі прыемна ўзрушаны, але бязмерна шчаслівы.

Янка адвёў ад маладых вочы і сустрэўся з асуджальным позіркам Клаўдзі: «Не чакала ад цябе такога спазнення».

Янка развёў рукамі: не вінаваты.

А тут загаварыла маладая.

— Тут некаторыя казалі,—Альжбета глянула на Клаўдзю,—што я не камсамолка, не падыходжу Аста-

пу. Дык я рашыла—запісвайце мяне ў камсамол. Я на гэта згодная.

— Значыць, з мілым хоць куды?—Тылецкі паглядзеў на Альжбету, потым на Янку, падміргнуўшы яму.—Колькі ж вам гадоў, Альжбета?

— Суседкі пляткараць, ім зайздросна, няхай ім языкі паадсыхаюць, нібыта мне 28. Клянуся, як на спаведзі, што хлусяць. Калі за нябожчыка Фёдара мяне аддавалі, яшчэ шаснаццаці не было, ды чэснай удавой пражыла дзевяць гадоў. Вось і палічыце!

— Добра,—сказаў Барыс.—Пішыце заяву, разгледзім.

— Дык зараз Астап Захаравіч і напіша. Ён выводзіць вельмі прыгожыя літары,—з замілаваннем глянула Альжбета на Дразда.

— Не, не зараз, дома напішаце...

Калі маладыя пайшлі, Барыс сказаў членам бюро:

— У мяне такое ўражанне, што з Дразда яна зробіць чалавека. Лепшай ткачыхі ў нас няма. Яна сумленная, працавітая. Не пашчасціла ёй ў жыцці. Адзін тыдзень жыла са сваім Фёдарам. Трагічна загінуў чалавек. Яна сабе, як жанчына, цану ведае. Пра яе дрэннага ніхто не скажа. Пакахала жанчына. Ды не толькі яна. Астап таксама. Думаю, што зладзіцца добрая сям'я. Калі так, то мы зрабілі неблагую справу.

Ніхто нічога не сказаў. Тылецкі абвясціў пасяджэнне закрытым. Пачалі разыходзіцца.

Клаўдзя шапнула Янку.

— Я на хвілінку затрымаюся, каля ганку пачакай мяне.

Калі выбегла, яны пайшлі разам.

— Чаму ты спазніўся, што-небудзь здарылася?

— Нічога асаблівага,—неахвотна сказаў Буцько.—Ты выступала на бюро?

— Выступала, але сябе дакараю зараз, бо гаварыла не тое, пра што думала. Як прачытала пра Жэні фон Вестфален, дык не магу супакоіцца. Стаіць перад вачыма гэтая жанчына... Скажы, чаму ты спазніўся на бюро? Бачу, нешта тоіш.

— Няма чаго мне таіць. Хацеў як хутчэй, а выйшла наадварот. З раманоўскіх лугоў пабег напрасткі дахаты. Думаў перакусіць чаго перад бюро...

— Ну?

Янка расказаў што ратаваў тапельца, свайго школьнага сябра.

— Пакуль яго адкачвалі, прыводзілі ў прытомнасць, прайшоў час, я спазніўся.

— Чаму ж не сказаў аб гэтым Барысу?

— Я ж сказаў, так здарылася...

— Дзівак!—з дакорам глянула на Янку Клаўдзя і перадражніла.—Так здарылася! ...Трэба было сказаць, што ратаваў тапельца. А то -- так здарылася! Можна падумаць, што праспаў, загуляўся. У Тылецкага напэўна склалася ўражанне, што ты спазніўся без дай прычыны.

— Кінь, Клаўдзя! Барыс ведае, што калі я спазніўся, то была важная прычына. Не хацеў я да сваей асобы прыцягваць увагу членаў бюро. Падумаеш, выцягнуў з вады тапельца! Хіба ён апошні. Можа калі-небудзь і мяне хто выратуе...

— Яшчэ што выдумай!—жахнулася Клаўдзя.

— А памятаеш Волю Гуляеву?

— Дык яна ж закахалася, дурніца.

— Баюся, што і са мной такое здарыцца...

Клаўдзя зрабіла выгляд, што не разумее Янкавых слоў. А памаўчаўшы сказала:

— А ведаеш, мне шкада Альжбету. Ёй сапраўды не пашчасціла ў жыцці. Наш Барыс—мудры чалавек! Ён правільна паставіўся да жаніцьбы Дразда. Жыццё ёсць жыццё. З гэтым трэба лічыцца. Толькі наўрад ці прынясе Астап ёй шчасце.

— Прынясе,—сказаў Янка.

У першую ж нядзелю Карл Федаравіч Жаромскі, сівы, паважны дзед, былы фурман барона Корфа, запрог у шыкоўны панскі фаэтон шэрага ў яблыкі жарабца і рыжую кабылку. Некалі на гэтым фаэтоне Жаромскі вазіў на прагулку баранесу. Толькі коні былі вараныя.

Карл Федаравіч ведаў, як падаваць фаэтон у асабліва ўрачыстых выпадках. Дугу абвіў каляровымі стужкамі, павесіў званочак, а сам фаэтон начысціў да бляску так, што медзь сляпіла вочы.

Маладую вывелі сяброўкі, а Астапа—дружкі. Усаджваліся пад вясёлы марш машыніста Гарашэвіча.

Дзеці сыпанулі ўслед, як толькі Жаромскі сцебануў лейцамі коней. Беглі да самага сельсавета, дзе запісвалі маладых...

(Заканчэнне на 7-й стар.).

## Камсамолу Беларусі — 50 год...

24-га верасня ў памяшканні Дзяржаўнага мастацкага музея БССР адкрылася рэспубліканская выстаўка, прысвечаная слаўнаму шляху, які прайшоў Ленінскі камсамол Беларусі.

У выстаўцы побач з вядомымі беларускімі майстрамі прынялі ўдзел і маладыя мастакі. Палотны, графічныя серыі, скульптурныя кампазіцыі — справаздача жывапісцаў, скульптараў, графікаў перад Ленінскім саюзам моладзі, перад сваім камсамольскім юнацтвам.



М. САВІЦКІ. Камсамольцы.



П. БЕЛАВУСАЎ. Юры Смірноў.



Р. КУДРЭВІЧ. Май 1945 г.



Я. ЖДАН. Партрэт дэлегаткі XVI з'езда камсамола А. Болбат.



Г. ПАПЛАЎСКІ. Новы горад.

В. САХНЕНКА. Цішыня.



М. ЧЭПІК. Маладзёжная брыгада.

# Паэтычная паверка



Віктар ЯРАЦ



## БЕРАГ ДВАЦЦАТАЙ ВЯСНЫ

*Светлай памяці камсамольцаў-партызан*

I

Жыву сярод смалістых сосен,
што спяць над стомленым
Дняпром,
дзе пакідаюць птушкі ўвосень
прыціхлы лес, свой родны дом.
Калёсы з'едуць з каляіны
і здрыгануцца карані
усіх бароў лясной краіны;
галіны цяжкія раскажуць,
як захліпаліся ў агні
і пачарнелі ўміг камлі
ад горкай і гарачай сажы...

II

Прабачце мне, ціхія сосны,
маўклівыя клёны між траў,
што майскаю раніцай роснай
у лес я іду, як у храм.
Іду па зямлі нескаронай,
укрытаю мяккай травой,
і белым бярозавым звонам
нябёсы плывуць нада мной.
Сцюдзёныя кроплі ледзь чутна
з параненых падаюць дрэў,
І лесу трывожныя чуткі
я сэрцам бяру напавер.

III

Вайны мінулае
ні сведкаю, ні ўдзельнікам
мне быць не давялося...
Дык чаму іду я ў лес
і ў партызанскім ельніку
прад дрэвамі схіляю галаву?
А лес маўчыць,
хоць спахмурнелі хвоі,
бярозы пабялелі яшчэ больш...
Так заціхае пасівелы воін,
Якому раны зноў вяшчуюць
дождж.
Таму без слоў пытаюся
паглядам,
каб лес мне паказаў магілы
тых,
хто ў дваццаць год
пад кулямётным градам
зямлю абняў
у свой апошні міг.
Магілы...
Помнікі і абеліскі...
Грудкі зямлі пад сховамі ялін
закрылі вочы родным нашым,
блізкім.
Зямля ім стала вечнаю
калыскай...
Стаіць над імі вечны небасхіл...

Ніна ШКЛЯРАВА



Дрэмлюць мае летуценні
Зноў на тугім плячы.
Грымнуў бы гром вясенні,
Рэхам патрос далячынь!
Каб мара мая і натхненне
Маланкай жахалі ўгары,
Каб зноў мае летуценні
Узняў малады парыў.
І певень глядзіць на неба,
Калі п'е ваду з каўша.
Мне вецер і неба трэба,
Каб зноўку запела душа.
Без ветру і лісце не дрогне,
Без грому няма навальніц,
Без дрэва галінка сохне
І яблык падае ніц.
Плывіце, мае летуценні,
Не трэба лодкі й вясла...
Быў бы вецер вясенні
Ды дрэва, з якім расла.

Нясе мяне нялёгкая! —
Машына грузавая
У Пракопаўку далёкую,
Што дзень і ноч гукае.

Яна пад сэрцам стукае
Даспелымі арэхамі.
Матуля там унукаў
Чакае, як уцеху.

Чакаць ёй доўга прыйдзецца:
Дачка яшчэ не замужам...
Ды маці ўнукі трызняцца
І зяць харошы самы.

Мар'ян ДУКСА



## ВІЛІЯ

Вілія —
чыстае слова-малітва.
Вілія —
светлага сну калыханка.
Лінія
гнуткага вечнага руху.
Зорамі
мошчана рэчышча-днішча.
Спорнымі
ўлетку напоена ліўнямі.
Лозамі
пышнымі ўвіта, як лаўрамі.
Плёсамі
блеснеш з-пад дубу маланкава.
Вілія...
Мілая,
ўздымем і вёслы, і крылы.
Кінем на беразе смутак і
крыўды.
Вілія —
рэчка сустрэч і растанняў.
Любая,
стрэцімся тут, як прыстанем.
Снілася
сення, што стрэча нядалёка...
Білася,
білася сэрца ў Агінскага...

## ЧАКАННЕ ГАСЦЕЙ

Гаспадары мае так рады!
Падумаць толькі — дзень які!..
Ах, вось яно... З Калінінграда
У госці едуць сваякі.
І клопаты, і хваляванне,
І час нясецца, як алень.
Апошняе падрыхтаванне,
Апошні генеральны дзень.
Сам дзед узняўся. Мітуслівы.
(Стары-стары, сівы, як лунь).
Да свежаніны — грыб.
Да піва —
На сонцы сушаны акунь.
Гусіна жарыцца вясёла
(Пакуты ласаму кату),
Адкрыта бочка маласолаў,
Што укропам пахне за вярсту.
Хрумсціць, нібы качан,
настольнік,
Махрой, як барадой, трасе,
Патрыярхальныя настойкі
З гары Міхайлавіч нясе.
Хай будуць гэтакія гулі
(Дзеля чаго ж і мітусня),
Каб тыя, з горада, адчулі,
Што значыць вёска і радня!

Сяргей ПАНІЗНІК



## ДА НАСТУПНАЙ ВЯСНЫ

Дацвітае чабор на палянах
лясных.
Да наступнай вясны?
На палянах лясных дацвітае
чабор.

І суцішыўся бор у вячэрняй
журбе.
Ці трывожна табе?
У вячэрняй журбе зноў
суцішыўся бор.
Па кургане глухім хуткі
промень прабег.
— Вартавыя — наверх!
Хуткі промень прабег па
кургане глухім.

Лагер спіць у начы. Хлопцаў
радуюць сны.
Незабытай вясны
Хлопцаў радуюць сны. Лагер
спіць у начы.

Родны бор, так трывожна не
шапачы...
Дацвітае чабор на палянах
лясных
Да наступнай вясны...

Мікола ХАМЯНКОЎ



Нам доля выпала такая
У гэты неспакойны век.
Чагосьці дзіўнага чакаеш.
(Такі ўжо, мусіць, чалавек!)
Чагосьці хочацца такога,
што зварухнула ўсё нутро...
Ужо да Месяца дарога,
бы да калодзежа з вядром.
Ужо з Сусветамі гаворыць
на мове космасу Зямля.
І мы ў сусвеце, нібы ў моры,
плывём удаль, плывём здаля.
Глядзім з салодкаю трывогай
у той дзівосны цуда-век,
куды касмічную дарогу
вядзе, як казку, чалавек!

Юрка ГОЛУБ



## СТАРЫ ТОРГ У ЗЭЛЬВЕ

На тых дарогах і слядах,
І каляіны—ў пыльным зеллі...
Здалёк купцоў склікала Зэльва:
З гарачай Турцыі,
З-пад Ельні
Абозы рыпалі сюды.

Наўкол пішчэла і раўло,
І стража сытая сіпела,
Калі карэцце на крыло
Ступаў размашыста Сапега.

Вушамі стрыглі жарабкі,
Ляцелі гузікі і лейцы:
А ён шчырэў, уласны Лейпцыг,
Дзе свой тавар і жабракі.

О, вока прагнае купца!
Еўропа ў скрынкі зазірала,
Прыцмоквала і выбірала,—
Калі што вартае — то цап!

І тлустай крамніцы даходна.
О, хітравокая карчма!
Каго выкідвала старчма,
Каго — выводзіла лагодна...
І торг да хмельнага канца,
І цыганы прапалі недзе.
І пад дугой вясёлкі едзе
Дастатак, нібы з-пад вянца.

Сядзіць мінулае на медзі,
Няўтульна кіпцікам арла:
То не ў прытулку гандляра,
Дзе жонка сквапная, як
ведзьма.

А мы не хвалімся дарэмна.
Для нас і неба, і нарог.
А на капеечцы старой
Арол напамятлівы дрэмле.

Давай забудзем крыўды,
Каб сталася латвей.
Наш след на цёплай крызе
Растане у Літве.
Ты толькі загадаеш —
Над роднай старанон
Хмурынку перыной
На шчасце загайдае.

**Казімір КАМЕЙША**



## ВОСЕННЮ

А восень для сябе сама —
рэклама.
Ішла,
гула,
грымела, як набат.
І жоўты ліст да шыбіны
прыклала,
Як хустачку да мокрага ілба.
Якой тут быць
загадцы або тайне,
Калі прыродзе ясна ўсёадно,
Што восень — бы вакзал
для развітання,
Для развітання з летам і вясной.
Вясна і лета —
музыка і словы.
Калі яны ў душы — душа цвіце.
Яны зямнога хараства высновы,
А восень, як заключны іх
канцэрт,

## СОН

Ледзь маладзік з нябеснай
седні
Прасуне рожкі праз вазон,
Храпе, храпе асіплым сенам
Мой сон.
Ў кацёл начы
Зямлёй і ветрыкам
Спаўна насыпана прыправў!
І той пра гэта толькі ведае,
Хто дрэмле з юшкай ля кастра;
Хто, аб'язджаючы начлежнікаў,
Галлё капыціў і ламаў,
І сам у маладым алешніку
На грыве роснай прыдрамаў;
Хто, як і я, зашыўся ў сена,
Напіўся ім, накрыўся ім
І дзівіцца, як лашчыць сцены
Сухіх лугоў духмяны дым;
Як ластаўкі крыло з-пад кроквы
Маланкаю сігае ўніз,
А за сцяной чыіхсьці крокаў
Непрачытаны начапіс.
У той начы абавязкова
Вясковы будзе гарманіст...
...На рожках спіць
маладзіковых
Вазонны ліст.

## ПАЎДНЁВАЯ ДАРОГА

Дарога парушыцца ў зрэнкі,
Хіліцца пылу вушак.
Разгайдала
Арбацкая стрэлка
Ад Азоўскага
да Сіваша.

Пахне зляжалаю соллю
Ў марыве сіні шлях.
Ляное і цяжкае сонца
Коціцца на валах.
Страчае з усмешкай
сяброўскай,
Жартуючы так і сяк,
У сем кіламетраў вёска
З назвай татарскай — Чакрак.
Сонцам на дне зарумянены,
Буталь паўзе на трон.
Пляцёнкай
замерадыянены
І запаралелены ён.
Аж пасвятлеюць зрэнкі,
Аж пашырэе дом.
Гайдае Арбацкая стрэлка.
Стол наш і нас за сталом.

# СЛОВАМ ЯК ЗБРОЯЙ

ДВАЦЦАТЫЯ гады былі пачаткам фармавання беларускай савецкай літаратуры. Рэвалюцыйная хваля вывела моладзь рэспублікі на шырокі шлях жыцця, абудзіла яе творчую энергію. Прага да мастацкага слова, да ўвасаблення ў літаратурных творах гераічнага і бурлівага часу паставіла паэтаў і пісьменнікаў у шэрагі актыўных змагароў за светлую будучыню, зрабіла песнярамі маладосці, якая атоесамлівалася з нараджэннем новага жыцця.

Камсамольская паэзія выспявала пад посвіст куль у акопах грамадзянскай вайны, у глухамані далёкіх вёсак, акружаных бандыцкімі атрадамі. Амаль усе будучыя майстры слова трымалі ў руках зброю. Не паспеўшы напісаць ні радка, але добра ўсвядоміўшы класавых ворагаў, недзе пад Растовам упаў на зямлю паранены ў грудзі камісар стралковай роты Ілья Гурскі. Алесь Звонак са сваімі сябрамі выпускаў насценную газету і разам з атрадам чырвонаармейцаў вылоўліваў бандытаў, якія хаваліся па навакольных вёсках. Павел Кавалёў накіроўваў першыя свае допісы ў «Беднату» і раённую газету «Камуна», а кулакі чакалі зручнага моманту, каб знішчыць адважнага камсамольца-селькора. Кожнае імя — новая старонка ў летапісе камсамола. Многія паэты і пісьменнікі на ўсё жыццё засталіся ў камсамольскім страі. Варта прыгадаць палымяныя вершы Аляксандра Безыменскага, альбо стаўшую своеасаблівым паэтычным помнікам моладзі грамадзянскай вайны «Грэнаду» Міхаіла Святлова, нашых таленавітых паэтаў: Міхася Чарота, Андрэя Александровіча, Паўлюка Труса і іншых.

Яшчэ не змоўклі гарматы на белапольскім фронце, а Міхась Чарот ужо звяртаўся праз «Маладога аратага» да моладзі:

Дзецям будучай камуны
Сонца ясны шле прамень.
Песню славы граюць трубы.
Іх вітае новы дзень...

Моладзь — і вера, і надзея паэта. Ён упэўнены, што будаваць новае жыццё будзе юнацтва.

Камсамольская паэзія была сцягам моладзі ў самы цяжкі час выпрабаванняў. Пад уплывам старэйшых мастакоў—Цішкі Гартнага, Янкі Купалы, пад непасрэдным уздзеяннем кіпучага жыцця маладыя паэты і празаікі ўносілі ў беларускую літаратуру, як справядліва зазначаў А. Адамовіч, гаворачы пра літаратурны рух 20-х гадоў, новыя тэмы, настроі, пафас. Разам з камсамолам Міхась Чарот, Андрэй Александровіч, Алесь Дудар, Міхась Лынькоў, Максім Лужанін, Кандрат Крапіва і многія іншыя пачынаючыя літаратары былі ў гушчы жыцця: на франтах вайны і аднаўлення народнай гаспадаркі, прымалі актыўны ўдзел у барацьбе за вызваленне чалавека ад уласніцкай псіхалогіі, ад засілля царквы. Камсамол выхоўваў, гартаваў ідэйна маладых мастакоў, вёў іх складанай дарогай жыцця праз змаганне. Гэта быў пачатак пахода ў будучыню, аб якім узнёсла, мовай гордых былін гаварыў Я. Купала ў вершы «Маладая Беларусь».

Вольны вецер напеў вольных песень табе,
Бор зялёны ўзняў дружным гоманам.
Сонца полымем вызвала к слаўнай сяўбе,
Зоры веру ўлілі сілам зломаным.

Андрэй Александровіч друкуе свае вершы, артыкулы, рэпартажы. Кузьма Чорны змяшчае ў камсамольскіх выданнях маленькія апавяданні пад псеўданімам Сусед Вясёлы. Анатоль Вольны, Алесь Дудар і Андрэй Александровіч друкавалі ў «Маладым аратым» раман «беларускіх лясоў» «Ваўчаняты». Аўтары захоплены расказам пра барацьбу камсамольскай ячэйкі супраць банды Балаховіча. Яны пішуць аб руплівых вясковых хлопцах, «простых, шчырых, як песня, смелых, як ваўчаняты».

Матывы грамадзянскай адказнасці, гаспадарскай зацікаўленасці праблемамі сучаснасці гучаць у творах камсамольскіх літаратараў. У іх творчасці ярка адбіваюцца канфлікты бурлівага жыцця, прасочваецца, як нараджаюцца новыя грамадскія нормы ўзаемаадносін паміж людзьмі. Праўда факта і праўда мастацтва не супярэчаць адно аднаму: сама рэчаіснасць як бы ўвачавідкі творыць мастацтва. Герой камсамольскіх твораў мужны, працавіты, нязломны. Такім малюе К. Чорны Міколу Канцавога ў сваім апавяданні «Маладая варта». Пафас яго думак, памкненняў аўтар вызначае так: блізіцца час, калі замест шапацення саломы на стрэхах загрымяць вясёлым бубнам бляшаныя дахі.

Ужо на пачатку творчасці Кузьма Чорны дэманструе паглыбленую, пільную ўвагу да псіхалогіі літаратурнага героя, не трацячы тым самым сацыяльнага аспекта ў адлюстраванні жыцця. Самым аператыўным жанрам, якім малады пісьменнік адгукаўся на «злобу дня», быў фельетон. Празаік крытыкаваў «божых слуг», паказваў, як людзі пакрысе вызваляюцца з-пад уплыву царквы. Пісьменнік клікаў моладзь да ведаў. Аб гэтым гаворыцца ўжо ў першым друкаваным творы Чорнага — мала вядомым чытачу вершы «К дзеткам» за подпісам Раманоўскага Міколы. Верш быў надрукаваны ў 1921 годзе ў часопісе «Зоркі».

Вучыцеся, дзеткі, дужэйце на волі,
Каб скарбы навукі знайсці,
Каб лепш было з жыццем змагацца за
долю
На роднай і мілай зямлі;
Бо цяжка, ой, цяжка змагацца тым
людзям,
Хто ў вечнай цямноце жыве:
Не бачыць ён свету і бачыць не будзе,
Бо свет той навука дае.

Не менш пільна стаяў на камсамольскай варце Кандрат Крапіва, які друкаваў шмат баявых фельетонаў і гумарыстычных апавяданняў у маладзёжным друку. Ён выступаў за новы быт, выкрываў хабарніцкія намеры царкоўнікаў.

Матэрыялы камсамольскіх паэтаў і празаікаў былі актыўнай зброяй у барацьбе за новы свет. Вершы, фельетоны, п'есы браліся на ўзбраенне кожнай гарадской і вясковай ячэйкі, служылі агітацыйным матэрыялам, слова літаратурнай моладзі гучала на падмостках клубных сцэн.

Пачынаючыя літаратары самі глыбока разумелі запатрабаванні моладзі: яны з'яўляліся радавымі камсамольцамі, сакратарамі ячэек, рэдактарамі насценных і друкаваных органаў моладзі. Паўлюк Трус, напрыклад, дапамагаў сваім вясковым таварышам наладжваць палітсуды, выпускаць вусную газету. «Ён быў увесь у сучаснасці, — гаварыў пазней пра Паўлюка Труса Кузьма Чорны. — Рэвалюцыя, родная прырода, народны быт—вось тыя моманты, якія поўным голасам гучаць у яго паэзіі. Тонкая лірыка і злітнасць з глыбокімі адценнямі народнага гумару — здабыткі яго паэтычнага слова».

Алесь Звонак, Пятро Глебка, Платон Галавач, Алесь Гурло імкнуліся стварыць праўдзівы вобраз маладога аратага. У іх творах—пах зямлі, свежай ярыны, прахалода ранішняга туману.

Цікава, што нават старэйшы за названых паэтаў Янка Журба не хоча адставаць ад моладзі.

Золак зззе. Ціха ў полі.
У небе чутны дзіўны хор.
Я з вясёлай песняй волі
Выязджаю на прастор.

На поле выязджае гаспадар, бо ўжо даўно не існуе вузенькіх палосак, знікла пачуццё заўсёднага страху перад беззямеллем. Маладыя араты пайшоў працаваць «для карысці роднага краю», а не за кавалак хлеба і льняную кашулю. Паэт паказвае нараджэнне новых рыс характару савецкага чалавека.

Тэматыка выступленняў маладых літаратараў дыктавалася жыццём, арганічна перапляталася з надзённымі задачамі камсамола рэспублікі. Дапрызыўная падрыхтоўка, дапамога галадаючым, фронт народнай гаспадаркі і інш. знаходзілі сваё адлюстраванне ў творчасці маладых. Літаратарам камсамольцам нярэдка даводзілася са зброяй у руках змагацца з бандытамі і кулакамі-забойцамі, выступаць у адным шэрагу з камсамолам супраць праследавання іх братоў па пяры — селькораў. Рыгору Жлобічу — селькору-камсамольцу, які загінуў ад рук кулакоў, прысвяціў свой верш «У вянок на магілу» Максім Лужанін. Праз боль і смутак прабіваецца ў ім упэўненасць, што мужнага сэрца ніхто не забудзе, а той, хто «лютую зайздрасць насіў пад пацёртай аўчынай», будзе баяцца селькора і мёртвага. «Змена сотнямі ідзе» — ушаноўваючы памяць адважнага селькора, гаварыў Пятро Глебка ў вершы «Рыгору Жлобічу». Праз усе перашкоды і нястачы, на папялішчы разбуранай вайной краіны, прабівалася магутным парасткам новая літаратура. Яна расла ў суровых вершах Паўлюка Труса, «пляската кулямётным рогатам» у паэзіі Пятра Глебкі, рвалася «нестрыножанай» сілай у Андрэя Александровіча.

Але, разам з гэтым, мацнела і шырылася песня радасці і шчасця.

...Не калоссе шапоча песняю спелай.
Гэта хлопцы ад плуга і калёсаў
заліваюцца радасным спевам,—

пісаў Язэп Пушча. Ды і чаму не пець радасных песень? — Акіньце поглядам родную зямлю і ўбачыце, як па цёмных кутках успыхваюць электрычныя лямпачкі, радыё пачынае прыносіць подых жыцця ўсяго свету — вось лейтматыў вершаў другога маладога паэта — Алеся Звонака. Ужо зусім на другі, не дзедаўскі матыў спяваюць камсамольцы на начлезе і не гаворкі пра нябожчыкаў, вядзьмарак і чараўніц собяць ім цяпер. Пры свеце яркіх агнёў моладзь чытае газеты і кнігі, цярэбіць сабе шлях у новае і радаснае жыццё.

Вопыт удзелу пісьменнікаў-камсамольцаў у перыядычных маладзёжных выданнях, іх арганічная сувязь з нізавымі камсамольскімі арганізацыямі аказалі значны ўплыў на фармаванне камуністычнага светапогляду юнацтва, зброяй слова дапамагалі камсамолу ў барацьбе за новае жыццё. У сваю чаргу камсамольскі рух, насычаны вострымі, бурнымі падзеямі часу, уплываў на маладых літаратараў, вымяраў іх ідэйныя пазіцыі, вызначаў і падказваў ім шляхі да мастацкіх адкрыццяў.

**А. СЛУКА.**

# У НЕЗАБЫЎНЫЯ ДВАЦЦАТЫЯ...

(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.).

ПРАЙШЛІ гады. Няма больш суконнай фабрыкі, на якой працавала Клаўдзя. Яе ўзарвалі гітлераўскія акупанты. Жыццё па ўсёй краіне раскідала сяброў.

Клаўдзю, вядомую сібірскую ткачыху, запрасілі ў Маскву на нараду тэкстыльшчыкаў. Група дэлегатак наведала авіяцыйны завод. Агледзеўшы цэхі, лабараторыі, ангары, дэлегаткі пайшлі на прыём да дырэктара завода. У прасторным кабінеце з-за стала насустрач ім узняўся сівы генерал. Клаўдзя зрабіла некалькі крокаў, зірнула на генерала і спынілася, як укапаная.

Глянуў на яе і генерал. Дэлегаткі заўважылі, як ён сумеўся, працёр вочы.

— Шудлюк?!—амаль крыкнуў генерал.

— Не, таварыш генерал, Арэхава.

— Выбачце, абазнаўся. Гадоў сорак назад...

— Нічога ты, Янка, не абазнаўся,—кінулася да генерала Клаўдзя.— Была Шудлюк, а цяпер, бачыш, Арэхава. Які ж ты стаў сівы, Янachка!

Што было далей? Генерал папрасіў прабачэння ў дэлегатак. На іх пытанні адказваў галоўны інжынер завода, а Янка Буцько павёз Клаўдзю да сябе на кватэру, каб пазнаёміць з жонкай, унукамі. Калі ў машыне расказалі адно аднаму пра самае галоўнае, Буцько запытаў у Клаўдзі пра Астапа і Альжбету.

— У адным горадзе жывём,—адказала Клаўдзя.—У іх шэсць сыноў, двое старэйшых разам з бацькам былі на вайне, вярнуліся героямі.

— А памятаеш, Клава, як ты Астапа прыняла на першы камсамольскі сход? Хто б мог падумаць! Эх, жыццё, жыццё!

— Ах, каханне!—уздыхнула Клаўдзя.

# СУСТРЭЧА З ГІСТОРЫЯЙ

НА ГЭТЫ раз Іван Шамякін даў слова равесніку века, і вуснамі генерала ў адстаўцы Жмянькова, загаварыла, здаецца, сама гісторыя, тая гісторыя, якая не церпіць панібрацтва, лакіроўкі, мадэрнізацыі пад апошнія літаратурныя моды. Жмянькоў цяперашні, генерал, чалавек з найбагацейшым жыццёвым вопытам, не прыхарошвае колішняга вясковага хлапчука Піліпку, які воляй лёсу ў чатырнаццацігадовым узросце стаў салдатам, франтавіком. Генерал расказвае пра гэта так, нібы той Піліпка гэта не ён, а нехта іншы, старонні, пра якога можна гаварыць без прыкрас, часам нават з усмешкай, са здзіўленнем, што звычайнаму хлапчуку з прыфрантавой паласы ўдалося ў незвычайных умовах захаваць сваю сялянскую першароднасць, сваю чалавечую існасць. Аповесць называецца «Лёс майго земляка» («Полымя», № 4, 1970). А герой, калі добра разабрацца, сваім сціплым расказам узнавіў цэлую гістарычную паласу і зрабіў гэта без прэтэнзій на выключнасць сваёй асобы, без самалюбавання, якое ў падобных выпадках спакушае многіх апавядальнікаў і мемуарыстаў.

Усё пачынаецца і проста і не вельмі проста. Восенню 1915 года рускі фронт пакаціўся на ўсход, і землякі Піліпа Жменькі (гэта пазней яго перахрысцілі ў Жмянькова), ратуючыся ад вайны, сталі бяздомнымі бежанцамі. Сям'я Піліпа не магла ўцячы і тулілася блізка ад перадавой пазіцыі. Хлопчык і яго дзядзька-інвалід неяк заўважылі, што немцы падцягнулі і замаскіравалі паблізу батарэю буйнакаліберных гармат. З'ява для ваеннага часу самая ардынарная. І ўсё ж менавіта гэты факт даў пачатак свайго роду ланцуговай рэакцыі, якая ўжо не магла спыніцца.

Выключнае майстэрства псіхалагічнага аналізу дапамагло пісьменніку раскрыць і паказаць нам збалелую душу Піліпкі, якому здавалася, што батарэю спецыяльна прывезлі на фронт, каб пацэліць у яго бацьку-салдата. Падставы для гэтага ў хлапчука былі самыя сур'ёзныя. Ён чуў, як гараваў дзядзька: «Зноў наступаць збіраюцца. Ой, колькі пашматаюць яны нашых гэтымі пушкамі». Бабуля галасіла: «Можа Рыгорка наш дзе тут». Трывожылася і маці. Пры ўсёй дзіцячай наіўнасці хлопец мысліў рэалістычна: мабыць і сапраўды бацька знаходзіцца недзе блізка і снарады пацэляць якраз у яго акоп. Дзядзька, чалавек сталы, інвалід руска-японскай вайны, глядзеў на ўсё гэта шырэй: «Во каб нашым як перадаць, дзе немцы батарэі паставілі! Накрылі б, міленькіх». Дзядзька ведаў, што можна зрабіць: Ласінае балота не такое непраходнае, як здаецца немцам, абы толькі перабрацца, і тады будуць ўратаваны сотні рускіх салдат. Ні дзядзька, ні яго пляменнік не здагадваліся, што яны завязваюць вузельчык, якога ім не разблытаць, бо староннія сілы акажуцца мацнейшымі за іх волю.

Пісьменнік не забывае ні пра ўзрост героя, ні пра яго сялянскую практычнасць, няхай сабе і ў маштабах, даступных малалетняму сейбіту, карміцу сям'і, салдацкаму сыну. Ён ведае, што за подзвіг звычайна ўзнагароджваюць. За балотам, у афіцэрскім бліндажы, дзе з удзячнасцю выслухалі перабежчыка, Піліпка задаволены, што атрымаў новыя анучы і старыя салдацкія штаны. Мужчынскіх ботаў патрэбнага памеру не знайшлі. Ды нічога, Піліпка не такі вялікі моднік, каб адмовіцца ад жаночых ботаў. Цяпер можна вяртацца дадому, дзе яго напэўна ж чакаюць маці, дзядзька. Дадому? Раней, чым хлопца пакажуць генералу? А газетчыкі хіба не захочуць сустрэцца з нацыянальным героем, які рызыкаваў жыццём дзеля веры, цара і Айчыны? Мабыць, адгукнецца высачайшым указам і сам цар-бацюхна? Хіба павяжаш царскую ўзнагароду ў захопленую немцамі беларускую вёску? Не, полк не можа адпусціць такога героя, няхай застанецца ў якасці экспаната і натхняе служывых сваім прыкладам адданасці цару і Айчыне. Хлопец кемлівы, і штабс-капітан Залонскі спадзяецца, што выхавае з яго добрага бамбардзіра. А пакуль падрасце, няхай Піліпка паслужыць дзяншчыком у таго ж Залонскага.

Звычайна лічыцца, што для поўнага гарту чалавек павінен прайсці праз агонь, ваду і медныя трубы. Загартоўка Піліпа пачалася з медных труб. Выпрабаванне славай, трубнымі маршамі, газетнай шуміхай, царскай міласцю, банкетам у рэзідэнцыі камандуючага фронтам пры ўручэнні Георгіеўскага крыжа, сюсюканнем генеральскіх жонак і палюбоўніц — хіба гэтага мала для незагартаванай і кволай дзіцячай душы? Абставіны, што і гаварыць, выключныя, але не настолькі, каб адштурхнуць на задні план усе іншыя ўплывы. Фронт ёсць фронт, і Георгіеўскі крыж — не браня ад куль і асколкаў. Пад шквальным варожым агнём у сырым акопе медным трубам не месца, — іх не будзе і ля брацкай магілы, калі цябе не абміне далёка не геройская смерць. Не забываючы пра алгебру бою і мову батарэй, пісьменнік, аднак, засяроджвае нашу ўвагу не на батальных сцэнах, а перш за ўсё на самім антынародным характары той вайны, дзе ратункам для краіны з'яўляецца не перамога, а паражэнне. Гэта і ёсць дыялектыка: паражэнне царызму — перамога народа. А каб план гістарычны супаў з планам чалавеказнаўчым, пісьменнік увесь час змушае нас уважліва сачыць за паводзінамі Піліпкі, яго настроямі, яго ўзаемаадносінамі з афіцэрамі і салдатамі.

Звярніце ўвагу на такую тонкасць: у самым узлёце Піліпкі была фальшывінка, якую адчуваў нават гэты наіўны хлапчук: ён зусім не думаў ні пра цара, ні пра веру праваслаўную, ён ішоў ратаваць бацьку. Набрахалі газеты і пра вылазку атрада коннікаў-горцаў, якія нібыта знішчылі нямецкую батарэю і яе абслугу. Ура-патрыятычны подзвіг быў фікцыяй, як і многае іншае, разлічанае на тое, каб лягчэй было гнаць салдацкую масу на смерць. На Піліпку ўплывалі дзве сілы. Прывучаны з малых год паважаць старэйшых, праслаўлены дзяншчык верыў кожнаму слову штабс-капітана Залонскага. Апраўдана гэта і тым, што Залонскі быў афіцэрам ліберальным, культурным і па-свойму нават справядлівым, далёкім ад салдафонства. А ў салдацкім акопе франтавік Іван Свірыдавіч Галадушка таксама гаварыў пра царскую вайну, і выходзіла, што штыкі трэба павярнуць у другі бок. Адзін раіць старацца, і даслужышся да бамбардзіра ці нават унтэрам станеш, другі рэжа праўду-матку: «Дурань ты цёмны». Прапаршчык Дакука таксама ставіцца скептычна да Піліпавай славы: «Гэта ты — вялікі патрыёт?» Раздваенне не можа цягнуцца бясконца. Дзе ж праўда аб прычынах вайны — у словах афіцэраў аб тым, што кайзер хоча перавярнуць усіх праваслаўных людзей у сваю веру, ці ў рэпліках Галадушкі аб аднолькавай цане рускаму Мікалаю і нямецкаму Вільгельму?

Пошукі адказу прывялі Піліпку да важнага адкрыцця: царскія афіцэры, нават лепшыя з іх, за рэдкімі выключэннямі, — гэта паны, а салдаты, — сяляне, рабочыя людзі. Салдаты салідарны з Галадушкам, бо ў іх агульная праўда і агульныя інтарэсы, блізкія і зразумелыя кожнаму чалавеку працы. Галадушка гаворыць салдатам, што найлепшы іх друг і настаўнік — Ленін. Афіцэры ж праклінаюць Леніна, баяцца яго. Яшчэ дома, ад сваіх вяскоўцаў, Піліпка ведаў: тое, што не да спадобы панам, тое на здароўе і карысць мужыку. Падпольныя пракламацыі яшчэ больш падмацоўвалі павагу да тых таямнічых слоў, якія асцярожна, каб не пачулі даносчыкі, гаварыў сваім акопным таварышам Галадушка. Радавала і тое, што ад Піліпкі салдаты не таіліся і за давер ён плаціў ім такой жа шчырасцю. Залонскі прапануе дзяншчыку падслухоўваць і дакладваць яму, пра што гавораць салдаты. Галадушка просіць, каб Піліпка цікавіўся планамі афіцэраў, сакрэтнымі загадамі камандавання. У першым выпадку ён стаў бы здраднікам, другі варыянт дае адчуванне сумленна выкананага абавязку, адчуванне братэрскай салідарнасці з лепшымі людзьмі фронту. І калі палявая жандармерыя арыштоўвала зачыншчыкаў салдацкай забастоўкі, Піліпка ўсёй душой быў з імі. «Баяўся арышту і адначасова хацеў, каб паклікалі і мяне. Няхай убачыць батальён, што я не дзяншчык, не лакей у капітана, што я... во які я!..

Так біліся, змагаліся два пачуцці ў маім трапяткім сэрцы — страх і рашучая адвага. Я нават падумаў: ці не выйсці самому і сказаць: «Я з імі!» Здзівіць і сваіх салдат, і Залонскага, і казакоў і жандараў».

Абраўшы нязвыклы, надзвычай выйгрышны сюжэт, Іван Шамякін шчасліва пазбегнуў спакусы аздобіць успаміны генерала элементамі дэтэктыву, таннага прыгодніцтва. Мужычок-з-нагаток трапляе на фронт выпадкова, але ўсё астатняе, з чым ён сустракаецца ў акопах, заканамерна і апраўдана. Нават начны паход Піліпкі з горцамі ў варожы тыл не мае нічога агульнага з рамантыкай, геройствам. Горцы ішлі на нямецкую батарэю як мяснікі, каб ціха падкрасціся з нажом і перарэзаць горлы бамбардзірам. Аперацыя сарвалася, і разведчыкі драпалі як палахлівыя зайцы. Уся афіцыйная мілітарысцкая прапаганда не можа вытруціць з душы хлапчука яго мару аб спакойнай і мірнай сялянскай працы. Генералы, свае і нямецкія, нагадвалі яму тых неразумных вясковых суседзяў, якія б'юцца да крыві за разору, за кавалачак мяжы. Рамантыка, узнёсласць, хлапчукоўскі азарт пачынаюцца тады, калі Піліпка адчуў, што дапамагае дарослым, вельмі паважаным людзям рабіць таямнічую, дужа патрэбную і карысную справу, якая можа пакласці канец вайне, вярнуць бацьку, забраць у памешчыкаў зямлю. Падпольныя сходкі, пракламацыі, салдацкія мітынгі, выкрыццё здрадніцкай ролі меншавікоў і эсэраў, усё тое, што прынёс пярэдадзень Кастрычніка, — з такой школы была толькі адна дарога: у Чырвоную гвардыю, да большавікоў-ленінцаў. Асабістая сустрэча з Леніным лагічна завяршае гэты шлях сялянскага хлопца ў рэвалюцыю.

Шкада, што па псіхалагічнай напоўненасці расказ Піліпа Жмянькова аб петраградскім перыядзе яго ваеннай службы атрымаўся прыкметна слабейшым за раздзелы, прысвечаныя акопнаму быту. Атрымалася гэта, відаць, таму, што пра Петраград перыяду падрыхтоўкі да Кастрычніцкага штурму напісана вельмі многа і сказаць пра гэта новае слова не так лёгка. Але пісьменніку так многа ўдалося, што аповесць «Лёс майго земляка» па сваёй арыгінальнасці і самабытнасці з'яўляецца каштоўным укладам у нашу беларускую Ленініяну.

Я. ГЕРЦОВІЧ.

# МАЛАДОСЦЬ ПАЭТЫЧНАГА ПАЧУЦЦЯ

Не часта бывае так, каб чарговая падборка вершаў паэта магла так захапіць сваёй арыгінальнасцю і свежасцю, як нізка «З новай кнігі» Петруся Броўкі, якой адкрываецца восьмы нумар «Полымя». Яе нельга не дачытаць да канца, нельга прагледзець бегла, бо амаль кожны верш пры сваёй, здавалася б, прастаце прыцягвае мастацкай закончанасцю, глыбінёй і яснасцю зместу, лірычнай і філасофскай напоўненасцю.

Як вядома, Пятрусь Броўка — паэт, фігуральна гаворачы, трэцяй маладосці. У яго гады многія майстры паэтычнага слова схіляюцца «да суровай прозы». З-пад пяра ж нашага паэта з'яўляюцца ўсё новыя вершы, якія вылучаюцца маладосцю пачуцця і ў той жа час сведчаць аб жыівеньскай сталасці таленту і жыццёвага вопыту іх аўтара.

Пра гэта сведчаць, у прыватнасці, такія яго новыя творы «З новай кнігі» як «Дзень добры», «Смачней было...», «Блуканне ў лесе», «Першыя спектаклі», «Быў юнаком». У іх нярэдка гучыць паэтызацыя мінулага дзяцінства і юнацтва, кіпучага маладога жыцця. Паэт часам адносіцца да мінулага з лёгкай іроніяй. У гэтых адносінах характэрна канцоўка верша «Блуканне ў лесе»:

Хадзіў,
блукаў я да паўночы.
І калі ледзь не збіўся з ног —
Пачуў рыканне я каровы...
Ах, як усцешыла яно.

Па ім тады прыйшоў дахаты.
Дасюль у памяці жыве,
Бо калі зноў яго пачую,
Здаецца — хтось дамоў заве.

Гаворачы пра родную зямлю, Пятрусь Броўка пазбягае дэкларацыйнасці і прасталінейнасці ў выказванні сваіх пачуццяў. Яго любоў да радзімы — гэта «Мекка ды і Галгофа разам з тым» («Мой кут нічым не адмысловы»). Такія вобразы гавораць самі за сябе. Яны ва ўладзе толькі таленавітых майстроў слова.

Новыя вершы пацвярджаюць схільнасць паэта да філасофскіх роздумаў. «Наперад...», «Ёсць непагоджанасць такая», «Пчаліны дом», «Хваляванне», «Усё жыццё—адно імгненне»— узоры глыбакадумных твораў. Большасць з іх трэба аднесці да філасофскай лірыкі. У гэтых вершах больш за ўсё выяўляецца жыццёвы вопыт іх аўтара, яго ўменне аб'ектыўна ацэньваць з'явы навакольнага свету, у тым ліку і сваё месца ў ім. Пацвярджэннем гэтага можа быць, напрыклад, верш «Усё жыццё — адно імгненне»:

Усё жыццё — адно імгненне.
Зацвіў... Час прыйдзе адцвісці...
За пакаленнем — пакаленне.
Усё мяняецца ў жыцці.

Ідзе наперад маладое.
Не мае свет яму граніц.
Прыносіць новае, такое.
Што сэрца зайздрасцю шчыміць.

Ах, колькі, колькі іх шчаслівых,
Дапытных, юных навакол!
Мы ж — каласамі спелай нівы
Глядзім задумліва на дол.

Пятрусь Броўка і ў апошніх вершах, як і заўсёды, вельмі ўважліва адносіцца да сучаснага жыцця і ўспамінаў аб нядаўняй вайне («Параненых», «Пад дзірваном магільнай горкі»), любоўна малюе родную прыроду. Нават самыя звычайныя, здавалася б, тэмы (скажам, у вершы «Паранены») у яго атрымоўваюць незвычайнае асвятленне, набываюць багаты падтэкст, прымушаюць думаць. Паэт як быццам і не імкнецца да навізны, да незвычайнасці, але яго паэтычнае пачуццё і зрок настолькі вострыя і самабытныя, што малюнкі атрымліваюцца свежымі і прывабнымі.

Колькі, напрыклад, напісана паэтамі пра лета. Але і тут паэт знайшоў настолькі дакладныя зрокавыя вобразы, што ў вершы «Як лета ўбярэцца...» менавіта беларуская прырода выступае ў мастацка-новым асвятленні. Пра гэта гавораць і «зялёныя, вострыя шаблі аеру», якія прабіваюцца «да сонца з буцвелай вады», і распушана-асмялелая лаза, што «па калені ў сцюдзёнцы стаіць», і мноства «ліхтарыкаў — белых лілеяў», якія сапраўды быццам бы гараць «пад вечар на плыні санлівай». Гэта жывапісанне словам — яшчэ адно сведчанне маладосці паэтычнага пачуцця Петруся Броўкі.

Знаёмства з падборкай вершаў «З новай кнігі» дае падставу спадзявацца, што яна, гэта новая кніга Петруся Броўкі, будзе прыкметным дасягненнем нашай паэзіі.

П. АХРЫМЕНКА,
доктар філалагічных навук.

# 33-ці СІМФАНІЧНЫ...

Па раніцах у філарманічнай зале гучыць музыка. Усе творчыя падраздзяленні аркестра рыхтуюцца да адкрыцця новага сезона. Ён будзе сёлета 33-м у дзейнасці Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра БССР. Афішы на вуліцах і плошчах сталіцы ўжо абвясцілі цікавы і змястоўны рэпертуар — аж чатырнаццаць абанементаў выпусціла філармонія, і чатыры з іх прыпадаюць на аркестр. Бетховен і Малер, Брукнер і Дворжак, славутыя волаты сусветнай музыкі і маладыя сучасныя кампазітары «прадстануць» перад меламанамі і аматарамі так званай «сур'ёзнай» музыкі. Яе мы пачуем у выкананні калектыву на чале з мінскімі дырыжорамі і маэстрагастралёрамі, а сярод салістаў названы імёны лаўрэатаў і пераможцаў вельмі адказных і аўтарытэтных міжнародных конкурсаў.

Многія з нас у думках яшчэ вяртаюцца да ўражанняў папярэдняга, 32-га сімфанічнага сезона. Ён быў прыкметным у жыцці аркестра. Амаль сто музыкантаў яго 50 разоў выходзілі на канцэртную эстраду, вядучы называў імёны. 60 кампазітараў розных часоў і народаў, чые творы гучалі тут, у Мінску, і ў паўторным выкананні, і ўпершыню. Я добра запомніў адзін з апошніх канцэртаў. Той, дзе праменіла і трывожыла сэрца славутая Пятая П. І. Чайкоўскага...

Чым мяне ўразіла гэта выкананне? Відаць, той паглыбленай у свет музычных вобразаў засяроджанасцю, якую прадэманстравалі ўсе групы аркестра і дырыжор Віталій Катаеў. Якімі выразнымі былі скрыпкі ў Алегра — тэма была літаральна праспявана імі! А празрысты, прасякнуты лірызмам глыбокага пачуцця Вальс, здавалася, струменіў недзе паміж зямлёй і небам — пяшчота раптам набывала дынамізм, рабілася адчувальнай у пераменлівых настроях героя.

У кожнай «аркестравай рэспубліцы» бываюць свае падзеі, і тут, у часе выканання Пятай Чайкоўскага, мы былі сведкамі такой падзеі — «баявога хрышчэння» валтарніста Чэслава Юшкевіча, выхаванца Беларускай кансерваторыі. Вядомае сола ён выканаў з зайздроснай сталасцю музыканта, які ведае сваю ролю і жыве ёю, — чысты гук інструмента і дакладныя інтанацыі былі адухоўлены неспакойным тэмпераментам выканаўцы.

Дырыжор пранікнёна «чытаў» і кульмінацыю сімфоніі— тут і наша медзь была на вышыні.

Фінал жа быў надзвычай ансамблевы. І тая паўза, якую часам называюць «генеральнай» у сімфоніі, В. Катаевым была перададзена вельмі артыстычна—яна «гаварыла».

Адразу ж пасля канцэрта я завітаў тады да дырыжора, яшчэ стомленага, яшчэ паглыбленага ў гучанне музыкі.

— Пятая заўсёды для мяне— радасць і пакута. З кожным выкананнем набліжаешся да адчування багатай індывідуальнасці, ад імя якой гучыць споведзь-роздум, — сказаў Катаеў. — А для аркестра — выпрабаванне на творчую сталасць. Як? Не ўсё выдатна? Ну, гэта мы і самі ведаем, да артыстычнай дасканаласці імкнемся, а дасягнуць яе не так лёгка... І не толькі ў творчых адносінах. Тэхніка! Нам трэба набыць першакласныя інструменты. Іх якасць адбіваецца на выкананні музыкі нават тады, калі артыст мае вышэйшую кваліфікацыю... А мы ж і надалей збіраемся іграць з выдатнымі дырыжорамі. І не толькі збіраемся, рыхтуемся да сустрэч з імі з поўнай самааддачай...

Сімфанічны аркестр у Мінску мае добрую рэпутацыю. Мабыць, адна з самых прывабных рысаў яго дзейнасці — заўсёдны клопат пра ўздым культуры выканання, пра ўдасканаленне майстэрства. Хто б ні стаяў за пультам — сабраны і «лаканічны» Марк Шнейдэрман, артыстычны і часам экстравагантны Віктар Дуброўскі, сардэчна адкрыты Барыс Афанасьеў або цяперашні галоўны, схільны да аналітычнай думкі Віталій Катаеў, — аркестр застаецца патрабавальным да сябе. Агульная мова з дырыжорам знаходзіцца ў творчым кантакце, у сумеснай творчасці, а бывае і ў пераадоленні цяжкасцей, якія непазбежна з'яўляюцца, калі працуюць сталы ансамбль і яркая артыстычная асоба. Суладдзе аркестра і дырыжора, калі за пультам малады Юрый Яфімаў, музыкант рамантычнага складу — яшчэ адзін прыклад такой садружнасці...



...Рэпетыцыя спынена. Так, хай сабе і нюанс быў перададзены прыблізна, толькі нюанс, а трэба ўдакладніць, трэба пашукаць... Паслязаўтра першы канцэрт сезона. Галоўны дырыжор Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра БССР заслужаны артыст рэспублікі Віталій Катаеў раіцца з «першымі скрыпкамі»—заслужанымі артыстамі БССР Сямёнам Асновічам і Георгіем Клачко.

Фота А. ЛУКАШОВА.

Я пішу пра гэта, бо асаблівасць новага сезона, акрамя усяго, яшчэ і ў тым, што нашым дырыжорам прадстаіць вытрымаць своеасаблівую творчую канкурэнцыю з апрабіраванымі маэстра. Трэба спадзявацца, што В. Катаеў і Ю. Яфімаў прыкладуць намаганні, каб у гучанні аркестра не было «скачкоў», каб мы, слухачы, аднолькава ярка ўспрымалі музыку, калі за пультам будзе знаёмая постаць і калі там устане, скажам, Давід Ойстрах або італьянец Рыкарда Баньолі, масквіч Рудольф Баршай або вільнянка Маргарыта Дварыянайтэ. Кожны з іх, безумоўна, будзе ўносіць нешта непаўторна індывідуальнае ў трактоўку класікі і твораў нашых сучаснікаў, і гэта ўзбагаціць аркестр у яго творчым росце. На плечы ж В. Катаева і Ю. Яфімава ўскладаецца адказная задача — іх канцэрты, маючы самастойнае значэнне, павінны быць і пэўнымі ўрокамі падрыхтоўкі да сустрэчы з арыгінальным мастаком, які праз тыдзень стане за пульт. Хай бы і надалей «мясцовы» дырыжор жыў клопатам пра мастацкі і прафесіянальны ўзровень аркестра, які мае выдатных музыкантаў, здольных разумець і раскрываць багацце і хараство і самай складанай музычнай літаратуры (прэм'еры «Дафніса і Хлоі» Равеля або «Вясны свяшчэннай» Стравінскага — якое яркае пацвярджэнне такога ўмення!).

Пералічыць амаль сто імёнаў артыстаў аркестра, вядома, нельга. Але калі я прыгадаю заслужаных артыстаў БССР Сямёна Асновіча, Барыса Скабло і Георгія Клачко, мабыць, многія з прыхільнікаў аркестра пагадзяцца, што ансамбль фарміруецца з выканаўцаў высокага майстэрства і яркага таленту.

Добра, што праграмы гэтага сезона ўключаюць вядомыя і новыя творы беларускіх кампазітараў, прапагандыстам чыёй творчасці заўсёды быў і застаецца Дзяржаўны сімфанічны аркестр БССР. Ад ветэрана Яўгена Цікоцкага і да маладога дапытлівага шукальніка Дзмітрыя Смольскага — такі рэпертуарны дыяпазон ансамбля. Нас чакаюць прэм'еры і сустрэчы з даўно знаёмымі партытурамі, хараство якіх вытрымлівае экзамен на сталасць.

Што хацелася б пажадаць калектыву, дык гэта вялікага плавання—чамусьці аркестр вельмі рэдка, ад выпадку да выпадку выязджае за межы рэспублікі. Яго аўтарытэт грунтуецца, галоўным чынам, на тым, што пра яго потым расказваюць вядомыя салісты і дырыжоры. Між тым, як і кожны творчы арганізм, ён мае патрэбу выходзіць за рамкі традыцыйных маршрутаў гастрольнага лета па гарадах Беларусі. Ёсць у яго і права на гэта. Трэба спадзявацца, што мы яшчэ пачуем пра поспех Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра БССР на адказных канцэртных эстрадах краіны.

Сёння ж, ведаючы, з якім хваляваннем рыхтуюць музыканты новы сезон, зычым калектыву поспехаў у ажыццяўленні вялікага рэпертуару, што вызначыць яго дзейнасць у зіму 1970-71 гадоў!

— Так, мы хвалюемся. Гэта — як альпіністы перад ўздымам на новую вяршыню: здаецца, усё узважана і разлічана, але элемент неспадзяванкі ў творчасці таксама ёсць. Многае залежыць і ад залы, сустрэчы з якой мы чакаем, — прызнаецца Віталій Катаеў. — Музыку выконвае не толькі аркестр, яна гучыць і ў сэрцах тых, каму адрасуецца...

Паслязаўтра — сустрэча першая.

Станіслаў МАДОРСКІ.

# КАБ НЕ БЫЛО «ЦЯЖКІХ» ПАДЛЕТКАЎ

*Вечар сустрэчы творчай інтэлігенцыі Мінска з работнікамі міліцыі*

Выхаванню моладзі была прысвечана сустрэча творчай інтэлігенцыі горада Мінска з работнікамі сталічнай міліцыі.

...Прасторную залу рэспубліканскага Дома мастацтваў запоўнілі пісьменнікі, кампазітары, артысты, музыканты, работнікі дзіцячых пакояў міліцыі, прадстаўнікі грамадскасці горада.

Работнікі міліцыі Т. Бацяноўская, М. Альшуль, пазаштатны інспектар дзіцячага пакоя аддзела ўнутраных спраў Ленінскага райвыканкома В. Арцёмаў, камандзір аператыўнага атрада народнай дружыны В. Мумрыкаў і іншыя расказалі пра арганізацыю работы дзіцячых пакояў міліцыі.

Выкладчык Мінскага педінстытута А. Прохараў сваё выступленне прысвяціў псіхалогіі дзяцей-падлеткаў.

Пра вялікую, складаную прафілактычную выхаваўчую работу супрацоўнікаў дзіцячых пакояў міліцыі, пра іх штодзённыя клопаты, радасці і засмучэнні гаварыў начальнік Упраўлення ўнутраных спраў Мінгарвыканкома В. Піскароў. Ён назваў лепшых людзей у міліцэйскай форме, якія свой вопыт і веды аддаюць папярэджанню дзіцячай безнагляднасці і злачыннасці.

— У выхаванні падрастаючага пакалення, —адзначыў В. Піскароў, — вялікую дапамогу органам міліцыі аказвае творчая інтэлігенцыя — пісьменнікі, кампазітары, артысты, мастакі.

На сустрэчы выступілі пісьменнікі П. Кавалёў, У. Корбан, Р. Барадулін, В. Хомчанка, Г. Шыловіч. Яны расказалі аб рабоце над творамі, прысвечанымі нашай моладзі, прачыталі свае новыя вершы, байкі.

С. ВАНІН.

НА БЛАКІТНЫМ ЭКРАНЕ

# СКАЗ ПРА ВЕРУ ХАРУЖЫЮ

НА БЕЛАРУСКІМ тэлебачанні рэжысёр-аператар Д. Фрыд па сцэнарыі Леаніда Браслаўскага зрабіў дакументальны фільм у трох частках «Пісьмы ў бессмяротнасць». Гэта фільм пра Веру Харужую. Перад намі паўстае вобраз бясстрашнай патрыёткі ва ўсёй яе веліччы і гістарычнай праўдзівасці. Фільм створаны на аснове дакументаў — пісьмаў Харужай, напісаных у розны час. У іх — багаты духоўны свет гераіні, яе грамадзянскія і сацыяльныя імкненні.

Аўтарам дакументальнай стужкі, зразумела, цяжка было (нават сучаснымі сродкамі кіно) дакладна перадаць абставіны 30—40-гадовай даўнасці. І гэта дзе-нідзе «праглядваецца» на экране: надараюцца фрагменты-нацяжкі, там-сям робіцца націск на музыку. Але аўтары змаглі перадаць дакладна **дух часу.** Дух гэты ў пісьмах Веры Харужай, якія чытае «за кадрам» артыстка акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Галіна Талкачова. (Тлумачальны тэкст чытае Ілья Курган). Ствральнікі знайшлі трапныя дэталі, выразныя малюнкі (у фільме выкарыстаны матэрыялы Дзяржаўнага фільмафонду СССР, архіва Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ і Цэнтральнага Дзяржаўнага архіва кінафотафонадакументаў БССР), якія сваім вобразным складам арганічна «ўраслі» ў тэкст пісьмаў гераіні, стварылі разам з імі дакумент — дакладны і пераканаўчы.

Галоўнае, што характарызуе ўсю стужку — гэта глыбокі ўнутраны пафас. Ён узнікае паступова, па меры таго, як адбываецца наша знаёмства з юнай гераіняй: спачатку гімназісткай, потым вясковай настаўніцай, якой разам з камсамольскім білетам уручылі вінтоўку. Гэты пафас яшчэ прагучыць з экрана ў мужных і цвёрдых словах В. Харужай; мы яшчэ адчуем усю яго моц і сілу ў яе пісьмах на волю, у ацэнцы яе дзейнасці яе ж таварышамі па рабоце і партыі, у яе пісьме-заяве Цэнтральнаму Камітэту Кампартыі Беларусі.

Жыццё Веры Харужай было паўсядзённым подзвігам. Прыгадаем толькі некаторыя старонкі з яго.— 1924 год. Поўная небяспекі рэвалюцыйная дзейнасць у Беластоку, Брэсце, Пружанах, Слоніме, Гродна. Яна была ўжо сакратаром Цэнтральнага Камітэта камсамола Заходняй Беларусі, калі ў дзень нараджэння (споўнілася 22 гады) яе арыштавалі. Сем гадоў строгага турэмнага зняволення. Але і адтуль, з катаржнай турмы Фардон, ідуць на волю пісьмы, прасякнутыя выключнай жыццярадаснасцю, гордасцю за поспехі людзей маладой сацыялістычнай краіны.

«Ці праўда, што заканчваецца Турксіб? Як гэта цудоўна! Помню, здавалася мне, што гэта план далёкага-далёкага будучага... А ён ужо ператвараецца ў рэальнасць... Вось дзе рыса часу, урывак толькі намі створанай і намі толькі зразумелай паэмы...» Пасля турэмнага зняволення — радасная сустрэча і доўгія размовы з Надзеждай Канстанцінаўнай Крупскай... Партыйныя будні на Балхашы... Работа ў Пінскім абласным камітэце партыі...

Цяжкае гора звалілася на плечы нашага народа разам з навалай фашысцкай арды. З першых дзён Вера Харужая са зброяй у руках у партызанскім атрадзе легендарнага Каржа. І цяжкі боль — у першым жа баі гіне муж гераіні.

З адказным даручэннем яе накіравалі за лінію фронту на Вялікую зямлю. Ёй не дазволілі вярнуцца назад, таму што заставалася вельмі мала часу да родаў.

«...Я падпарадкавалася тады, — пісала яна ў ЦК Кампартыі Беларусі, — паехала, знайшла сваю сям'ю, а 5 кастрычніка нарадзіла сына. Цяпер я жыву ў Пермскай вобласці, працую ў калгасе і невыносна пакутую пры думцы аб тым, што фашысцкія вылюдкі топчуць маю родную Беларусь... Я больш так не магу... Я павінна вярнуцца».

Цэнтральны Камітэт КПБ дазволіў В. Харужай прыехаць у Беларусь. Са сваёй даўняй сяброўкай Соф'яй Панковай—некалі яны разам адбывалі зняволенне ў катаржнай турме — Харужая накіроўваецца на радзіму. У Віцебску яна жыве пад імем Ганны Сяргееўны Карнілавай, стварае падпольную арганізацыю.

У лістападзе 1942 года Веру Харужую і яе таварышаў арыштавалі. Доўга дапытвалі. Потым павезлі...

Ніхто не ведае, дзе яе магіла...

Заклік-запавет, напісаны В. Харужай яшчэ ў белапольскай турме: «...Я буду не адна, а сярод тысяч, дзесяткаў тысяч, нічым неаддзельная, не адгароджаная, буду з вамі, сярод вас», які праходзіць рэфрэнам, набывае ў канцы стужкі «Пісьмы ў бессмяротнасць» значэнне сімвалу, вялікай веры ў светлае будучае нашага народа і чалавецтва наогул. І тое, што кінадакументалісты змаглі гэта зрабіць пры дапамозе знешне не кідкіх,але знітаваных абагульняючай думкай кадраў (алея герояў, партрэт В. Харужай, народ на дэманстрацыі, ускладанне вянкоў ля помніка-абеліска, полымя вечнага агню) надае не толькі фіналу, а ўсяму фільму ўрачысты і па-грамадзянску важкі змест.

В. ПОЛЯК.

# У ВЯНОК СЛАВЫ НАРОДНАЙ

Рыгор Барадулін. «Лініі перамены дат».

У апошнія гады сярод твораў, што вылучаюцца на атрыманне Дзяржаўных прэмій у галіне літаратуры, даволі часта сустракаюцца кнігі паэзіі Р. Барадуліна. Усе, хто прымае ўдзел у абмеркаванні, як правіла, пагаджаюцца на тым, што кожная новая кніга паэта—падзея ў літаратурным жыцці рэспублікі, што паэт зараз поўна і выразна выяўляе і рэалізуе свае творчыя задумы.

Паэт і сам адчувае, што кожны яго новы твор не застаецца па-за ўвагай чытачоў і крытыкі. Адсюль, мабыць, і тая патрабавальнасць, з якой ён ставіцца да паэтычнага слова, шліфуючы яго да першароднага бляску.

Не дзеля таго, каб эстэт-гурман сказаў: «Як прыгожа!», не дзеля таго, каб выціснуць у мяне ці ў вас слязу замілавання: «Бач ты, як у сук глядзеў! Я ж пра гэта таксама думаў, а сказаць так не даўмеўся». Не дзеля таго паэт даверліва ідзе да чытача, каб той, ёмка ўсеўшыся на крылы яго паэзіі, салодка драмаў у дарозе ці дома.

Творчасць паэта, хутчэй за ўсё, курган. Узбярыся, калі хочаш, на яго вяршыню. Зірні на свет і на сябе. Вось яна, зямля, на якой ты жывеш! Са старажытнымі паданнямі і легендамі, з салдацкімі абеліскамі і брацкімі магіламі, з крынічнымі рэкамі і блакітнавокімі азёрамі, з матчынай песняй і чыстым сумленнем. Ты раней уяўляў яе такой? А сам ты варты яе? Што на свеце больш безабароннае, чым зямля, і ў чым непераможнасць і бессмяротнасць зямлі роднай—ты думаў пра гэта?

Пра барадулінскую «Блакаду» пісалі ўжо. Пісалі «на хаду»: усё спяшаемся, усё нам няма калі. Якія ж мы гультаі! Ці не ад нашага багацця гэта? Пра Беларусь-партызанку напісана многа, так многа, што нават боязна вялікай паводкі напісанага. А пісаць трэба, ды толькі крывёю сэрца, як бацькі пісалі гісторыю барацьбы з фашызмам.

Некалі Леў Талстой прызнаўся, што на «Вайну і мір» яго падштурхнула «Барадзіно» М. Лермантава. Не будзем вышукваць аналогій. Але «Блакада» мне ўяўляецца творам-вянком на курган славы народнай. Высокае грамадзянскае гучанне паэмы вырастае з яе самой, гэта споведзь-рэквіем, які перарастае ў хвалюючую сімфонію пра нязломнасць чалавечага духу. Яна не магла не нарадзіцца. Нарадзілася. І менавіта ў нас, на Беларусі.

Добрая традыцыя замацавалася ў савецкай літаратуры. Штогод праводзіцца пушкінскае свята паэзіі на радзіме паэта. Свята гэтае перарасло нацыянальныя межы. Гэта свята ўсіх, хто ўсведамляе высокае гуманістычнае прызначэнне літаратуры.

У нас, у Беларусі, вырас Курган славы. Здалёку і зблізку едуць і ідуць да яго людзі. Верыцца, што аднойчы збяруцца каля яго пісьменнікі розных краін і кантынентаў, збяруцца людзі, якія ўзнімаюць свой гнеўны голас супраць вайны, выступаюць за мір і дружбу паміж народамі. І будзе хвіліна маўчання. І будуць гучаць творы, выпакутваныя і загартаваныя ў барацьбе з чорнымі сіламі, што намагаюцца сеяць варожасць і зло на зямлі. Такія сустрэчы павінны стаць традыцыйнымі. Верыцца, што на першай з іх прагучыць і барадулінская «Блакада».

Паэма «Блакада» змешчана ў зборніку вершаў «Лінія перамены дат», вылучаным на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР. Зборнік гэты высока ацанілі чытачы і крытыка. Але нават адна паэма, не гаворачы ўжо пра вершы, дае падставы спадзявацца, што імя Р. Барадуліна мы ўбачым сярод лаўрэатаў Дзяржаўных прэмій гэтага года.

Л. АКУЛІЧ.

# МУЗЫКА ВЯЛІКІХ ПАЧУЦЦЯЎ

Яўген Глебаў. «Выбранніца».

У мінулым канцэртным сезоне я слухала адну з балетных сюіт Яўгена Глебава, што выконвалася Дзяржаўным сімфанічным аркестрам БССР пад кіраўніцтвам Ю. Яфімава. Музыка захапіла мяне. А за некалькі месяцаў да гэтага я глядзела балет «Выбранніца». і атрымала вялікую эстэтычную асалоду ад маляўнічага, яскравага відовішча.

Музыка «Выбранніцы» без знешніх эфектаў. Кампазітар гаворыць са слухачамі сур'ёзна, без скідак на непадрыхтаванасць. Ён прапануе задумацца над сэнсам жыцця, над праблемамі мінулага і сучаснасці, заглянуць у цудоўны свет герояў... Музыка, яскрава нацыянальная, хоць аўтар і не карыстаецца фальклорнымі цытатамі, сучасная па аркестравай распрацоўцы, трымае нас, слухачоў, у настаянным напружанні, дасягаючы высокага эмацыянальнага накалу. Традыцыйны сюжэт балета для кампазітара толькі повад для размовы аб свабодзе асобы, аб недапушчальнасці прымусу, якія б формы гэты прымус ні прымаў.

Мне даводзілася слухаць балетныя сюіты А. Хачатурана, Кара Караева, Р. Шчадрына, і я знаходзіла ў іх новую прыгажосць, якую не змагла «прыкмеціць» на спектаклі, дзе, акрамя музыкі, нямала іншых сцэнічных кампанентаў. Упэўнена, што і балетныя сюіты Я. Глебава заваююць шырокую аўдыторыю. Я не спецыяліст, каб аналізаваць сімфанічны твор, магу толькі сказаць: пакідаючы канцэртную залу, адчуваеш, што духоўна ўзбагаціўся, нешта набыў, стаў крышачку іншым, чым прыйшоў. Глебаўская музыка складаная, яе глыбокі псіхалагізм сугучны сённяшняму дню.

І яшчэ. Я памятаю балет Я. Глебава «Мара», які глядзела ў нашым тэатры оперы і балета. Балет, мне здаецца, быў таксама творчай удачай кампазітара, а музыка, прыгожая і меладычная, рабіла ўражанне чагосьці вельмі раскошнага. Аўтар быццам купаўся ў яскравых хвалях аркестравай партытуры. Пра «Выбранніцу» гэтага не скажаш. Яна аркестравана эканомна, строга, і ў гэтай строгасці — майстэрства сталага музыканта.

Мне застаецца дадаць, што «Выбранніца» заслугоўвае самай высокай ацэнкі.

П. ГРЭГОРЫЮ,
старшы прадавец
аўтазаводскага універмага.

# АБ ПЕРАМОЗЕ ЖЫЦЦЯ

Алесь Асіпенка. «Жыта».

«ЁН АЧНУЎСЯ ад жудаснага крыку. Нешта даўно чутае і як бы чалавечае, нейкая туга, а можа роспач былі ў тым крыку. Язэп азірнуўся і ўбачыў на коміне старога крумкача. Той, пазіраючы на Язэпа, выцягваў шыю, крычаў: крум-м... крум-м...

«Як над мерцвяком крычыць», — падумаў Язэп. Ён узяў кій, шпурлянуў ім у крумкача. Кій ударыўся аб комін. Крумкач паляцеў. «Пасып яму солі на хвост!.. А па кій трэба ісці», — узлаваўся Язэп».

Гэтыя радкі—з першага раздзела аповесці Алеся Асіпенкі, якую ён назваў лаканічна і ёмка—«Жыта». Бо жыта — гэта хлеб, гэта жыццё.

У тое першае пасля вызвалення лета на дарогах, на палях тырчалі калкі з прыбітымі да іх фанеркамі: «Асцярожна! Міны!» Мінёраў няма, яны на фронце. Можа, раён і прышле некалькі чалавек, але калі? Калгасніца Фруза звязала першы сноп, нагнулася і толькі зачапіла сярпом жыта, як пачуўся выбух. І гледзячы на буйнае, жоўтае калоссе, Язэп узрушана гаворыць жыту: «Чуеш, ты—смерць».

Як жа пачынаць тут гаспадарыць? Гэтае пытанне не дае спакою камуністу Язэпу Каліне, які вярнуўся з вайны інвалідам і якога толькі што прызначылі старшынёй калгаса. Турбуе яно ўсіх, хоць пакуль і малалікіх, жыхароў вёскі Кляўцы.

Язэп захапіў рукой жыта і раптам убачыў міну і два вусікі, што тырчалі ў розныя бакі.

Ах, чорт! Баяўся адпусціць сцяблы — раптам зачэпяць вусік. Нагнуўшыся, доўга прыглядаўся да міны. Такія ён бачыў. Не хітрая штука.

Затаіўшы дыханне, адкруціў дрот, з асцярогай зняў міну. Аднёс на ўзмежак, выцер узмакрэлы лоб. Падумаў: «Мінёр памыляецца раз у жыцці». Вярнуўся назад, знайшоў яшчэ адну і зноў пачаў знімаць яе. Мільганула думка: «Добра, што правая рука асталася. Каб левая, дык не здолеў бы».

І другая міна была знята...»

Так натуральна, псіхалагічна перакanана пісьменнік паказвае выхад героя з жыццёвага тупіка. Гэтая натуральнасць апавядальнай плыні — характэрная асаблівасць аповесці Алеся Асіпенкі.

Жыццё ставіць перад Язэпам усё больш і больш пытанняў. Клава, якую ён кахаў да вайны, выйшла замуж за другога. Яго сябра Мішка стаў здраднікам. Не, вельмі не проста ў роднай вёсцы. Вось сёння прыехаў загадчык сельгасаддзела райвыканкома Шугай і прымушае сеяць пшаніцу на пясках, дзе нічога не вырасце. «Ты яшчэ малады, і не бачыш за нашымі справамі вялікай палітыкі», — папракае ён Язэпа. Так, такой палітыкі Язэп не хоча бачыць, бо яна накіравана на паказны бок справы, а не на вынік працы. Арыентацыя на людзей, на чалавека дапамагае Язэпу Каліне знайсці правільны адказ на тыя пытанні і праблемы, якія ставіць перад ім жыццё.

І, бадай, галоўная якасць новай аповесці Алеся Асіпенкі — яе праблемнасць. Паказваючы пасляваеннае жыццё, аўтар ставіць такія праблемы, як: партыйнае кіраўніцтва калгасамі, развіццё партыйнай дэмакратыі, крытыкі і самакрытыкі, давер да чалавека, каханне і інш. Гэтыя праблемы паказаны праз цікавыя вобразы Язэпа Каліны, яго аднавяскоўцаў, прадстаўнікоў раёна.

Асабліва каларытна выпісаны адзін з кіраўнікоў раёна — Гаравы. Яшчэ нядаўна партызанскі камандзір, ён не супраць грукнуць па стале, закамандаваць. Сваімі дэмагагічнымі фразамі ён абяззбройвае многіх. На заўвагу Язэпа, што ў райком камуністы павінны заходзіць як у свой дом, Гаравы заяўляе: «Райком, таварыш Каліна, не дом, дзе можна прыйсці, разваліцца, зубаскаліць або яшчэ што рабіць, — гэта штаб. І трэба весці сябе як у штабе».

Пісьменнік не прыглушае тых складанасцей і цяжкасцей, якія сапраўды былі ў першыя пасляваенныя гады. Калі жыццюміналі не толькі міны. І ў гэтай барацьбе жыцця і смерці перамагае жыццё, сімвал якога — жыта.

«Жыта» Алеся Асіпенкі ўспрымаецца як твор глыбокай думкі і сучаснага гучання. Я, напрыклад, прачытаў аповесць даўнавата, яшчэ ў часопісе, але яе вобразы помняцца і сёння. Безумоўна, яна варта Дзяржаўнай прэміі БССР.

А. ГАРДЗІЦКІ.

АБМЯРКОЎВАЕМ ВЫЛУЧАНЫЯ ТВОРЫ

# З ГОРДАСЦЮ ЗА ЧАЛАВЕКА

Янка Скрыган. «Кругі».

Творы Янкі Скрыгана час ад часу трэба перачытваць, пераасэнсоўваць. Толькі ў такім выпадку можна адчуць усю глыбіню зместу, усю прыгажосць мастацкай формы яго твораў.

Янка Скрыган прайшоў суровую школу жыцця, аб якой ён піша: «Я зазнаў і трагізм, і роспач, зведаў цану радасці і надзеі: быў на грані таго горкага адчування, калі чалавек астаецца без радзімы — не мае на яе права, і зразумеў, якое гэта вялікае і дарагое пачуццё — бацькаўшчына».

«Кругі» — твор аўтабіяграфічны, але гэта і твор пра нашу эпоху, пра нашага сучасніка, якому гісторыя даручыла пракладваць шлях у светлае будучае. Таму невыпадкова, што кніга пачынаецца зваротам аўтара да бацькаўшчыны. Не будзе перабольшаннем сказаць, што словы гэтага звароту могуць упрыгожыць любы помнік: «І я люблю цябе, маці мая. І ўсе твае магілы. І ўсе папялішчы. І курганы. І тыя, старадаўнія і ўчарашнія, што асталіся як памяць найлюцейшага змагання з самай страшнай пачварай — чорнай свастыкай. Гэтыя ахвяры — святыя».

У 1955 годзе Янка Скрыган вярнуўся ў Мінск. Ён ідзе на Круглую плошчу, каб сказаць: «Слава табе, вялікі чалавек — пераможца і будаўнік! Слава розуму, волі, любові і працы залатых рук тваіх!»

Праз усю кнігу праходзіць гэты аптымістычны напал. Яго не пакідаюць думы пра пакаленне якое прыйдзе нам на змену. «Але я цвёрда ведаю,— піша ён, — і веру ў адно: у іх будзе гордасць. Гордасць за рэвалюцыю і за тых людзей, якія яе здабывалі».

Яшчэ да вайны аўтар «Кругоў» пазнаёміўся з многімі вядомымі тады пісьменнікамі Беларусі, сярод іх— Янка Купала, Кузьма Чорны, Пятрусь Броўка, Міхась Чарот, Алесь Дудар, Цішка Гартны, Міхась Зарэцкі, Платон Галавач і іншыя. Гэтым цікавым сустрэчам у кнізе адведзена шмат старонак. Яны праліваюць святло на станаўленне і гісторыю развіцця нацыянальнай літаратуры. У вядомых майстроў слова пісьменнік вучыўся ярка і пераканаўча адлюстроўваць жыццё.

Пра што б ні пісаў Янка Скрыган— пра каханне, прыроду, падзеі ў жыцці дзеючых асоб ці ў сваім,— мова яго твораў багатая на фарбы, вобразная і дакладная. Вось як апісвае ён шафёра Майбараду, з якім едзе ў камандзіроўку: «Майбарада сядзіць, як цар,— адкінуўшыся да спінкі сядзення, надаўшы твару рысы велічнай спакойнасці. Рукі яго ляжаць на рулі лёгка, нібы толькі для таго, каб адпачыць на ім, а павароты робяцца як бы самі. Нага ляжыць на педалі таксама быдта для прыліку, проста толькі таму, што так зручна. Можа, гэтая свабоднасць перадаецца ўсёй машыне: яна імчыць весела, роўна, ажно пасвіствае вецер».

А вось малюнкі сібірскай прыроды: «Я палюбіў зіму, калі ўвесь свет кружыцца вакол цябе ў шалёным, дзікім, белым, сляпучым танцы і ты ўжо не ведаеш, дзе права, дзе лева, нават дзе неба і дзе зямля. Палюбіў імклівае, але нейкае гарачае і нейкае ва ўсім спелае лета, за якое на вачах растуць і збажына, і трава, і кветкі, яркія і буйныя і ўсё-такі як бы нечым несапраўдныя, бо ў іх няма самага найміленшага іх харaства — паху... Пад сярэдзіну лета колькі ў тых пералесках будзе ягад — буйных чырвоных трускалак, якіх можна набраць цэлы кораб на адным месцы, лежачы бокам у высокай траве».

Кругі... У жыцці кожнага чалавека можна іх знайсці. Свае асабістыя кругі Янка Скрыган змацаваў з эпохай, з часам, таму яны атрымаліся блізкімі і дарагімі ўсім, каго хвалюе гісторыя Айчыны яе будучыня.

Ул. КУЗЬМІЧ.

## ШТО ЧЫТАЦЬ ПРА ТВОРЫ, ВЫЛУЧАНЫЯ НА ПРЭМІІ


**Рыгор БАРАДУЛІН.**
*Зборнік вершаў і паэм «Лінія перамены дат».*

**Дзяшкевіч М.** Шчодрае сонца Ушач. «Звязда», 1970, 3 лютага.
**Поляк В.** Лініі майстэрства. «Літаратура і мастацтва», 1969, 30 снежня.
**Шпакоўскі Я.** Першароднасць вобразнага мышлення. «Маладосць», 1970, № 2.

**Аркадзь КУЛЯШОЎ.**
*Кнігі перакладаў: «Лірыка» М. Ю. Лермантава, «Энеіда» І. П. Катляроўскага. «Спеў аб Гаявaце» Генры Лангфела.*

**Ахрыменка П.** Падарунак народам-братам. «Літаратура і мастацтва», 1970, 10 лютага.
**Семяжон Я.** І пах, і колер, і трываласць. «Літаратура і мастацтва», 1968, 19 лістапада.
**Шпакоўскі І.** Лангфела на беларускай мове. «Беларусь», 1969, № 12.
**Бярозкін Р.** Лермантаў па-беларуску. «Полымя», 1970, № 4.

**Янка СКРЫГАН.**
*Кніга прозы «Кругі».*

**Андраюк С.** Кругі жыцця. «Звязда», 1970, 21 мая.
**Бур'ян Б.** Гісторыя нашага народа-сучасніка. «Полымя», 1970, № 2.
**Дзяшкевіч М.** Запаветнае. «Літаратура і мастацтва», 1970, 15 мая.

**Рыгор ШКРАБА.**
*Кніга аб майстэрстве пісьменніка «Літаратура і мова».*

**Базарэвіч М.** Аб пісьменніцкім майстэрстве. «Вячэрні Мінск», 1970, 27 сакавіка.
**Бугаёў Д.** Прадмет даследавання — жыццё і літаратура. «Літаратура і мастацтва», 1970, 3 лютага.
**Бярозкін Р.** Калі ў крытыку жыве чытач. «Беларусь», 1969, № 10.
**Усікаў Я.** Кніга пра майстэрства. «Звязда», 1969, 12 верасня.

САМАДЗЕЙНАЕ МАСТАЦТВА. СВЯТЫ І БУДНІ

# «ТАКІ Ў НАС ДЫРЭКТАР...»

МАГІЛЁЎСКІ завод штучнага валакна імя Куйбышава. Першынец беларускай хіміі. Завод-музей, завод-школа, самы сучасны, самы перадавы завод. Колькі тут перабыло практыкантаў, дэлегацый, гасцей! Колькі здзіўлення, замілавання, захаплення! Фотааматары, карэспандэнты, кінааператары не ўтрымліваюцца ад спакусы зрабіць здымкі ў бабінажных цэхах і шкадуюць, што не могуць потым паказаць дзяўчат-чараўніц, іхняй пражы ва ўсіх колерах — незвычайная прыгажосць.

— А цяпер паглядзім самы галоўны цэх, — звычайна прапануе гасцям дырэктар.

— О, у вас яшчэ і галоўны цэх! Сакрэтны?

— Адкрыты для ўсіх. Цэх настрою. Калі ласка...

І Аляксей Міхайлавіч вядзе ў Палац культуры — гордасць, красу завода. Расказвае пра свой народны ансамбль танца—лаўрэата Усесаюзнага фестывалю самадзейнага мастацтва, народны агіттэатр «Усмешка» — таксама лаўрэата Усесаюзнага фестывалю і прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, народны тэатр драмы — дыпламанта рэспубліканскага фестывалю...

— Чулі, — кажуць госці.

— Бачылі...

— Цудоўна...

Тыя, што не бачылі, застаюцца на канцэрце, спектаклі.

А яшчэ — трэба ўбачыць заводскі прафілакторый, піянерскі лагер «Алімпія», дзіцячыя камбінаты, заводскія сцягі: памятныя, пераходныя...

Часам сумна становіцца Аляксею Міхайлавічу пасля такога беглага знаёмства гасцей: «Не зразумелі. Не зразумелі можа самага галоўнага: як ствараецца настрой для працы, для заваявання гэтых сцягоў...».

Толькі маці ведаюць, якое гэта шчасце, калі дзеці дагледжаны, калі няма праблемы, як уладкаваць дзіця ў яслі, садзік.

Тут, на заводзе, гэтай праблемы няма. Калі ласка, і яслі і садзік. Усім піянерам і школьнікам улетку і ў зімовыя месяцы ёсць месца ў лясным лагеры. І касцюмчыкі на кожны дзень, на свята пашыты заводам, на прафсаюзныя сродкі. Ёсць месца для адпачынку і піянерам з Балгарыі, ГДР і іншых братніх краін.

Сёлета адкрыты яшчэ адзін лагер— пры Палацы культуры: для юных удзельнікаў мастацкай самадзейнасці. Тут яны адпачывалі і рыхтаваліся да рэспубліканскага агляду. Хор, аркестр, танцавальны калектыў вярнуліся пераможцамі — з дыпломамі першай ступені. Ці ж не радасць бацькам, заводскаму калектыву? З той жа радасцю праводзілі пасля гэтага дзяцей на дзесяцідзённы адпачынак да Чорнага мора.

І зноў я вяртаюся да асобы дырэктара, да Аляксея Міхайлавіча Ніканава. Ён такі — можа не пабываць іншы раз у цэху, на вытворчым участку (пабудуць галоўныя спецыялісты, кіруючыя таварышы з парткома, заўкома), але не можа не прыйсці на акцябрыны ў Палац культуры, у яслі-сад і піянерскі лагер, на піянерскі збор і заняткі музычнай студыі, на рэпетыцыю і канцэрт дзіцячага ансамбля песні і танца...

Задоўга да Новага года дырэктар сабраў усіх работнікаў завода, якія маюць дачыненне да выхавання дзяцей. Выслухаў, чым думаюць парадаваць малышоў. І кажа:

— Так было летась, пазалетась. А дзеці ж тыя самыя. Падумайце, пафантазіруйце. Каб ім запомніўся Новы год, каб было што ўспомніць праз дзесяць, дваццаць гадоў, расказаць сваім дзецям...

Падумалі. Напісалі кінасцэнарый. Токар механічнага цэха кінааматар Леанід Бялоў зняў казачны фільм, як Дзед Мароз выпраўляўся з Салтанаўскага лесу з дарункамі, з якімі прыгодамі дабіраўся да дзяцей. Вось ён уваходзіць у Палац культуры, сыходзіць з экрана... Жывы дзед, асветлены яркім святлом прыгажуні-ёлкі, вітае, віншуе з Новым годам.

А думка дырэктара пайшла далей:

— Што, калі стварыць казку-оперу? У нас жа такі аркестр, хор, танцоры!.. Падумайце.

І вось ужо рыхтуецца дзіцячая опера «Песенька ў лесе» кампазітара Р. Бойкі. Яе ставіць рэжысёр абласнога тэатра, заслужаны артыст рэспублікі А. Раеўскі. Разам з дырыжорам Л. Каганавым, балетмайстрам Э. Кіракозавай. У хоры і балеце па 40 хлопчыкаў і дзяўчатак. Шыюць касцюмы, рыхтуюць дэкарацыі.

Дбаючы аб дзецях і падлетках аб стварэнні радаснай атмасферы, дырэктар ведае, як гэтая радасць разыходзіцца па сем'ях, цэхах, як яна ўзнімае настрой рабочых, работніц, служачых завода.

У шматтысячным калектыве ўсіх ведаць не будзеш. Дырэктар ведае ўсіх камандзіраў падраздзяленняў і майстроў, перадавікоў і наватараў вытворчасці. Усіх, ад каго залежыць настрой калектыву.

Вось ён на рэпетыцыі танцавальнага ансамбля. Зайшоў, убачыў Міхаіла Селядцова, павіншаваў з нараджэннем сына. На вачах дырэктара рос, вучыўся фабзаец, стаў майстрам цэха, уступіў у партыю, быў сакратаром цэхавай партарганізацыі. Жаніўся, прычакаў дачку, а цяпер — сына. Трыццаць пяць гадоў, а танцуе з юначай лёгкасцю.

Нічога не абяцаў дырэктар. Зусім нечакана атрымаў Міхаіл большую двухпакаёвую кватэру. Пасля камсамольскага вяселля атрымалі добрую кватэру артыст народнага тэатра «Усмешка» слесар эксперыментальнага цэха Віктар Жылаванчык і ўдзельніца танцавальнага ансамбля лабарантка цэнтральнай заводскай лабараторыі Ала Чумакова. Апошнім часам справілі наваселле нядаўні электрык, цяпер майстар электрацэха, удзельнік ансамбля танца Міхаіл Леўчанка, загадчыца дзіцячага сектара Палаца культуры Ганна Бальнікава і іншыя заўзятыя аматары самадзейнага мастацтва.

— Артыстам у нас прывілеі, — сказаў начальнік аднаго цэха. Кватэры атрымоўваюць ледзь не ў першую чаргу. Любую змену на заводзе выбіраюць. А паспрабуй запярэчыць — дырэктар за іх гарой!

У гэтым перадавым цэху абмінулі неяк прэміяй удзельніка мастацкай самадзейнасці «Яму, — разважалі, і так нямала гонару, пашаны». Інакш разважыў дырэктар. Паклікаў на размову кіраўніцтва цэха, растлумачыў:

— Вы ведаеце, што можам пазбавіць прэміі ўвесь цэх? Мастацкая самадзейнасць — адзін з важнейшых паказчыкаў спаборніцтва. Вось правядзём агляд у цэхах і пераканаемся...

Ці варта гаварыць, як пачалі ставіцца пасля такой размовы да ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці ў кожным цэху, на кожным участку.

— Але... Дасталося неяк і нам ад Аляксея Міхайлавіча,—успамінае дырэктар Палаца культуры М. Кіракозаў. — Даведаўся, што выключылі з танцавальнага ансамбля аднаго ўдзельніка, і запатрабаваў тлумачэння. Кажам, за парушэнне дысцыпліны бюро ансамбля рашыла... «Пад мухай» пачаў з'яўляцца на рэпетыцыі... «Пад мухай? — перапыніў дырэктар.— Тым горш. Могуць падвярнуцца «спагадлівыя дружбакі» і зусім звесці хлопца. Трапіць у выцвярэзнік... такі танцор!... Пакараць чалавека працай, чым памагчы. Падумайце, парайцеся ў сваім бюро».

Так, дырэктар завода ведае ўсіх удзельнікаў самадзейнасці і любіць іх, іхняе мастацтва. Сёлетняй вясною я быў на конкурсных спектаклях, канцэртах вакальных і танцавальных калектываў, хораў і аркестраў у розных заводскіх клубах, дамах культуры. Нідзе не бачыў гэткай увагі кіраўнікоў прадпрыемстваў да мастацкай самадзейнасці, як на заводзе штучнага валакна. Аляксей Міхайлавіч быў на ўсіх спектаклях і канцэртах у сваім палацы, на гарадскім, абласным аглядах-конкурсах. Уважліва выслухоўваў заўвагі журы, мастацтвазнаўцаў з Мінска, падоўгу гутарыў з удзельнікамі самадзейнасці.

Не проста песня ці танец цікавяць Ніканава. Яго цікавіць чалавек у мастацтве, асоба самадзейнага артыста. Вось чаму па яго рэкамендацыі на заводскія стыпендыі скончылі інстытуты цяперашнія актыўныя ўдзельніцы ансамбля танца Людміла Каваленка, Таццяна Паўлянкова. Сёлета едзе на вучобу ў Ленінградскі хіміка-тэхналагічны інстытут саліст гэтага ансамбля, работнік аддзела галоўнага механіка завода Ігар Шавель. Летась рабочы цэлафанавага цэха Юрый Агейчык скончыў дзесяцімесячныя курсы харэографаў ў Мінску. Вярнулася з Ленінградскай вышэйшай прафсаюзнай школы ў Палац культуры энтузіястка самадзейнага мастацтва Тамара Жукава. Зараз яна член ЦК камсамола Беларусі, дэпутат Кастрычніцкага раённага Савета. Заканчвае завочна Маскоўскі інстытут культуры мастацкі кіраўнік палаца Станіслаў Кружылаў. Ды хіба ўсіх пералічыш?

— Не падумайце толькі, што наш дырэктар такі добранькі, паблажлівы дзядзька ці, як у нас называюць яго, баця, — гаворыць Кіракозаў. — На прафсаюзнай канферэнцыі, калі зацвярджаўся бюджэт, ён першы запярэчыў. Планавалася датацыя Палацу культуры ў суме 21.900 рублёў. «Вы, кажа, расшыфруйце, растлумачце мне, дэлегату, куды пойдуць гэтыя грошы?» І мы зразумелі, што растлумачыць трэба кожнаму дэлегату, каб потым людзі маглі расказаць у сваіх цэхах, на ўчастках.

Сёлетняй вясною, — працягвае Мімікон Георгіевіч, — выклікае нас, кіраўнікоў Палаца культуры, танцавальнага ансамбля і ў прысутнасці сакратара парткома, старшыні заўкома кажа: «Наступаюць вам на пяты трактаразаводцы. Глядзеў, як выступала «Вяснянка», сачыў за рэакцыяй гледачоў і, ведаеце, зайздрасць брала. Крыўдна станавілася за вас. Чаму ў вас так?» Мы зразумелі яго засмучэнне. Аляксей Міхайлавіч быў ініцыятарам стварэння заводскага ансамбля. Дзевяць гадоў назад ён прапанаваў мне стаць на заводзе кіраўніком ансамбля, а потым і дырэктарам Дома, цяпер — Палаца культуры. Дапамог, як кажуць, выйсці ў людзі, у заслужаныя дзеячы культуры БССР, хаця гэта пачэснае званне ён заслужыў больш за мяне.

Днямі народны агіттэатр «Усмешка» вярнуўся з прыбалтыйскіх гастроляў. Павіншаваў Аляксей Міхайлавіч калектыў з паспяховым выступленнем і кажа: «У Прыбалтыцы ўжо другі раз былі, і ў Ленінградзе выступалі. І ў Маскве. У Зорным гарадку. На Украіне, у Балгарыі... На арбіту выйшлі. Радавацца трэба. А мне, ведаеце, часам становіцца сумна. І не толькі мне. У цэхах, у падшэфным калгасе ўсё радзей бачым вас... Можа б стварылі невялікія брыгады, напісалі для іх сцэнарыі з заводскага жыцця і ў абедзенныя перапынкі выступалі хвілін па 30—35? Падумайце, Падрыхтуйце канцэрт і для падшэфнага калгаса...»

Кабінет дырэктара Палаца культуры. Усе ведаюць, што ў вячэрнія часы гэта і кабінет дырэктара завода, дэпутата Вярхоўнага Савета БССР Аляксея Міхайлавіча Ніканава. Тут ён прымае выбаршчыкаў. Тут чытае сцэнарыі, п'есы да новых пастановак, праграмы вечароў прысвячэння ў рабочыя, провадаў у Савецкую Армію і на пенсію, дзён калектываў камуністычнай працы і свята вуліц, тут ён гутарыць з мастацкімі кіраўнікамі, рэжысёрамі, дырыжорамі, артыстамі.

Часам выходзіць Аляксей Міхайлавіч з гэтага кабінета ў музей, нядаўна адкрыты пры самым актыўным удзеле яго сына Юрыя — інжынера ліфтабудаўнічага завода. Падоўгу затрымліваецца ля стэндаў, фотаздымкаў, дакументаў, якія сталі гісторыяй. Стаіць і ля здымкаў сённяшніх рабочых, работніц, цэхаў, узораў іх прадукцыі. І думае пра заўтрашняга рабочага. Бачыць новае папаўненне калектыву, яшчэ больш адукаванае, гарманічна развітае, шчаслівае.

**І. ІСАЧАНКА,**
**спец. кар. «Літаратуры і мастацтва».**

З пошты ЛіМа

## ТОЛЬКІ ДЛЯ ЗАПІСУ?

*У «Літаратуры і мастацтве» 28 жніўня г. г. было надрукавана пісьмо чытача Ул. Зянько «Патрэбен беларускі каляндар». Абедзвюма рукамі галасую за гэта. Але я хачу пагаварыць пра іншы каляндар. Перакідны каляндар на беларускай мове, які сёння стаіць не на адным рабочым стале.*

*Мне здаецца, што чалавек, які яго ўкладаў, бачыў адзінае прызначэнне календара ў тым, каб паведамляць, які сёння дзень, калі ўзыходзіць і заходзіць сонца, і яшчэ рабіць на ім запісы.*

*Але ж добры каляндар—гэта яшчэ даведнік па цэлым шэрагу падзей, дат і г. д. Перагарнуўшы чарговы лісток календара, мы хочам ведаць, чым адметны сённяшні дзень.*

*На жаль, каляндар, пра які ідзе гаворка, на такія звесткі вельмі бедны. Напрыклад, тут нават не ўспомнілі, што 17 верасня—дзень вызвалення Заходняй Беларусі. Не ўспомнены і многія іншыя падзеі і даты—вехі гісторыі рэспублікі. Скажам, абыдзена такая выключная падзея, як 50-годдзе Ленінскага камсамола Беларусі. Ёсць толькі скупы радок пра тое, што 25 верасня 1920 года ў Мінску адкрыўся першы Усебеларускі з'езд камсамола. Дарэчы, на самай справе з'езд адкрыўся 24 верасня.*

*Вельмі скупы каляндар на звесткі аб культурным жыцці рэспублікі. Можна і патрэбна было сказаць пра такіх дзеячоў беларускай навукі, культуры і літаратуры—сёлетніх юбіляраў: Ф. Вінакурава, В. Сербента, І. Лупіновіча, Ул. Корш-Сабліна, Ул. Дубоўку і інш. Затое ў календары адзначана 150-годдзе з дня нараджэння Бутакова, рускага адмірала, аднаго з заснавальнікаў тактыкі паравога браняноснага флоту. Наогул, тут знойдзеш нямала напамінкаў пра другарадныя падзеі і факты.*

*Што і казаць, падрыхтоўка календара не такая простая справа, як здаецца на першы погляд. Патрэбны калектыў аўтараў-спецыялістаў у розных галінах культуры і навукі. Аднаму ж чалавеку, як гэта робіцца зараз, з такой задачай не справіцца. Гэта трэба ўлічыць на будучае.*

**В. ПАПЯРЭЧНЫ.**

г. Мінск.

## Янка КУПАЛА НА КАЎКАЗЕ

**На працягу раду гадоў, а дакладней у 1926, 1928, 1930, 1933, 1934, 1937 і 1940-х гадах — на славутых Каўказскіх мінеральных водах лячыўся, адпачываў і працаваў выдатны савецкі пісьменнік, народны паэт БССР Янка Купала. У Кіславодску, Есентуках і Пяцігорску ён напісаў у гэты час рад вершаў, прысвечаных вялікаму грузінскаму паэту Шата Руставелі і дагестанскаму ашугу Сулейману Стальскаму, воінам Савецкай Арміі, дружбе народаў.**

**Большасць з іх увайшлі ў зборнік «Ад сэрца», які выйшаў у свет у 1940 годзе і атрымаў Дзяржаўную прэмію першай ступені.**

**На Каўказе паэт напісаў таксама рад публіцыстычных артыкулаў і нямала пісем. Дарэчы, большасць пісем была адрасавана вядомым пісьменнікам краіны.**

**Асабліва палюбіўся Янку Купалу Кіславодск, дзе ён звычайна спыняўся ў санаторыі імя Горкага, які існуе і цяпер. Мясцовае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры прыняло рашэнне адзначыць у 1972 годзе 90-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы. Распачаты збор матэрыялаў аб яго знаходжанні ў Кіславодску. На будынку санаторыя, у якім ён жыў, будзе вывешана мемарыяльная дошка.**

**А. ПЯТРЭНКА.**

Кіславодск.

Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку, акадэміку, дырэктару Інстытута літаратуры АН БССР Васілю Васільевічу Барысенку ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю жонкі Ганны Іванаўны.

# НА ДОСВІТКУ

Уладзімір ФЕДАСЕЕНКА

Мал. Я. ГОЛЬБЫ.



**Неўзабаве ў выдавецтве «Беларусь» выходзіць мой новы раман «Віхуры на скрыжаваннях». Ён — своеасаблівы працяг першай маёй кнігі «Дубовая Града». Новы мой твор — аб барацьбе моладзі ў тыле ворага ў час Вялікай Айчыннай вайны. Героі рамана ўдзельнічаюць у баях, любяць. Ім знаёмы горыч паражэнняў і радасць перамог. Прапаноўваю ўвазе чытачоў урывак з гэтага рамана.**

**АЎТАР.**

ПАРАІЎШЫСЯ, хлопцы вырашылі ісці ў Дубраўку, хаця гэта і далёка. Да гэтай вёскі падыходы кепскія, можа, там немцаў не будзе. Валодзя на кабылу не сеў. Ён угаварыў ехаць Валю.

Зарава засталося ззаду. Хмары над зямлёй віселі вельмі нізка, і партызанам здавалася, што яны ўвесь час ідуць з гары ў якуюсьці цемру. Кожны глядзеў уперад напружана. Зрок улоўліваў на белай коўдры то шэры кусточак, то цёмную сасонку. Усе былі насцярожаны, але адзін аднаму не выказвалі свайго настрою і крочылі моўчкі. Сырое надвор'е глушыла ўсе гукі, і таму, напэўна, акрамя сваіх крокаў, дыверсанты больш нічога не чулі. Маўчала неба, маўчала зямля. Не чуваць было ні стрэлаў, ні гулу машын, ні нават сабачага брэху. Дзе-нідзе ў наваколлі хмару асвеціць мутны бляск ракеты, але да слыху стрэл не далятае.

Партызаны пакуль што ішлі па незнаёмых мясцінах. І хаця без компасу, без карты, але ніхто не трывожыўся, што не трапіць у патрэбнае месца. Валодзя часта гаварыў камандзірам, што ў любы час сутак, у любое надвор'е ён адчувае сабою, плячамі, дзе поўдзень, а дзе поўнач, дзе захад, а дзе ўсход. Напэўна, з дзяцінства беларускіх хлопцаў навучыла арыентавацца сама прырода: хмарныя дні, непраходныя балоты, цёмныя бары. І цяпер яны ходзяць у любых напрамках беспамылкова.

Апоўначы група падышла да Дубраўкі і спынілася за агародамі. У вёсцы было цёмна і ціха, але камандзір загадаў зрабіць разведку. Ён накіраваў Грышку на адзін канец вёскі, а Калошу на другі. Камандзір сказаў хлопцам агледзець дарогу і па слядах вызначыць, ці заязджаў або заходзіў хто ў Дубраўку.

Звычайна, якім бы глыбокім сном ні спала вёска, але варта пасядзець крыху паблізу— і ты адчуеш жыццё. То дзе жывёліна грукне, то дзверы скрыпнуць, а дзе дзіця заплача, і агеньчык блісне ў акне.

Дубраўка стаіць зацярушаная снегам, прытуліўшыся адным бокам да лесу. Яна нібы прыталася, каб не выдаць чым сябе. І гэта незвычайная цішыня трывожыла Валодзю, але ён не рабіў, тым больш не выказваў, ніякіх вывадаў і чакаў разведчыкаў.

Нарэшце, хлопцы прыйшлі. Яны паведамілі, што ні каляін, ні слядоў свежых няма.

— Што ж рушым,—сказаў камандзір і першым пайшоў каля плоту да хаты.

З агарода ён пастукаў у акно, але ў хаце ніхто не аказваўся. Тады ён адчыніў варотцы са штакету і падышоў да сянец. Дзверы былі не замкнёны.

— Няўжо так моцна спяць?—шэптам сказаў Валодзя.

Адзін за адным партызаны ўвайшлі ў хату. Данілаў бліснуў запальнічкай. Падлога чыстая, ложкі засланы, на сцяне—фотакарткі, а крыху вышэй—маўклівыя ходзікі з апушчанай да адказу гірай. Праўда, было холадна, амаль як на дварэ.

— Адпачываць ёсць дзе, але ж тут не нагрэешся.—сказаў Анатоль.

Валодзя загадаў хлопцам агледзець суседнія двары. Выйшаў і сам, каб паставіць кабылу ў хлеў. Яго здзівіла, што і каровы ў хляве няма, а па ўсяму відаць—нядаўна была. Нават сена нарыхтавана поўны сенавал. «Няўжо ад усяго жывога вёску ачысцілі гітлераўцы?»—падумаў Валодзя. Навязаў кабылу да сенавала, выйшаў, захапіў пад павеццю бярэма дроў і вярнуўся ў хату. На прыпечку ўжо зырка гарэлі смалякі.

— Напэўна, не знойдзем тут цёплага кутка, трэба самім сябе абагрэць ды чайку закіпяціць.

— Пачакаем, няхай хлопцы вернуцца,—сказала Валя.

— Ніякіх добрых навін яны не прынясуць. Я ўжо па почырку бачу, што тут прайшлі гітлераўцы, якія ведалі, што гэта партызанская вёска.

— А я думала, што мы выпадкова трапілі ў пустую хату,—здзівілася Валя.

— Хата не пустая, усе рэчы на месцы.

— Не, калі людзей няма, дык можна сказаць, што пустая. Я думаю, што і наша ў Слабадзе ўжо апусцела.

— На світанні мы пройдзем да Слабады, і калі будзе магчыма—наведаем маці.

— Ды не, цяпер мы туды не зойдзем.

— Прама ж мы не пойдзем, а правядзём разведку і будзем ведаць, што рабіць далей.

Валя дастала са свайго рэчавага мяшка сухар і прапанавала яго Валодзю.

У хату зайшлі хлопцы.

— Палавіну вёскі абышлі—ні душы, нават у дварах жывёлы ніякай няма,—дакладваў Анатоль.

— Мяне толькі здзіўляе, як маглі немцы так ачысціць Дубраўку, каб ні аднаго чалавека не засталося. Нават агнём знішчалі вёскі і то хоць хто-небудзь з жыхароў ды заставаўся жывым,—разважаў камандзір.

— На вуліцы следу чалавечага няма,—дадаў Калоша.

Валя, не даслухаўшы канца размовы, распаліла ў печы, наліла чыгунок вады і паставіла яго ў печ.

— Давай скавараду,—сказаў Анатоль.—Я ў адной хаце на паліцы кавалак сала знайшоў.

— Малайчына,—пахваліў камандзір.—Давайце смажыць, але ж некаму трэба ісці і на варце пастаяць. Я не думаю, што за намі немцы будуць палаваць, але ж могуць адступаць і трапіць сюды на агеньчык.

— Я пайду,—сказаў Грышка.—Толькі ж пакіньце мне сала.

— Добра, будзе. Праз дзве гадзіны цябе зменім. А цяпер глядзі, не блукай пасярод вуліцы, хадзі ціха і, галоўнае, прыслухоўвайся. Бо вораг невядома адкуль можа з'явіцца,—сказаў Валодзя.

— Ёсць!

Грышка пайшоў. Каля печкі завіхалася Валя. А хлопцы сціхлі і драмалі. Дзяўчына заўважыла, што ў Валодзі апусцілася на грудзі галава. Яна падышла і прашаптала, каб ён пайшоў і лёг. А ён працёр рукою вочы, устаў і падышоў да печы:

— Я доўга драмаў?

— Не.

— Ведаеш, здалося, што я дома і без ніякай трывогі лёг у ложак. Ты будзіш, а мне мроіцца, што гэта маці. Далібог была нейкая шчаслівая даваенная хвілінка майго існавання.

— Дык дарэмна я разбудзіла цябе?

— Гэта ж быў толькі сон, а ў сапраўднасці ж не так. Ужо напэўна такога жыцця не будзе, якое было ў дзяцінстве. А будуць заўсёды перад табой клопаты. Здаецца, каб адваяваўся ды вярнуўся назад у тое даўняе басаногае дзяцінства, дык быў бы самы шчаслівы.

— Валодзенька, я ўпершыню ад цябе чую такія размовы.

— Якія?

— Скіраваныя назад. Ты заўсёды жыў і думаў наперад, а цяпер хочаш вярнуцца ў безразважнае жыццё. Ты ўтаміўся, табе трэба адпачыць. Мы тую ноч спалі, а ты не. Наступае ж самы радасны момант, наша вызваленне. Ён радасны і для дзіцяці.

— Так... я стаміўся. Напружанне знікла, і ў думках я лячу ў нікуды. Я балюча пераношу вось такія з'явы. Няма цэлай вёскі людзей. Можа такое ж становішча і ў Слабадзе і ў Дубовай Градзе.

— Дык прычым ты тут?

— Якая ж тады мая перамога. Гітлераўцы, нібы рыбу ў траўлер, згрэблі людзей, а мы два гады тут адстайвалі жыццё. Ты ж бачыш, яго няма цяпер. Каты—і тыя без людзей падохнуць.

— Мы тут будзем жыць! А не мы, дык іншыя нашы людзі. Ты б сказаў, на чорта вайна ўвогуле, а не твая барацьба. Ты бачыў, колькі фашыстаў бяжыць, і не можаш запыніць, дык расчараваўся. Возьмуць недзе ж іх, ідуць твой бацька, мой. Хтосьці ж гоніць гітлераўцаў, не самі ж яны бягуць.

— Я гэта ўсё разумею, але ж, здаецца, лепш было б пражыць хоць год дзіцем. Хіба толькі з'явяцца якія новыя вялікія захапленні і праблемы ў жыцці, дык зможам забыць на ўсе пакуты людзей. Ты думаеш, што Пыліла сапраўды захварэў і не пайшоў з намі? Шкада, што такія людзі застануцца, і з імі ў мірны час будзе цяжэй весці барацьбу.

— Ты б хацеў, каб я была дарослая, а ты дзіця?

— Не, я хацеў бы, каб і ты са мной на прызбе корпалася бесклапотна. А можа і лепш, што мы такія,—усміхнуўся Валодзя, абняў і пацалаваў Валю.—Хаця вось жыццё ідзе сваёй чаргой. Гэта калі не будзе ўсіх людзей, тады толькі напэўна спыніцца яно. А хоць і будзе існаваць, дык нікім не пазнанае. А гэта ўжо рэч у сабе. І асэнсавана жыццём ніхто не будзе задаволены.

— Будзі хлопцаў, няхай стол аслабаняюць. Паясі, паспіш і весялейшым станеш. А то ты пануры, як надвор'е.

Разаслаўшыся за сталом, хлопцы гатовы былі адмовіцца нават ад яды, абы толькі іх не чапалі. Але Валодзя раскатурхаў усіх...

На досвітку Валодзя, Валя і Анатоль пайшлі да Слабады, а астатнія, хто ноччу стаяў на варце, засталіся ў Дубраўцы.

Пахмурную раніцу на нейкі момант ажывіла ружовая палоска з усходу небасхіла, але хутка і яе сціснулі і нібы праглынулі снежныя хмары. Пачалі часцей і часцей даносіцца выбухі. Толькі ля Дубраўкі лес стаяў маўкліва. З яго выйшлі тры чалавекі і накіраваліся ў вёску. Раней у чым-небудзь двары сабака заліўся б брэхам, а цяпер узброеныя людзі тапталіся ціха каля двароў і разглядвалі свежыя сляды. Калоша выпадкова выйшаў на ганак, заўважыў незнаёмых і хуценька павярнуў назад. Праз некалькі хвілін трое партызан выйшлі з хаты. Іх заўважылі прышэльцы і насцярожыліся. Нясмела падыходзілі да іх і партызаны. Ні ў тых, ні ў другіх пароля не было. Толькі сярод адной тройкі быў чалавек у форме савецкага лётчыка, а сярод другой—Данілаў у форме гітлераўскага афіцэра. Наступаў напружаны момант сустрэчы.

— Як далёка накіраваліся?—неўзабаве запытаў Грыша.

— Куды трэба, а вы куды?—прабасіў шыракаплечы мажны чалавек і злосным позіркам акінуў партызан.

Данілаў прыгледзеўся да аднаго з прышэльцаў і хуценька палез у кішэню. Ён дастаў блакноцік і ўслых прачытаў:

— Сукач Піліп—Гут са Слабады. Дык гэта вы і ёсць?

Гут разгублена глянуў на сваіх таварышаў, нібы з імі хацеў параіцца, што адказаць, але тыя маўчалі. Тады ён паправіў на плячы вінтоўку, штучна ўсміхнуўся і сказаў:

— Бачыце, знаёмы знайшоўся, фрыц... Мы партызаны

— І мы партызаны,—спакойна адказаў Данілаў.—Напэўна вы ўсё ж мяне ведаеце.

— Вось камандзір партызанскага атрада Заякін,—паказаў Гут на вялікага чалавека, што стаяў побач.—Вы яго павінны ведаць.

— Я крыху ведаю і Заякіна. Вы напэўна жартуеце,—сказаў Грыша.

— Які тут жарт, я і ёсць Заякін. А вы з якога атрада?

— Мы з «Будзёнаўца».

— Ну, адзін час мы стаялі побач з вашым атрадам.

— Можа, і стаялі,—паціснуў плячамі Грыша.—Дык куды ж вы цяпер без войска?

— Нам трэба хутчэй злучыцца са сваёй арміяй і далей біць фашыстаў,—сказаў Заякін.—Трэба вось лётчыка праводзіць, яго збілі тут ля Слабады.

— А-а, мы дык пакуль што не маем намеру злучацца са сваімі.

— Як гэта не маеце? Загадаю і пойдзеце са мной. А не—дык давайце па-добраму. Пойдзем да нашых і скажам, што ўсе з аднаго атрада. Заякін—гэта мая мянушка.

— О, знайшоўся камандзір,—усміхнуўся Грыша.—У нас ёсць свой, і ён хутка будзе тут. Чаго гэта мы з вамі пойдзем.

Лётчык не мог зразумець такіх адносін паміж партызанамі і маўчаў. Хаця ў душы, відаць, быў на баку Заякіна, які вёў яго хутчэй на злучэнне са сваімі. Данілаў таксама маўчаў, але ён усумніўся, што гэтыя двое ў цывільным адзенні партызаны. І не мог ён зблытаць Гута з кім-небудзь іншым.

— Я быў у якасці перакладчыка пры штабе нямецкай дывізіі,—пачаў Данілаў.—І вы, Сукач, да мяне прыбягалі, каб прадаць савецкіх людзей.

Гэтыя словы нібы апарылі Гута, і ён закрычаў:

— Цяпер я ўспомніў, гэта фашысцкі служака. І напэўна яны ўсе такія, таму і не хочуць ісці з намі.

У Заякіна нарадзілася думка, каб арыштаваць Данілава і яго таварышаў: «Здам савецкаму войску перакладчыка і выведу лётчыка—гэта ж заслуга, гонар. І няхай з імі там разбіраюцца, а я буду на вышыні». Раптам пачулася іржанне.

— А чый гэта конь тут? — запытаў Заякін.

— Нашага камандзіра,—адказаў Грыша.

— Дзе ваш камандзір?

— Ён пайшоў з хлопцамі, хутка будзе, і мы вас праверым.

— Загадваю ісці са мной, — сказаў Заякін.

— Нікуды мы не пойдзем,—зноў засмяяўся Грыша.

— Ты, перакладчык, давай аўтамат,—падскочыў да Данілава Заякін.

— Пайшоў прэч,—адступіўся Данілаў і толькі ўзяўся за аўтамат, як яго апякла чарга.

Заякін адскочыў убок, а Грыша з Калошам схапілі Данілава, які коўзаўся падэшвамі па снезе і хацеў устаяць на нагах.

— Кідайце яго і пойдзем, загадваю!—крыкнуў Заякін.

Хлопцы асцярожна апусцілі на снег Данілава. На іх ужо былі наведзены аўтамат і вінтоўка. Разгублена глядзеў і не дакранаўся да свайго пісталета лётчык.

У Данілава з носа пабег струменьчык крыві.

*СУСТРЭЧЫ З АДВЕЧНЫМ*

# РУКАТВОРНЫЯ МЕЛОДЫІ

**● ПЯЦЬ ТЫСЯЧ «БЕСПРАЦОЎНЫХ» ● ПАТРЭБНА ТВОРЧАЕ АБ'ЯДНАННЕ ● ЗАБЫТЫЯ РАМЁСТВЫ ● ТРАДЫЦЫІ І ЯКАСЦЬ.**

Як ПРЫЕМНА ў вясковым доме на Брэстчыне або Мазыршчыне палюбавацца каларытнымі дыванамі, пасцілкамі, дарожкамі, патрымаць у руках вышываны пругкі палатняны ручнік, пабачыць распісаны валошкамі куфэрак. Усё гэта, як і інкруставаныя шкатулкі, аздобленыя разьбой аконныя ліштвы, франтоны, ажурныя крыжы на кладах і многае іншае, спрадвеку склалася ў пэўную эстэтычную народную традыцыю.

Побач з гэтым далёка не заўсёды і далёка не дастаткова вядомым гарадскому жыхару мастацтвам паступова ўзнікла і суіснуе так званае серыйнае мастацтва, якое іншы раз (часцей беспадстаўна) прэтэндуе на ролю выказніка «народных традыцый». Пераважна гэта безаблічныя, штампаваныя з пластмасы, жалеза, гумы і іншых матэрыялаў вырабы механізаваных фабрык і камбінатаў. Часцей за ўсё такія вырабы не здольныя задаволіць эстэтычныя запатрабаванні чалавека ў той меры, як на гэта здатна сапраўды народнае мастацтва самародных талентаў. Таму зусім натуральныя сёння прага адраджэння і актыўная прапаганда народных промыслаў. Пішу я пра гэта не першы. Таму павярну гаворку ў крыху іншае рэчышча.

Паспрабуйце сабе ўявіць, быццам у нашай індустрыяльнай рэспубліцы не могуць знайсці работу пяць тысяч, ну, скажам, спецыялістаў па электроніцы. Не можа быць!—адразу ўсклікнеце вы. Сапраўды, такое становішча выключана: было б проста злачынствам трымаць без работы людзей (5 тысяч!), на адукацыю якіх выдаткаваны велізарныя сродкі.

Але прыгадаем 5 тысяч народных умельцаў нашай рэспублікі, якія на сённяшні дзень, мякка кажучы, у прастоі, хаця маглі б прынасіць неацэнную карысць усім нам. Майстры гэтыя, як кажуць, ад бога. І грэх не скарыстоўваць іх уменне.

Для рашэння гэтай задачы трэба стварыць у рэспубліцы спецыялізаваныя творчыя аб'яднанні майстроў-умельцаў з планавым іх матэрыяльным забеспячэннем і з высокакваліфікаваным творчым і эканамічным кіраўніцтвам. Узор такога творчага аб'яднання майстроў-умельцаў — «Уку» ў Эстоніі, у якое ўваходзяць больш дзвюх тысяч народных майстроў. Аб'яднанне дае рэнтабельную прадукцыю—800 узораў! І гэта без ніякіх уласных вытворчых плошчаў, без пастаяннай рабочай сілы.

Калі мы арганізуем такое аб'яднанне, народны ўмелец не будзе выглядаць прыватнікам, якога райфінаддзел «цісне» падаткам. І, можа, удасца аднавіць амаль зусім занядбаную вытворчасць чорнаглянцавых ганчарных вырабаў (яны некалі карысталіся попытам у народзе), дубовых бочак, аздобленай славутай трохграннай беларускай разьбою (яны калісьці нават ішлі на экспарт у Англію), арыгінальных палескіх кажушкоў — адмысловай праявы беларускага фальклору.

Апрача таго, даўно наспела патрэба арганізаваць рэспубліканскі музей народнага мастацтва і этнаграфіі. Пра гэта гаворыцца амаль на кожнай рэспубліканскай выстаўцы-конкурсе твораў народных умельцаў і самадзейных мастакоў. Экспазіцыі існуючых краязнаўчых музеяў рэспублікі часцей за ўсё аднабаковыя. Паказ побыту нашых продкаў абмяжоўваецца пераважна экспанатамі, якія сведчаць пра прыгнечанасць, беднасць. Але ў той жа час трэба даць уяўленне наведвальніку і пра душу народа, які пранёс праз стагоддзі багатую творчую фантазію, любоў да мастацкай творчасці. Праўда, папоўніць экспазіцыі краязнаўчых музеяў не проста. У іх запасніках вельмі мала вырабаў народных умельцаў , якія адпавядалі б мясцовым мастацкім традыцыям.

Адсутнасць музея народнага мастацтва адчуваюць не толькі народныя ўмельцы, якія б маглі з дапамогай яго збораў павышаць майстэрства, набываць новы вопыт, але і мастакі-прафесіяналы — ім музей шырока адкрыў бы жыватворныя вытокі народнага мастацтва.

Сёння, на жаль, мы не можам пахваліцца нават арганізацыяй часовых выставак народнага мастацтва.

Даўно патрэбны сапраўды кваліфікаваныя, багата ілюстраваныя даследаванні па народным мастацтве Беларусі. У 1951 годзе Інстытут гісторыі Акадэміі навук БССР выдаў альбом пра беларускае народнае мастацтва. Але ў ім адлюстравана толькі частка таго, чым багаты край, — ткацтва, вышыўка, вязанне, набойка. А дзівосная непаўторная разьба беларускіх народных майстроў, рознакаляровыя паліўныя куфлі, вырабы з саломы, распісныя куфры, нацыянальнае адзенне — пакуль што абыдзены ўвагай выдаўцоў.

Мы не маем выданняў, у якіх абагульняўся б вопыт сучасных народных майстроў. Патрабуюць папулярызацыі ткацтва вёскі Неглюбка Гомельскай вобласці, ганчарства вёсак Гароднае на Брэстчыне і Благоўкі на Магілёўшчыне, забытая тэхніка пляцення з дубцоў лазы і карэння крэслаў і лаў, якой валодае Іван Карлавіч Шэфер з вёскі Харужанцы ў Ваўкавыскім раёне. Зразумела, прыкладаў можна прывесці больш.

У рэспубліцы працуюць больш пяці тысяч народных майстроў. Адны з іх уваходзяць у сістэму ўпраўлення мастацкай прамысловасці, другія — у Мастацкі фонд БССР. Вельмі няпроста зразумець, чаму праблемамі развіцця народнага мастацтва паралельна займаюцца дзве такія арганізацыі, як рэспубліканскі Дом народнай творчасці і рэспубліканскі Дом мастацкай самадзейнасці Беларускага савета прафсаюзаў. А яшчэ існуюць і абласныя дамы народнай творчасці і дамы мастацкай самадзейнасці.

Узнікае пытанне і аб прыстасаванні традыцыйнага рамяства да сучасных запатрабаванняў. Тое-сёе робіцца па захаванні мастацкіх промыслаў у Мастацкім фондзе БССР. Мастацкі камбінат супрацоўнічае з 400 майстрамі-надомнікамі. Праўда, уся ўвага кіраўніцтва камбіната скіравана толькі на ткацтва і вязанне. І тут мы становімся сведкамі таго, як імкліва ператвараюцца народныя промыслы ў звычайныя прадпрыемствы галантарэйнага пашыву. На складзе камбіната ляжыць нерэалізаваная прадукцыя на тысячы рублёў. Чаму? Бо непрадуманы асартымент вырабаў (тут і непрыгожыя па арнаменце і колеры пасцілкі, і грубага фасону рукавічкі, і прымітыўныя бранзалеты, і попельніцы з рога і дрэва). Бо няма патрабавальнасці да мастацкай якасці вырабаў. Няма высакаякасных эталонаў. Таму і традыцыі не развіваюцца. Нацыянальны дэкаратыўны стыль драбнее, ператвараецца ў набор стылізаваных прыёмаў.

Як бачыце, каб «насыціць» рынак сапраўды нацыянальнымі сувенірамі, задаволіць патрэбу ў іх, каб вырашыць усе складаныя і разнастайныя праблемы развіцця народнага мастацтва, не абыдзешся без творчага аб'яднання майстроў-умельцаў, здольнага неадкладна вырашыць і мастацкія, і эканамічныя, і, нарэшце, маральныя праблемы, звязаныя са стварэннем твораў сапраўды высокага мастацкага густу.

**Міхась РАМАНЮК.**



**Вольга ЗАКОННІКАВА**

## НА ГРЫБЫ

Сцягі развешвае
Цёплае ранне.
Шыбую па лесе,
Шапчу заклінанне:
«Баравік, баравік,
І мал, і вялік,
Выйдзі на дарожку,
Пакажы ножку».
Пад елкай прынік
Хітрун-баравік.
Пад тонкай асінкай —
Таўсты падасінавік.
Ля купін рыжых
Гняздзяцца рыжыкі.
На пні апенькі —
І я на каленьках.
Нат белых набрала
Сёння нямала.
Грыбы, грыбочкі,
Насалю тры бочкі.

Фотаэцюд В. САВІЧА.

«Я не баяўся смерці... Скажыце... Я ведаў, за што ішоў паміраць... Скажыце... Перадайце маці, братам...» Ён не дагаварыў і сціх.

Валодзя пачуў аўтаматную чаргу, крык і першым кінуўся па вуліцы, за ім пабеглі Анатоль з Валяй.

Заякін заўважыў партызан і шмыгнуў цераз плот. Гут апусціў вінтоўку і стаяў побач з лётчыкам. Грыша кінуўся вакол двара, каб перахапіць Заякіна. Валодзя таксама пабег туды.

— Забіў Данілава, гад,—крычаў Грыша.

Валодзя ўбег у двор, каб трапіць на след бандыта, але ў хаце пачуў голас Анатоля: «Вылазь, вылазь!» Валодзя ўскочыў у хату. З-пад адчыненай падложыны шалёна зіркнулі вочы бандыта, які спяшаўся переразарадзіць пісталет. Анатоль стаяў белы, як палатно, прыціснуўшыся да сцяны. Вінтоўка ў яго была за плячамі. Валодзя даў чаргу, пасыпаліся на падлогу пустыя гільзы патронаў.

— Мяне б забіў, бандыт, ды ў яго была асечка,—уздыхнуў Анатоль.

— Дык хто ж бяжыць у хату і вінтоўкі з плячэй не здымае!—злосна сказаў Валодзя.—Забіў бы...

Хлопцы выцягнулі з-пад падлогі нежывога бандыта, забралі нямецкі аўтамат, парабелум і пайшлі з хаты.

— Чаго ты стаіш, рот разявіўшы?—сказаў на Калошу Валодзя.—Зараз жа адбяры ў іх зброю.

Лётчык глянуў на зорачку, што была ў Валодзі на пілотцы і моўчкі аддаў пісталет, а Гут апусціў вінтоўку, і яна ўпала яму пад ногі. Больш за ўсё Сукач напалохаўся, калі заўважыў Валю.

Валодзя з Анатолем нагнуліся над Данілавым. Раскінутыя рукі, твар іх баявога сябра былі белыя. Нерухомыя вочы, накіраваныя ў хмарнае неба, заліліся празрыстымі слязьмі.

— Хто вы?—разагнуўся Валодзя і падышоў да лётчыка і Гута.

— Я савецкі лётчык, збіты тут над лесам, а яны сказалі мне, што партызаны.

— А ты хто?—звярнуўся камандзір да чалавека ў цывільным.

— Я са Слабады,—Гут паглядзеў на Валю.—Яна ведае.

— Як ты трапіў сюды?

— Мяне гналі разам з усімі людзьмі ў Альхоўку на расстрэл, але я ўцёк.

— Маю маму вы не бачылі?—раптам запытала Валя.

Гут таптаўся, лыпаў вачамі і не ведаў, што адказаць дзяўчыне.

Сказаць, што бачыў, дык адразу нібы распране сябе. Ён жа амаль усе слабадскія сем'і характарызаваў немцам і праводзіў у апошні шлях аднавяскоўцаў. Бачыў і Валіну маці, якая па ледзь зацярушанай снегам дарозе цягнула на санках сваю меншую дачку. То была жудасная карціна нават для самога Гута, які ведаў, што жанчына вязе сваё дзіця не дзеля таго, каб выратаваць, а на смерць. Ніхто з людзей не ведаў, куды іх гоняць, але ўсе разумелі, што назад ім ужо не вярнуцца.

Валодзя заўважыў, што Гут запнуўся і не ведае, што адказаць.

— Чаго маўчыш? Каб не бачыў, дык адразу б сказаў,—гэтыя Валодзевы словы нібы апяклі Гута. Ён адразу ж вымавіў:

— Бачыў, яе таксама пагналі ў Альхоўку.

Валя захвалявалася і адвярнулася. Падышоў Грыша:

— Дык што, Гут, ты таксама хацеў страляць партызан?

— Не, я не ведаў, што вы партызаны...

— А ты ведаў свайго паплечніка?—запытаў камандзір.

— Не, я з ім сустрэўся выпадкова ў лесе, а потым мы напаткалі лётчыка.

— А хто ты ёсць, ведаеш?—зноў запытаў Валодзя.—І чаму ў цябе мянушка «Гут»?

— Я ў імперыялістычную вайну трапіў да немцаў у палон і калі вярнуўся дадому, мяне так празвалі людзі.

— Ты нямецкую мову ведаеш?

— Крыху.

— Калі перакладчыка ў Слабадзе не стала, то немцы да цябе звярталіся за дапамогай?

— А як жа, часта цягалі з сабою.

— Няпраўда, ты сам да іх бегаў,—злосна сказаў Грыша.—Данілаў запісаў нават тваё прозвішча, як здрадніка.

Гут замаўчаў.

— Скажы, ты заслужыў, каб цябе расстраляць, ці не?—запытаў Валодзя.

— Не, я яшчэ прынясу шмат карысці, пайду на фронт і буду ваяваць, каб вызваліць свайго сына з нямецкай катаргі.

— Чаму ж твой сын не разам з усімі людзьмі ў Альхоўцы?

— Я не ведаю, яго пагналі ў Германію...

— Што, на тваю думку, трэба цяпер зрабіць, каб выратаваць людзей ад знішчэння?—запытаў камандзір.

— Немцаў там многа, яны прачэсвалі нават лес, і ўсіх, хто ім трапіў на вочы, арыштоўвалі і гналі ў Альхоўку.

— І дзяцей і старых?

— Усіх, нават дзяцей з-пад печаў качэргамі выцягвалі ў вёсцы і прымушалі жанчын браць іх з сабой.

— Ты быў у Альхоўцы? Яна ж спаленая, там засталося некалькі хат, і ўсё.

— Бачыў я, што жанчын з дзецьмі і старых у вялікае гумно зганялі, а астатніх людзей спынялі на вуліцы.

— Ведаю я тое гумно, каля лесу стаіць.

— Так.

На ўсходзе грымела, ужо нават чуваць былі асобныя выбухі. Валодзя падышоў да Валі, крыху супакоіў яе, а потым павярнуўся і сказаў:

— Хутчэй знайдзіце рыдлёўкі і пахаваем Данілава вось тут, у кветніку пад бэзам.

Хутка вырасла магіла, над ёй убілі дошчачку з надпісам: «Адважны партызан Мікола Данілаў, 1918 г. нараджэння. Загінуў 23. XI 1943 г.» Валодзя зняў са сваёй пілоткі зорачку і прымацаваў яе да дошчачкі.

— Ты сапраўдны савецкі пілот?—звярнуўся камандзір да чалавека ў форме лётчыка.

— Вось мае дакументы, глядзіце.

— Дайце яму аўтамат. Няхай будзе партызанам.

Лётчык узяў аўтамат і запытаў:

— А што за камандзір мяне вёў, што вы забілі?

— Гут, прызнайся, хто гэта з табой быў?—сказаў Валодзя.

— Ведаю, што ён раней быў у Жлобіне начальнікам нямецкай турмы, а цяпер казаў, што партызан.

— Чуеш, лётчык, кім быў твой камандзір?—горка ўсміхнуўся Валодзя.

— Так, складаныя тут абставіны, цяжка ў іх адразу разабрацца. Гэта не тое, што ў нас у чыстым небе.

— Грыша, бяжы прывядзі маю кабылу,—сказаў камандзір.

Лес не гойдаўся, але здавалася, што пад нізкімі свінцовымі хмарамі ён стогне. Партызаны хутка пайшлі ад вёскі на захад.

Леанід ДРОБАЎ

НАТАТКІ МАСТАЦТВАЗНАЎЦЫ

# У ПОШУКАХ СКАРБАЎ

*Варшава — Кракаў — Уроцлаў — Познань*



К. АЛЬХІМОВІЧ. Жніво.



Ф. РУШЧЫЦ. Зямля.

### XII

ЕДУЧЫ Ў ВАРШАВУ (дакладней — летучы!), я меў намер пабываць у майстэрнях сучасных мастакоў. Думаў нават, што спаткаю тут нейкіх іншых людзей — як ні кажы, але і выхаванне іншае, і лад жыцця іншы. Сумняваўся — ці знайду з імі агульную мову...

А зараз мне здаецца, што мастакі ва ўсім свеце — аднолькавыя. У кожным разе, ёсць у іх нешта агульнае. Хаця і няпроста вызначыць словамі — што іменна. Магчыма, нейкая асаблівая шчырасць і апантанасць.

Літаральна пасля першага ж знаёмства з многімі мы арганічна пераходзілі «на ты». Асабліва прыязныя адносіны ўсталяваліся з Уладзіславам Казлоўскім.

У мінулым афіцэр Войска Польскага, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, Уладак Казлоўскі сёння—досыць прыкметная фігура ў польскім выяўленчым мастацтве. Ён прадстаўляе кірунак «прымітывістаў».

На мой погляд, гэты кірунак у двух словах можна акрэсліць як плынь, досыць-такі набліжаную да рэалізму. Але ў адрозненне ад мастацтва рэалістычнага, «прымітывістам» нестае дастаткова шырокага погляду на праявы рэчаіснасці. Яны нібы замкнуліся ў сваёй шкарлупе і нічога, акрамя «прымітыўнага» пагляду на рэчы, бачыць не жадаюць. Малююць свядома, нібы самавукі ці малыя дзеці. І ўсё гэта на поўным сур'ёзе. (Зразумела, можа я каго абражаю такім тлумачэннем «прымітывізму», але няхай мне даруюць—такі ўжо я чалавек, трымаюся рэалізму, прынцыпу нашага савецкага мастацтва).

Малюнкі Уладака Казлоўскага — вельмі абагульненыя, не без пэўнага настрою пейзажы, партрэты, у якіх не згубіўся чалавек, але ў характары чалавека падкрэслена толькі адна якаянебудзь рыса. Тэматычныя кампазіцыі—без пэўнага сюжэту, хоць і створаныя на аснове рэальнасці.

Пазнаёміўшыся з малюнкамі Уладака, я спытаў, як ён прыйшоў да такога «метаду»? Я ведаў, што Казлоўскі скончыў Кракаўскую акадэмію і пачынаў як рэаліст.

Уладак растлумачыў, што яго вабілі вельмі абагульненыя формы, манументальныя. Але манументалістам так і не стаў. Затое добра засвоіў абагульненую манеру і свае станковыя кампазіцыі стварае накшталт манументальных. Адным словам, спрашчае да прымітыву.

Я задаволіўся такім тлумачэннем і не стаў паглыбляцца ў тэарэтычныя спрэчкі.

Уладак суправаджаў мяне па выстаўках, якіх у Варшаве мноства, паказваў Варшаву, майстэрні мастакоў, гаспадары якіх сустракалі нас добразычліва, шчыра.

Між іншым, наведаў я некалькі майстэрань прыкладнікоў. Асабліва спадабалася мне, як польскія мастакі апрацоўваюць дрэва, метал. Звычайны цынк нагадвае срэбра! Прынамсі, на першы погляд, адрозніць не проста. Драўляныя і металічныя дэкаратыўныя пано, барэльефы, разьба, чаканка карыстаюцца папулярнасцю сярод варшавян, шырока прымяняюцца ў інтэр'еры.

### XIII

КОЛА маіх варшаўскіх знаёмых хутка расло. Я пазнаёміўся з мастакамі Эдуардам Грэлям, Уладзімірам Траяноўскім, Барбарай Стэфаноўскай, Рычардам Плоза-Далінскім, мастацтвазнаўцамі Міхайлоўскім, Яворскім, Міла-Бэндскай, паэтам Вецлавам Рустэцкім і іншымі.

У часе аднаго з наведванняў «Захенты» Коміньч прадставіў мне мастака Юльюша Краеўскага.

Сярэдняга веку, з вельмі выразным, інтэлігентным тварам чалавек. Разгаварыліся. Аказалася, што Краеўскі добра ведае многіх з нашых мастакоў. У свой час ён жыў у Заходняй Беларусі. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з Усходняй нават уступіў у Саюз мастакоў БССР.

Я вельмі ўзрадаваўся гэтай сустрэчы. Бо калі ад'язджаў у Польшчу, мае калегі-мастацтвазнаўцы прасілі даведацца пра лёс некаторых мастакоў з Заходняй Беларусі, сляды якіх згубіліся ў часе вайны. Краеўскі быў якраз тым чалавекам, ад якога я мог атрымаць пэўныя звесткі. Пералічваю прозвішчы мастакоў, чый лёс мяне цікавіць. Аказваецца, Тыбер—загінуў у варшаўскім гета Ляндау—таксама, Малярэвіч—жыве ў Варшаве!..

Так, сапраўды, калі я спытаў пра графіка Г. Малярэвіча — актыўнага ўдзельніка мастацкага жыцця былой Заходняй Беларусі, Краеўскі хітравата ўсміхнуўся.

— Так, так!.. Па-першае, гэты графік цяпер завецца Гелена Краеўская, а па-другое—гэта мая жонка. А ёсць яшчэ і па-трэцяе—яна цяпер працуе адказным рэдактарам папулярнага не толькі ў Польшчы часопіса «Пшэглёнд артыстычны»...

Вось дык вось!..

У гутарцы з панам Юльюшам пра мастацкія справы высветлілася, што польскія мастакі яўна недастаткова ведаюць сучаснае савецкае мастацтва. Ва ўсякім разе ўяўляюць яго такім, якім было яно гадоў пятнаццаць — дваццаць назад. За апошнія гады ў Польшчы пабывала некалькі досыць павярхоўных выставак савецкага выяўленчага мастацтва, якія, зразумела, не ахоплівалі ўсё яго багацце і слаба інфармавалі гледача пра сучасны стан нашага мастацтва. З беларускіх мастакоў польскія калегі памятаюць, бадай, аднаго толькі Міхася Савіцкага. Пан Краеўскі выказаў шчырае шкадаванне, што нашы мастацкія сувязі пакідаюць жадаць лепшага. А мы ж такія блізкія суседзі!.. Слушныя думкі выказаў ён адносна арганізацыі паміж сацыялістычнымі краінамі міжнароднай арганізацыі накшталт «СЭВа», якая займалася б арганізацыяй мастацкіх выставак, спрыяла б паглыбленню кантактаў паміж мастакамі.

Я з прыемнасцю прыняў запрашэнне пана Юльюша наведаць яго дома і пры першай жа магчымасці пабываў у гасціннай кватэры Краеўскіх на вуліцы Дамброўскага.

Пані Гелена Краеўская—вельмі мілая жанчына. Яна доўга распытвала мяне пра Беларусь, пра агульных нашых знаёмых—беларускіх мастакоў. Яе цікавілі жыццё і творчасць Івана Ахрэмчыка, Андрэя Бембеля, Яўгена Зайцава, Ядвігі Раздзялоўскай і іншых. У сваю чаргу я цікавіўся лёсам тых мастакоў, якія жылі ў былой Заходняй Беларусі і бралі ўдзел у выстаўках савецкага выяўленчага мастацтва пасля 1939 года.

Ды хіба раскажаш коратка пра ўсе спатканні і змястоўныя гутаркі, якія адбыліся ў мяне ў Варшаве. Пераважна гэта былі вельмі шчырыя гаворкі людзей, якія з глыбокай павагай ставяцца да агульнай справы—будаўніцтва сацыялізма. Праўда, здаралася пачуць і словы, ад якіх застаўся прыкры асадак, бо чулася ў гэтых словах рэха буржуазнай прапаганды. Але такіх людзей у Польшчы я сустрэў літаральна адзінкі.

За тры з лішнім месяцы ў польскай сталіцы я добра асвоіўся з горадам, знайшоў шмат шчырых, адданых сяброў. Плённай была мая праца ў Інстытуце гісторыі мастацтва, Нацыянальным музеі, варшаўскіх архівах, публічнай бібліятэцы. Матэрыялаў сабрана багата. Яны будуць скарыстаны ў далейшай маёй працы. І Варшаву я пакідаў з пачуццём смутку. Так бывае заўсёды, калі пакідаеш верных сяброў. А наперадзе мяне чакаў Кракаў.

### XIV

У КРАКАЎ поезд прыбывае зранку. Анфілада прывакзальных будынкаў. Сям-там выглядаюць гатычныя верхавіны касцёлаў, вежы старажытных замкаў.

Снежань — горад выглядае не дужа прывабна. Пачарнелы, закопчаны снег грудамі ляжыць паабапал трамвайных ліній. Надвор'е хмурыцца туманамі — сапраўдны «смог». Нават старажытныя сцены Вавеля і Барбакана ў такія дні мала кранаюць сваёй велічнай прыгажосцю. Але затое ў бібліятэцы ў такія дні — любата!..

Савецкая Армія выратавала Кракаў ад разбурэння—тут усё захавалася ў сваім натуральным выглядзе: кожны камень, кожная будыніна — сапраўдныя дакументы, а не копіі.

Трэба аддаць справядлівасць нашым польскім сябрам—яны ўмеюць шанаваць сваю гісторыю. Я, прынамсі, нідзе не заўважыў слядоў якіх-небудзь неапраўданых перабудовак альбо імкнення паднавіць архітэктуру, неяк яе мадэрнізаваць. Кракаў заўсёды застаецца самім сабой — велічным і строгім у сваёй непаўторнай прыгажосці.

Цэнтр горада быў калісьці абнесены высокай сцяной і вялізным ровам, як гэта заўсёды рабілі ў крэпасцях. Цяпер сцяны няма, а на месцы рова павырасталі магутныя дрэвы. Месца гэтае кракавяне завуць Плянтамі. Тут, непадалёк ад славутага Ягелонскага універсітэта, пасля прыезду з Парыжа Уладзімір Ільіч Ленін спаткаўся з польскім рэвалюцыянерам Сяргеем Багоцкім, які ўладкаваў яго на кватэру непадалёк ад цэнтра.

Хваляванне агарнула мяне, калі пераступіў парог Ягелонскай бібліятэкі, славутай на ўвесь свет. Тут бываў Ленін!..

І яшчэ для мяне, як для беларуса, Кракаў асабліва прывабны тым, што ў тутэйшых пачарнелых ад часу мурах набіраўся мудрасці наш Францішак Скарына. Тут пачынаўся яго шлях да тых ведаў, якія збіраўся аддаць ён люду паспалітаму ў сябе на радзіме...

А мастацкія традыцыі Кракава!.. У змрочным сярэднявеччы тут працаваў славуты Віт Ствош — аўтар непаўторнага па велічы і прыгажосці алтара для Марыяцкага касцёла. Яго манументальныя драўляныя кампазіцыі ўражваюць і будуць уражваць яшчэ не адно пакаленне. І сапраўды хвалюешся, сапраўдны боль праціnae цябе, калі даведваешся, што славуты скульптар так і не пабачыў плёну сваёй працы — каралеўскія служкі асляпілі разьбяра, каб не здолеў паўтарыць нешта падобнае. У Кракаве пачынаў Ян Матэйка. Тут дасягнуў творчай сталасці і зеніту славы заснавальнік польскай «сэцэсіі» Станіслаў Выспяньскі...

Нарэшце, Кракаўская акадэмія многімі сваімі традыцыямі звязана і з Беларуссю. Заснавальнік акадэміі прафесар Шыман Чаховіч працаваў у пачатку XIX стагоддзя ў Полацку. А яго вучань (таксама выхаванец акадэміі) Юзаф Пешка абышоў амаль усю Беларусь, дзе пачаў пісаць карціны ў нязвыклым тады жанры—кампазіцыйныя партрэты. Вярнуўшыся ў Кракаў, Пешка стаў рэктарам акадэміі. Наш слаўны зямляк Фердынанд Рушчыц таксама тут выкладаў...

Я прагнуў як мага хутчэй распачаць свае пошукі.

### XV

ПЕРШЫЯ мае крокі былі да прафесара Рамана Райнфуса — кіраўніка працоўні па вывучэнні народнага мастацтва пры Інстытуце гісторыі Польскай акадэміі навук.

Працоўня — на вуліцы Кармяліцкай — у трохпавярховай псеўдабарочнага стылю камяніцы. Гэта нешта сярэдняе паміж лабараторыяй, музеем, навучальнай установай. Працуе тут каля дваццаці навуковых супрацоўнікаў, якія займаюцца зборам і вывучэннем скарбаў народнага мастацтва і этнаграфіяй. Тут жа і кватэра прафесара Райнфуса.

Прафесар — сярэдняга веку рухавы мужчына з пасівелымі скронямі. Размова з ім адбылася за «круглым» сталом у прысутнасці ягонай асістэнткі Евы Смяжыньскай-Столят, спецыялісткі па народных промыслах. Пані Ева добра ведае рускую мову і ўвесь час старалася гаварыць толькі па-руску, каб удасканаліць свае веды. У мяне ж імкненне, зразумела, было адваротнае. І пытанні я задаваў па-польску, а адказы атрымліваў па-руску. Так што ўзбагачэнне вопытам было ўзаемнае!..

Высветлілася, што прафесар Райнфус і яго супрацоўнікі добра ведаюць працы нашых беларускіх этнографаў. Зразумела, у гэтым не апошнюю ролю адыграла асабістая цікаўнасць прафесара.

Мяне цікавілі тыя працы асістэнтаў прафесара, у якіх асвятляліся праявы народных матываў у польскім і беларускім іканапісе XVII—XVIII стагоддзяў. Абмен думкамі па гэтай праблеме адбыўся ў нас вельмі карысны.

На мой погляд, на беларускі іканапіс так званага «уніяцкага перыяду» моцны адбітак паклала народнае выяўленчае мастацтва. Да такой думкі прывялі шматлікія назіранні ў часе экспедыцыйных даследаванняў. Большасць святых угоднікаў намаляваны так, быццам гэта самыя звычайныя сяляне, рамеснікі!.. Аксесуары побыту святых нагадваюць прадметы хатняга ўжытку беларусаў. Падобную «вольнасць» маглі сабе дазволіць толькі мастакі, якія мелі адносную незалежнасць ад канонаў праваслаўнай альбо каталіцкай царквы. Як вядома, у пэўным сэнсе такая незалежнасць была ў уніяцкай царквы.

Прафесар Райнфус пагадзіўся з маімі меркаваннямі, расказаў мне пра аналагічныя назіранні ў польскім іканапісе.

У тую ж сустрэчу з прафесарам і яго асістэнткай была ўдакладнена праграма майго побыту ў Кракаве. Зрузумела, акрамя працы ў бібліятэках, музеях горада, прадугледжваліся экскурсіі па славутых мясцінах.

### XVI

ВАВЕЛЬ — рэзідэнцыя польскіх каралёў. Існуе больш 600 гадоў. Гэта ўмацаваны замак-крэмль, размешчаны на крутым беразе над Віслай. Ён абнесены высокімі тоўстымі сценамі, якія ўверсе маюць сярэдневяковага тыпу байніцы, машыкулі. З трох бакоў замак амывае Вісла.

Перад уваходам у крэмль — бронзавы Тадэвуш Касцюшка на кані. Здароў, славуты зямляк!.. Табе пашанцавала: у гады Вялікай Айчыннай вайны імклівае наступленне Савецкай Арміі не дало магчымасці акупантам здзейсніць свой чорны намер — разрабаваць мастацкія каштоўнасці Вавеля. А тое, што фашысты паспелі пашкодзіць, цяпер адноўлена. І Касцюшка паглядае зухавата!..

Заканчэнне. Пачатак у №№ 50 і 51.

Высокага гонару быць пахаваным у такім гістарычным месцы заслужыў і Адам Міцкевіч. Я пакланіўся яму.

### XVII

АПРАЧА Кракава і Варшавы, давялося наведаць яшчэ Уроцлаў і Пазнань. І паездкі гэтыя пераканалі мяне: у кожнага польскага горада—сваё адметнае аблічча. Так, калі Варшава пакідае ўражанне горада кантрастаў, дзе побач з ультрасучаснай архітэктурай мірна суіснуе старажытнасць, дык Кракаў—цалкам старажытны горад. Кракаў упарта трымае марку старадаўняй «пястаўскай» сталіцы—на кожным кроку тут гісторыя, быццам застылая ў камені: стылі змяняюць адзін аднаго.

Зусім інакшае ўражанне—Уроцлаў. Сюды трэба ехаць, каб пабачыць готыку ў самым чыстым выглядзе.

Першае, што кінецца ў вочы ва Уроцлаве, — старажытная гатыцкая ратуша на цэнтральнай плошчы. Яе стромкія вежы з ажурнымі акенцамі і рашоткамі, нібы сатканымі з дзівоснай кудзелі, узносяцца высока. Уроцлаўская готыка (шматлікія касцёлы і іншыя помнікі мінулага), адбудаваная пасля вайны, здзіўляе сваёй велічнасцю, манументальнасцю. Прыгожа!

Некалі ў 1945 годзе я праязджаў праз Уроцлаў і бачыў яго разбураным амаль на дзевяноста працэнтаў. Пабапал дарогі на кіламетры ляжалі груды бітай цэглы. Толькі дзе-нідзе ўзвышаліся цудам уцалелыя шкілеты былых дамоў. Кажуць, ва Уроцлаве адбываліся асабліва жорсткія бaі. Акружаныя гітлераўцы ўпарта супраціўляліся. Я тады і не мог уявіць сабе, што гэты мёртвы горад некалі ажыве і будзе выглядаць такім, якім быў да вось гэтага мора руін!.. Яго адбудавалі за рэкордна кароткі час. І дала пра сябе знаць характэрная для палякаў любоў да «старувкі»—амаль увесь цэнтр адбудаваны па архітэктурнай дакументацыі і малюнках XVIII стагоддзя, якія захаваліся ў архівах музеяў.

Зразумела, не дзеля аднае архітэктуры прыехаў я ва Уроцлаў. Тут у дзяржаўным універсітэце знаходзіцца славутая бібліятэка імя Асалінскіх—адзінае ў сваім родзе кнігасховішча, дзе мноства літаратуры па беларусазнаўстве. Заснавальнік гэтай бібліятэкі—гісторык і кнігавыдавец Асалінскі ў мінулым стагоддзі шмат цікавіўся лёсам Паўночна-Заходняга краю. Сябра Крашэўскага, ён карпатліва збіраў усё, што гаварыла пра культуру беларускага і ўкраінскага народаў. Цяпер у Польшчы нават выдавецтва ёсць, якое так і называецца «Асалінеум». Яно выдае навуковую і мастацтвазнаўчую літаратуру (дарэчы, і пра культуру старажытнай Беларусі). Пры бібліятэцы—унікальны кабінет гравюры. Тут сабраны тысячы рэдкіх малюнкаў і гравюр, многія з якіх маюць непасрэднае дачыненне да Беларусі.

Кабінетам гравюры кіруе наш зямляк са Слоніма пан Станіслаў Штраўс. Ён добра валодае беларускай мовай. Знаёмства з гэтым чалавекам было вельмі прыемным. Мы шмат гутарылі з ім пра Беларусь. Пан Станіслаў добра памятае родныя мясціны і марыць наведаць іх. Таму ён пытанняў задаваў, мабыць, больш, чым я. Пры дапамозе пана Станіслава я адшукаў у бібліятэцы адзіны экземпляр выдадзенага ў XVII стагоддзі ў Нясвіжы панегірыка ў гонар Радзівілаў з гравюрамі славутага нашага мастака Тамаша Макоўскага.

Цяжка нават пералічыць усе тыя багацці (літаратуру і гравюры), якія мне давялося перагледзець у бібліятэцы Асалінскіх.

Зразумела, многія выданні часоў буржуазнай Польшчы маюць варожую нам ідэйную накіраванасць. Але фактычны матэрыял, на які абапіраліся буржуазныя гісторыкі і мастацтвазнаўцы,—вельмі цікавы і патрабуе свайго сапраўды навуковага асэнсавання.

### XVIII

НЕЗАБЫЎНАЕ ўражанне пакінуў «Музеум Слёнскі» (Сілезскі музей). Велічны палацавага тыпу асабняк дамінуе над плошчай. У музеі сабрана багатая калекцыя барочнай драўлянай разьбы. Трапіла яна сюды са шматлікіх разбураных касцёлаў Сілезскага краю. Прaглядаючы гэтую разьбу, міжволі параўноўваў яе з той, якую адшукалі мы, супрацоўнікі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР, у часе летніх навуковых экспедыцый па Беларусі. Не, наша драўляная разьба больш рэалістычная, яна бліжэй да жыцця. Прататыпамі святых у нас, відаць, былі рэальныя, жывыя людзі. У постацях анёлаў і евангелістаў няцяжка пазнаць рысы звычайных сялян і рамеснікаў. А вось слёнская разьба—трохі інакшая. Яна больш вытанчаная, стылізаваная ў духу барока або класіцызму.

Апрача разьбы, тут багаты збор старажытных дываноў і габеленаў. Ёсць і вытканыя некалі на тэрыторыі былога Вялікага Княства Літоўскага. Іх пазнаеш па вядомай «Пагоні» — гербе літоўскіх князёў. Хто ведае, можа гэтыя габелены ткала беларуская сялянка дзе-небудзь у Карэлічах ці Нясвіжы?..

А яшчэ ўразіў музей досыць багатым зборам жывапісу мінулага стагоддзя.

Як са старымі знаёмымі, сустрэўся я з творамі Ф. Рушчыца, К. Альхімовіча, Ю. Пешкі і іншых мастакоў, лёс якіх быў цесна звязаны з нашым краем.

### XIX

ЯШЧЭ ў Варшаве я пазнаёміўся з мастакамі Уроцлава. Адзін з іх, Шміт, вялікі сябра Уладака Казлоўскага, вельмі зацікавіў мяне. Яго разважанні пра сучаснае мастацтва шмат у чым супадалі з маімі. Таму мне вельмі прыемна было сустрэцца з гэтым жывапісцам ва Уроцлаве і бліжэй пазнаёміцца з яго творчасцю.

Але найбольш блізка я сышоўся з перакананым рэалістам, надзвычай цікавым жывапісцам-пейзажыстам Станіславам Куклям. Сташак у свой час паспяхова скончыў Кракаўскую акадэмію. Потым у ліку лепшых студэнтаў быў накіраваны ў Ленінград у аспірантуру інстытута імя Рэпіна. Напісаў там дыпломную карціну і дысертацыю. Мае вучоную ступень кандыдата мастацтвазнаўства. Цяпер разам з жонкай Галінай працуе ва Уроцлаўскай мастацкай школе. Жонка Куклі — грамадзянка Савецкага Саюза, выкладае замежную мову. Некалькі вечароў у гэтай сям'і за традыцыйнай шклянкай «чарнай кавы» былі напоўнены гаворкай аб мастацтве. Вельмі прыемна гутарыць з прыхільнікам рэалістычнага мастацтва, які ўсімі сіламі імкнецца, каб урэшце менавіта рэалізм заняў у Польшчы вядучыя пазіцыі.

Кожны зразумее мяне, што назаўсёды незабыўнымі застануцца ў маёй памяці тыя дні, калі мы разам са Сташакам выязджалі на пленэр у горы. І хоць Судэты (як іх тут завуць) у раёне Уроцлава і Валбжыха не надта высокія, але затое—на дзіва маляўнічыя. Схілы густа параслі хвойнікам і лісцвянымі пародамі. Тут—некалькі польскіх дамоў адпачынку і санаторыяў. Сташак захапіў з сабой на эцюды шмат вялікіх палотнаў. Я нават жартаваў, што ён, маўляў, мяркуе прабыць на пленэры не менш як паўгода. Але неўзабаве пераканаўся, як хутка ўправіўся са сваімі «цыклапічнымі» палотнамі Сташак. Я ж пісаў эцюдзікі-мініяцюры на кардоне.

Асабліва здзівіў мяне Сташак умельствам «даводзіць свае палотны да завершанасці». Завяршаючы работу, кідаў напісанае палатно на зямлю, амаль цалкам засыпаючы снегам. Потым змятаў снег рукавіцай і ставіў «сушыцца». Праменні веснавога сонца растоплівалі рэшткі снегу. З палатна струменьчыкамі сцякала брудная, перамешаная з фарбамі і вугалем вада. Але—дзіўная рэч!—пейзаж адразу набываў нейкі «агульны» тон, своеасаблівы настрой. Я шчыра зацікавіўся «метадам» Сташака і з прыемнасцю аглядаў яго кожны новы «шэдэўр».

Маё знаходжанне ва Уроцлаве падыходзіла к канцу, калі я выпадкова даведаўся, што ў Ягелонскай бібліятэцы ў Кракаве захоўваецца адзіны экземпляр «Ружанца», выдадзенага ў гонар маршала Палубінскага ў XVII стагоддзі ў Слуцку з гравюрамі славутага «беларуска-ўкраінскага» мастака Аляксандра Тарасевіча. Зразумела, тэрмінова выехаў у Кракаў.

### XX

ПОТЫМ — Познань. Тут у асноўным цікавіў мяне мясцовы мастацкі музей, цудоўны збор польскага жывапісу.

Пашчасціла пабачыць рэтраспектыўную выстаўку твораў славутага польскага жывапісца XIX стагоддзя Яцака Мальчэўскага. Работы яго я ведаў раней. Але пабачыць ледзь ці не ўсё, створанае майстрам, у адной экспазіцыі—незабыўнае ўражанне.

Галоўны хавальнік Познанскага музея пан Міхайлоўскі памог мне знайсці ў музеі некалькі цікавых рэпрадукцый малавядомых твораў «маіх» мастакоў.

Навуковая камандзіроўка падыходзіла к канцу. Наперадзе была Варшава і... вяртанне на радзіму!..

Мае даўнія і новыя сябры шчыра пажадалі мне поспеху ў асэнсаванні матэрыялу, здабытага ў часе паездкі.

Ужо ў самалёце я думаў: мы жывём па суседстве, на не такой ужо вялікай планеце і здольны шмат у чым памагчы адзін аднаму ў рабоце. І гэта было прыемна.

Варшава—Мінск, 1970.

# ЛЁС ПРОСТЫ І ГЕРАІЧНЫ

*НАТАТКІ ПРА НОВЫЯ САВЕЦКІЯ ФІЛЬМЫ*

Лёс тысяч непадобных людзей праходзіць на экране перад гледачамі ў фільмах, зробленых на розных студыях Савецкай краіны. Але вельмі істотная рыса аб'ядноўвае характары герояў. Гэтыя звычайныя людзі ўбіраюць у сябе якасці, выхаваныя ўсім ладам савецкага жыцця. Героі гэтых стужак неаддзельныя ад рэчаіснасці, якая выкавала ў іх высокія маральныя прынцыпы, раскрыла лепшыя чалавечыя ўласцівасці. Жыццё жывіць творы мастацтва, а мастацтва, у сваю чаргу, імкнецца да актыўнасці ў сцвярджэнні ідэалаў сацыялістычнага грамадства.

## «ПЕСНЯ ПРА МАНШУК»

З экрана глядзіць амаль дзіцячы твар: дзяўчына-падлетак, коратка астрыжаная, у салдацкім ватніку, кірзавых ботах. Рэальная гераічная біяграфія сержанта Маншук Маметавай, казахскай камсамолкі, якой пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза, стала асновай фільма (студыя «Казахфільм») рэжысёра Мажыта Бягаліна і сцэнарыста Андрэя Міхалкова-Канчалоўскага. І не выпадкова фільм названы не проста імем гераіні, а «Песняй пра Маншук», аўтары падкрэслілі гэтым асаблівы рамантычны лад твора.

Таму і выбар выканаўцы галоўнай ролі ў карціне прыпаў на Наталлю Арынбасараву — актрысу, якая заўсёды шукае яркую эмацыянальную афарбоўку вобраза, якой проціпаказана прыземленасць. Гэта не значыць, што ў фільме Маншук прыўзнята над іншымі, што кінакамера вылучае яе з іншых людзей. Гераізм у гэтай стужцы не выстаўляецца напаказ, не дэманструецца, ён раскрываецца праз характар Маншук—мужны, моцны і паэтычны.

Рэжысёр перамяжоўвае два пласты — франтавыя будні гераіні і карціны роднай казахскай зямлі, каб глыбей пранікнуць у сутнасць натуры Маншук, якая адмовілася пакінуць пярэдні край — поле бою, на якім яна потым здзейсніла свой подзвіг. Трэба вельмі любіць сваю радзіму, гэтыя бяскрайнія стэпавыя прасторы, трэба вельмі даражыць жыццём, каб вось так — з нястрымнай адвагай, з адчайнай рашучасцю рвацца ў бой, ісці ў атаку. І аддаць жыццё за радзіму.

## «ДЗЕНЬ І ЎСЁ ЖЫЦЦЁ»

У франтавых абставінах адбываецца знаёмства гледачоў і з гераіняй карціны пісьменніка Рыгора Бакланава і маладога рэжысёра Юрыя Рыгор'ева. Толькі яна не баец, а жыхарка сяла, куды ўварваліся, адбіўшы яго ў гітлераўцаў, савецкія часці. На адзін дзень сустрэліся Каця і пяхотны лейтэнант, адзін дзень падараваў ім шчасце кахання, а раніцай рота пакінула вёску. І вось з фронту прыйшло паведамленне — лейтэнант прапаў без вестак. Кончыўся дзень—пачалося жыццё. Жыццё удваіх, з сынам.

Гісторыі гэтага жыцця прысвечаны фільм. Сурова і проста аўтары фільма паказваюць чалавечую драму, народжаную вайной. Жонка без мужа. Сын без бацькі. Колькі іх, падобных трагедый было пасля ваеннага ліхалецця. І якую сілу духу трэба мець, каб не сагнуцца пад напорам нялёгкіх выпрабаванняў.

Гераіня фільма «Дзень і ўсё жыццё». (Маскоўская студыя імя Горкага) — чалавек, які будуе лёс згодна са сваім маральным разуменнем і прынцыпам, народжаным маральнымі ўстоямі савецкага грамадства, этычнымі нормамі яго жыцця. Дабро і справядлівасць — гэтыя словы маюць для Каці дакладны і ёмкі сэнс, якім пагрэбаваць яна не можа. Нават калі да яе прыходзіць новае каханне, калі рэальнай становіцца магчымасць сям'і, шчасця, Каця адвяргае такую магчымасць, таму што яны прыйшлі б да яе цаною чужога няшчасця.

— Што ж ты зрабіла? Сваімі рукамі! — бядуе Каціна суседка.

Але Каця (актрыса Раіса Разанава) сваімі рукамі хоча стварыць іншае жыццё — без кампрамісаў, па высокім чалавечым сумленні. Яна глыбока перажывае сваё жаночае гора, але ў яе назаўсёды застанецца самая вялікая жаночая радасць — сын, якога яна выхавала сапраўдным чалавекам, які здолеў ацаніць яе мацярынскі подзвіг.

## «СВЯТЛО Ў НАШЫХ ВОКНАХ»

Так называецца новая карціна грузінскіх кінематаграфістаў — сцэнарыста Суліко Жгенці і рэжысёра Гугулі Мгеладзе. Мяккая, лірычная атмасфера, верагоднасць характараў, чалавечае абаянне галоўнага героя — гэта ўжо нямала для таго, каб фільм прыцягнуў да сябе ўвагу. І сапраўды, у гледачоў узнікае жывая цікавасць да ўзаемаадносін маладых рабочых-будаўнікоў і іх новага брыгадзіра Аляксандра, які пасяляецца разам са сваімі калегамі.

Хто ж такі Аляксандр? Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, старшына звыштэрміновай службы, пасля дэмабілізацыі прыехаў на адну з буйнейшых грузінскіх будоўляў — Інгуры ГЭС. Аляксандру недзе пад пяцьдзесят, а хлопцам яго брыгады, бадай, няма і дваццаці. На сучаснай будоўлі сустракаюцца два пакаленні. Спачатку хлопцы пакепваюць са «старамоднага навічка», але чым далей, тым больш іх скарае яго абаянне.

Вядомы грузінскі акцёр Давід Абашыдзе стварае вобраз чалавека душэўнага, чулага, які ўмее жыць чужымі радасцямі і клопатамі. Ён не толькі вучыць хлопцаў сапраўднаму рамяству, майстэрству прафесіі, ён дае ім куды большае — тое, што накоплена ваеннай біяграфіяй, вялікім чалавечым лёсам.

І калі глядзіш фільм, бачыш, што адна мэта ў старэйшага і маладога пакаленняў, што адзінства «бацькоў» і «дзяцей», узаемаразуменне і ўзаемапавага людзей—адзін з цудоўных законаў савецкага грамадства. І гэта не дэкларацыя мастакоў, а само жыццё, якое стала прадметам даследавання кінематаграфістаў.

Ніна ІГНАЦЬЕВА,
кінакрытык,
(АДН).




# ЛЕНІНСКАМУ КАМСАМОЛУ ПРЫСВЕЧАНА

Паўвекавая гісторыя камсамола поўная працоўных і ратных подзвігаў. Знайшла яна сваё адлюстраванне і на паштовых марках краіны — гэтых мініяцюрных дакументах эпохі.

Першая серыя марак пра камсамол была выпушчана ў 1938 годзе ў 20-ю гадавіну ВЛКСМ. Мастакі мовай мініяцюрнага плаката расказалі пра жыццё камсамольцаў 30-х гадоў. На гэтых марках мы бачым камсамольцаў на калгасных і саўгасных палях, у забоях шахтаў, на фабрыках і заводах, за вучобай.

За гады мінулай вайны тры з палавінай мільёны камсамольцаў былі адзначаны ўрадавымі ўзнагародамі, а сем тысяч удастоены высокага звання Героя Савецкага Саюза. Мастакі І. Дубасаў і В. Бібікаў прысвяцілі свае маркі Зоі Космадзям'янскай і Віктару Талаліхіну. Апошні паветраны бой 19-гадовага камсамольца Цімура Фрунзе адлюстраваў на паштовым знаку мастак Л. Галаванаў. У серыі маладых герояў можна знайсці маркі, прысвечаныя маладагвардзейцам, А. Матросаву, літоўскай партызанцы М. Мельнікайтэ, кулямётчыку Х. Нурадзімаву і многім іншым.

Яркія мініяцюры прысвечаны выхаванцам ленінскага камсамола Канстанціну Заслонаву, Мікалаю Гастэлу, Ціхану Бумажкову. У 1964 годзе была выпушчана марка з партрэтам слаўнай дачкі беларускага народа, Героя Савецкага Саюза Веры Харужай.

У пасляваенных серыях паштовых марак аб камсамоліі паказана самаадданая праца моладзі па аднаўленні народнай гаспадаркі, разбуранай вайной, на шматлікіх будоўлях пасляваенных пяцігодак.

Да XV з'езда ВЛКСМ Міністэрства сувязі СССР выпусціла марку з сілуэтамі двух камсамольцаў — у будзёнаўцы і ў шлёме касманаўта. Гэта камсамольцы пакаленняў Паўкі Карчагіна і Юрыя Гагарына, пакаленняў, якія аб'ядноўвае бязмежная адданасць справе партыі, любоў да Радзімы, гатоўнасць да подзвігу ў імя свайго народа.







Л. КОЛАСАЎ.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

Язэп ТАЎШЧЭЗНЫ

# ЗЯЛЁНАЯ РАПСОДЫЯ

## ВАРЫЯЦЫІ НА ТЭМУ НАРОДНАЙ ПЕСНІ

Сяброўскія шаржы А. САПЕТКІ.

*Зелянеюць, зелянеюць лугі,*
*сенажаці.*
*Пытаецца сын у мацеры,*
*Ды каторую браці...*

Цудоўную песню гэтую ў выдатным выкананні Міхася Шуманскага і Васіля Юневіча чулі, напэўна, многія. Адно не чулі тыя многія, як прагучала б славутая песня ў выкананні таго-сяго з нашых паважаных сучасных пісьменнікаў. А напісалі б яны паводле вядомай народнай песні, відаць, так...

## ФІЛАСОФСКАЕ ВЯСЕЛЬНАЕ

Максім ТАНК



Мне давялося быць сведкам,
Як зялёнай парой сенакосу
Хлапчына пытаўся ў матулі
Дазволу на шлюб,
Пытаўся,
Каторую лепш яму браці —
Ці багатую,
З каровамі і іншым статкам,
Ці з меншымі заробкамі,
без каровы,
Але з чорнымі брывамі.
І мне стала вельмі крыўдна,
Што нейкі струхнелы
Паша ці набоб
Меў магчымасць мець гарэм
У сто і нават тысячу
Пышнацелых, прыгожых жонак,
А малады — кроў з малаком —
Дзяцюк
Можа ажаніцца толькі з адной,
Хаця яму ўпору ўзяць абедзьвюх,
Бо ў гаспадарцы
І жыцці наогул
Вельмі спатрэбілася б усё —
І бровы і каровы.
Мне стала крыўдна
І вельмі шкада
Хлапца,
І я пайшоў у кафэ «Вясна»,
Каб выпіць кілішак кефіру
За здароўе
Усіх на свеце
Жаніхоў.

## НЕЙТРЫНА ЖЭНІЦЦА

Аляксей РУСЕЦКІ




Калі я чую: «Зелянее луг...» —
Ва мне ад крыўды замірае дух.

Калі мне кажуць: «Сенажаць цвіце...» —
Дзіўлюся зноў святой я прастаце!

Нейтрына, атам, квант і пазітрон—
Вось дзе пачатак, змест і ўвесь гамон.

У табліцы Мендзелеева шукай
Адказ на гора, радасць і адчай.

Вясна ідзе—нейтрына ў цвеце сіл.
Зялёны луг — буяе хларафіл!

Паэзія! Твой сэнс у $H_2O$:
Пі $H_2O$ і будуць вершы — во!

Для вырашэння ж больш складаных
спраў
Да $H_2O$ што-кольвечы дабаў!

Хлапчына з песні, чуеш голас наш:
К вадзе прыбаў $C_2H_5OH$.

(Хімсумесь гэту — радасць галаве —
Гарэлкай недасведчаны заве).

І гамлетаўскае «браці ці не браці!»
Больш не прымусіць турбаваці маці!

## МУРОЖНАЕ ВЫЙСЦЕ

Уладзімір ПАЎЛАЎ



Лугі рунеюць, зелянеюць —
Пакошаныя сенажаці.
Пад восень хлопцы ажно млеюць,
І тую й гэту хочуць браці.

У гэтай — чорненькія бровы,
У той — не дабярэшся толкам,
Ці то свіння ёсць і карова,
Ці то гараж з уласнай «Волгай».

Ды бровы могуць пазлінялі,
А «Волгу» ўходаюць дарогі...
Жаніцца з кім! Каго ж узяці!
Не возьмеш ўсіх — працягнеш ногі.

Ад маці толку не дабіцца,
А цешчам будучым — не верце,
І каб з выгадаю жаніцца —
Ул. Паўлава чытайце вершы!

Яны вам скажуць, хлопцы, шчыра —
І болей млець не давядзецца,—
Аб чым мая спявае ліра!
Бяры, якая пападзецца!

## КАГО БЯРЭШ, СЯРГЕЙ?

Аркадзь МАЎЗОН



Дзеючыя асобы:

Сяргей — сын у мацеры.
Наста — маці свайго сына.

Дзея перадапошняя, кульмінацыйная.

*Сяргей, некуды збіраючыся, голіцца новай электрабрытвай «Нева-3» і злуецца .Наста, уздыхаючы, сочыць за сынам.*

**Наста.** Зноў да багачкі сваёй сабраўся?

**Сяргей.** Агэ ж, мамбо. Куды ж яшчэ! Дача ў Крыжоўцы — гэта табе не баран чхнуў.

**Наста.** Ат шчасце, дача! Была б яшчэ і праўда дача, то — гарод. А што гэтая твая Серафіна сорак шостага памер абутку носіць, дык табе наогул не ў галаве? Не дзеўка — экскаватар! Як я яе потым нашай радні пакажу? Людскай жонкі, скажуць, сыну знайсці не змагла... Ды выключы ты сваю тарахцёлку! Размова ж важная, а ты...

**Сяргей.** А што параіла б, мамбо? Трэба ж, урэшце рэшт, нейкую чувіху браці!

**Наста.** Во бяда — дзявок яму ў Мінску мала! Бяры вунь інжынерку Жану. Бедная сіраціначка яна — бацька-палкоўнік год ужо пятнаццаць як памёр. А прыгожая ды танюткая, бровы чорныя — цуд!

**Сяргей.** Хэ, чорныя бровы! Ды ў той цырульні на праспекце за якіх там семдзесят капеек не тое што чорныя, а шэра-бура-малінавыя навядуць. Ды і што, мамбо, ёсць у тваёй сіраціначкі? Двухпакаёвая кватэра, «Масквіч», дарэчы, старога выпуску, ну там драбяза розная — тэлевізар, халадзільнік, пыласос ды якіх няшчасных пяць тысяч на кніжцы? Дачы і той няма. Во і жыві потым, як хочаш... Які я такі мужчына ды гаспадар буду? Жабрак!

**Наста.** Ты ж рабочы чалавек, сынок!

**Сяргей.** Хіба што. А Серафінін «продак» у гандлі адно не мільёнамі варочае, стаіць у чарзе на «Чайку». Бяры, кажа, маю кропельку, я вам сваю «Волгу» аддам, на трохпакаёвую кааператыўную адвалю ды яшчэ тысяч дваццаць кішэнных — на дробныя расходы... Гэта ён той «экскаватар» кропелькай заве! Ха-ха-ха!

**Наста.** Ну, калі б так. Ды глядзі, каб не ашукаў.

**Сяргей.** А мо і праўду ты, мамбо, вярзеш? Багатая ды няўдалая. Дачу дасюль не застрахавала. Згарыць дача, дык куды я з тым экскаватарам? Эх ты, доля наша мужчынская. Пакуль нявесту вартую знойдзеш, дык пазелянееш увесь... Не, яшчэ пакуль жаніцца не буду. Пачакаю да апошняй дзеі.

(Заслона).

## КАСІРКА КСАНА

*Псіхалагічнае апавяданне*

Янка СКРЫГАН



Аб тым, што калгасны электраманцёр Сымон апрача цялятніцы Феньки ўпадабаў яшчэ і касірку мясцовай крамы Ксану уся вёска даведалася а другой гадзіне ночы, калі за Прыпяццю ўвачавідкі зазелянела сенажаць.

Не паспеў Сымон, прыйшоўшы са спаткання з Фенькай, з большага перакусіць і патрусіць на луг, дзе яго чакала Ксана, як да Сымонавай маці, удавы Ганны, са спачуваннямі пацягнуліся прадстаўнікі вясковай абшчэсцвеннасці.

— Так во і сказаў, хросная: жаніцца хачу — паміраю, а каго браці — не ведаю, хоць утапіся,— выціраючы хусцінкай вочы, скардзілася Сымонава маці стогадовай Вольцы Змітраковай.— Фенька, кажа, пры пасадзе, над валамі ды каровамі хутка камандзіркай будзе, а ў Ксаны бровы чорныя, хоць ты яе замест партрэта на сцяну вешай... Паставіла я самагоначкі выгнаць, а сэрцайка свярбіць — заездзяць майго дзіцёнка тыя касіркі...

— Дубчом ажаніла б ты яго, Ганна, — абуралася Волька.— Шмаркач жалёны, шарака гадоў яшчэ нямашака, а туды ж — жанічча...

— Статыстыка, статыстыка, ліха на яе, вінавата,— выгэндрывалася Ганніна сяброўка Аўгіння.— Бач ты, на дзесяць нашых верціхвостак дзевяць хлопцаў. Во тыя і кідаюцца ва ўсе бакі, як чумныя, не ведаюць, каго б хутчэй ухапіць. Было б наадварот — рады былі б якой векавусе з дзіцем.

— Дубль, кажаш, зрабіў твой Сымонка,— разважаў раніцай у Ганнінай хаце сівавусы Стахван, даўнюткі балельшчык мясцовага «Дынама».— Э, вядома, молада ды зелена... Як лугі пакосяць, дык і пачынаецца ў хлопцаў зык, гойсаюць, таго-етага... Быў і я маладым, табун дзявок за сабой вадзіў. А яшчэ, таго-етага, ударам ад варот праб'еш — і гол ёсць, таго-етага! Гэта нічога, што ў свае вароты—гол ён ёсць гол... Ты вось што Ганнуся, выходзь за мяне, таго-етага... бо вячэру гатаваць няма каму... Моладзь, яна таго-етага, што да чаго — сама разбярэцца!

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.
Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856. АТ 23382

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62 аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.